**100 словаў.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2017. 346 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Укладальнік і рэдактар *Ян Максімюк*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

Кніга — анталёгія найлепшых тэкстаў, якія зьявіліся ў рубрыцы «100 словаў» на сайце Радыё Свабода ў 2014–2016 гг. Рубрыка набыла вялікую папулярнасьць сярод чытачоў сайту Свабоды, стаўшы дэмакратычнай плятформай для абмену творчым досьведам паміж прызнанымі аўтарамі і пачаткоўцамі.
У якасьці ілюстрацый у кнізе выкарыстаны рэпрадукцыі карцін, якія знаходзяцца ў свабодным доступе ў інтэрнэце (public domain).


FOL

ISBN 978-0-929849-83-6

# Зьмест



*Форд Мэдакс Браўн,*
*«Джон Ўікліф чытае свой пераклад Бібліі Джону Гонту»*

# Эвангельле ад Яна

Аказваецца,

Каб адрозьніць каханьне ад любові, паэзію ад пустаты, свабоду ад спакусы,

Каб падаць і падымацца, даравацць і прасіць прабачэньня, адчайвацца і зноў верыць,

Каб вандраваць вакол сьвету, вяртацца і знаходзіць сусьвет у сабе,

Каб успомніць забытае, пабачыць схаванае і знайсьці згубленае,

Каб расказаць, як мыюць ногі блудніцам, выганяюць гандляроў з храму і ператвараюць ваду ў віно,

Каб біць у сэрца мячом,

Дастаткова ста словаў.

Так вучыць Ян.

*Аляксандар Лукашук*

# Пра што мы думаем, калі ня думаем пра відавочнае

## Сьцісласьць як каштоўнасьць

Ідэю «сьцíслай рубрыкі», якая ажыцьцявілася ў выглядзе «100 словаў», мы на Свабодзе абмяркоўвалі некалькі разоў. Існавала больш-менш агульнае перакананьне, што варта знайсьці месца на нашай інтэрнэтнай старонцы для кароткіх занатовак, у якіх аўтары маглі б «адвесьці душу», час ад часу напісаўшы на тэму, не зьвязаную з нашым надзённым палітычна-эканамічна-сацыяльным мэню. Гэта значыць, пра нешта прыватнае, што складае зьмест адзінкавага жыцьця, але, тым ня менш, можа быць цікавае для іншых.

Я запрапанаваў, каб абмежавацца 100 словамі. І напісаў некалькі стаслоўяў на інаўгурацыю. Рубрыка рушыла ў лістападзе 2014 году, тэкстам «Бібліятэка Будучыні». Яна крыху нагадвае энцыклябпэдыю, толькі што без альфабэтнага ключа.

## Тэматычная свабода

Аб'ём рубрыкі мы жорстка абмежавалі — ня болей за 100 словаў. Затое далі аўтарам тэматычную свабоду. Хочаце пісаць пра каханьне або нянавісьць — калі ласка. Хочаце пра мурашкаедаў або дармаедаў — давайце. Пра памідоры на градах — нeблагая ідэя. Пра сьмерць у сям'і — таксама можна...

Тэматычная раскіданасьць стаслоўяў, мабыць, спачатку бянтэжыла як чытачоў, так і аўтараў. Ці ёсьць тут агульная ідэя, якая аб'ядноўвае гэтыя

допісы? Такая ідэя ніколі не фармулявалася намі эксплікацытна, але яна, спадзяемся, абрысавалася сама сабою: «100 словаў» — амбітная спроба духоўнага партрэту граматных беларусаў пачатку XXI стагодзьдзя. Інакш кажучы: пра што мы думаем, калі ня думаем пра Лукашэнку і Расею?

## Творчая дэмакратыя і яе межы

У рубрыцы зьяўляюцца тэксты як прафэсіяналаў — у тым ліку вядомых журналістаў і пісьменьнікаў зь білетамі — так і прынагодных аўтараў, якім мы адкрылі магчымасьць для творчага самавыяўленьня. Можна сказаць, што ў «100 словах» літаратурны дэмакратызм дасягнуў свае вяршыні. Але нават вяршынная дэмакратыя мае аўтарытарныя моманты. Гэта тычыцца кваліфікацыі допісаў у друк. У мяне, галоўнага кваліфікатара, няма часу, каб весьці карэспандэнцыю з кожным з магчымых і немагчымых аўтараў, якіх ужо далёка за сотню. Публікую або не, не тлумачачы чаму. Адчуваю, што тым, каго я не апублікаваў, лепш не трапляцца на вочы. Але я гатовы несьці і большыя ахвяры для беларускай літаратуры.

## Карцінкі

Без карцінак сёньня няма жыцьця.

Кожнае сталоўе ілюструецца жывапісам XIX стагодзьдзя або ранейшым. Як ні дзіўна, стары жывапіс настолькі «жывучы», што ім магчыма праілюстраваць практычна кожны сюжэт XXI стагодзьдзя. Гэта якраз той выпадак, калі кажуць: ars longa, vita brevis. Шкада, канешне, што зь меркаваньняў па-

замастацкага характару мы не змаглі апублікаваць гэтыя ілюстрацыі ў колерах.

У прынцыпе я магу апраўдаць выбар кожнай карціны, толькі што для гэтага спатрэбілася б аб’ёмістая кніга. Усім незадаволеным адсутнасьцю такога апраўданьня я раю глянуць на ілюстрацыі стаслоўяў як на асобны праект, паралельны да тэкставага: прыгадваем славутыя карціны і паказваем малавядомыя. Два зайцы адным стрэлам.

**Кніга**

У гэтай кнізе — 300 тэкстаў ад 100 аўтараў. Калі ня браць пад увагу паэтычныя анталёгіі, дык мы, магчыма, устанавілі рэкорд у беларускай выдавецкай справе паводле колькасьці тэкстаў і аўтараў, апублікаваных пад адной вокладкай. Але рэч тут не ў выдавецкіх ці літаратурных рэкордах.

Як сказаў славуты ірляндзец Джэймс Джойс, «літаратура ёсьць адвечным сьцьвярджэньнем чалавечага духу». Я ўпэўнены на ўсе 100 адсоткаў, што наша рубрыка «100 словаў» на Свабодзе ў першую чаргу служыла і служыць якраз гэтаму адвечнаму памкненьню — зразумела, у меру нашых магчымасьцяў і нашай вагі ў літаратуры. І спадзяюся, што наша кніга — годнае сьцьвярджэньне беларускага духу сёньня.

*Ян Максімюк*

## Бібліятэка Будучыні

Маргарэт Этвуд напісала твор, які апублікуюць толькі праз 100 гадоў. Канадзкая пісьменьніца — першая ўдзельніца праекту пад назвай Бібліятэка Будучыні, прыдуманага шатляндзкай мастачкай Кэйты Патэрсан. Праект пачаўся сёлета пасадкай 1000 дрэваў на ўскраінах Осла. Штогод на працягу стагодзьдзя адзін пісьменьнік будзе дадаваць тэкст да збору, які запачаткавала Этвуд. У 2114 годзе ўсе дрэвы сьсякуць і зробяць зь іх паперу, на якой надрукуюць тэксты Бібліятэкі Будучыні.

Праект, безумоўна, файны, але ён грунтуецца на дзьвюх аптымістычных прадпасылках: 1) людзі праз 100 гадоў яшчэ будуць цікавіцца літаратурай; 2) папяровая кніжка ўсё яшчэ будзе заставацца жывым артэфактам культуры. Адно і другое — ня факт.

*Ян Максімюк*

*Іван Шышкін, «Лясныя могілкі»*



# Літаратура як інструкцыя

Найлепшыя пэрспэктывы ў будучыні маюць тэксты-інструкцыі.

Інструкцыяй ёсьць нават Біблія. Гісторыі мінулага — таксама інструктаж: насьледуй праведнікам, будзеш выратаваны. Эстэцкі ўхіл літаратуры апошніх стагодзьдзяў быў часовым. Утылітарнасьць зноў мусіць заняць цэнтральнае месца. Даўным-даўно «інструктаж» адбываўся вусна — не было ні пісьменьнікаў, ні пісьменнасьці. Усё паўтараецца: мастацка-забаўляльны фармат вяртаецца ў аўдыё-візуальныя сфэры. Літаратура з маўклівавых графічных вышынь спускаецца ў анлайн-размоўнае балота. Людзі часьцей глядзяць ды слухаюць, чым чытаюць і думаюць. Але інструктаж — самая прагматычная літаратура — будзе запатрабаваны. Новыя машыны, тэхналёгіі, мэтодыкі аздараўленьня патрабуюць новых тэкстаў-тлумачэньняў. Каб выратаваць мову — стварайма інструкцыі. На ўсе выпадкі жыцьця. Мо так выжывем і самі?

*Васіль Аўраменка*



*Тэадор Русэль, «Чытачка»*

# Літаратура без канца сьвету

Многія беларускія празаікі па-ранейшаму пачынаюць кнігі з апісаньня прыроды, за іх акном усё той жа пастаральны пэйзаж, цішыня ды супакой, качкі ў сажалцы, кароўкі ў полі. Нават наваліўшыся ўсёй грамадою, яны ня здолеюць стварыць раман, у якім мэгаполіс застаецца зімою бяз сувязі і электрычнасьці — горад ім дасюль чужы, навукоўцаў, інжынэраў сярод нашых пісьменьнікаў замала. І калі праз пару гадоў у Беларусі будзе ўласная АЭС, пісьменьнікі не спытаюцца: «А што здарыцца, калі яна лясьнецца?» і ня зробяць прагноз, а толькі паправяць сваю карцінку на сьцяне і, уладкаваўшыся на канапе, працягнуць плесьці кашалі.

Няхай Армагедон пачакае — заўтра выйдзе новы «ЛіМ».

*Павел Абрамовіч*

*Пітэр Брэйгель Старэйшы, «Трыюмф сьмерці»*



# Перамога слабых

Нобэлеўская прэмія для Беларусі — як Чарнобыль наадварот.

Ейнае выпраменьваньне прасякнула б жыцьцё нацыі на пакаленьні наперад і асьвяціла б на пакаленьні назад. У гэтым сьвятле адкрылася б і стала існай уся Беларусь, мінулая і будучая, для сьвету і для сябе самой. Спраўдзілася б Купалава мэтафара пра пачэсны пасад між народамі.

З Нобэлеўскага п'едэстала загаварыла б уся наша задушаная, закатаваная, расстраляная ў XX стагодзьдзі літаратура і мова. Яна б уваскрэсла, як Хрыстос пасьля зьняцьця з крыжа.

Усё гэта — аргумэнты слабасьці. Вонкавае прызнаньне — пацьверджаньне істотнасьці існаваньня, яго вартаснасьці — патрэбнае тым, хто сумняваецца ў сабе. Беларусы сумняваюцца.

Толькі слабыя ведаюць, што такое перамога.

*Аляксандар Лукашук*

*Эліяс Марцін, «Густаў III наведвае Каралеўскую акадэмію мастацтваў»*



# Фолкнэр сустракае Маркеса

Архіў Габрыэля Гарсіі Маркеса, які памёр сёлета на 88-м годзе жыцьця, пераяжджае ў ЗША.

СМІ не паведамляюць, колькі Тэхаскі ўнівэрсытэт у Остыне заплаціў сям'і пісьменьніка за ягоныя рукапісы, нататнікі, фотаальбомы, лісты, дзьве пішучыя машынкі Smith Corona і пяць кампутэраў Apple. Але адзначаецца міжвольная іронія гэтай трансакцыі. Маркесу, сусьветна вядомаму прыхільніку Фідэля Кастра, амэрыканскія ўлады забаранялі ўезд у ЗША ажно да 1995 году. Маркес казаў, што хоча туды паехаць толькі дзеля таго, каб пабачыць мясьціны, дзе жыў і пісаў ягоны літаратурны кумір — Уільям Фолкнэр. Цяпер жа архіў Маркеса будзе захоўвацца дакладна там, дзе і архіў Фолкнэра — у Тэхаскім унівэрсытэце.

*Ян Максімюк*

*Ёзэф Дангаўзэр, «Чытаньне раману»*



# «Згубная звычка»

Усе надарылі мне ў сераду столькі кніг, моцных і пякучых, што ўжо тыдзень жыву ў нейкай іншай рэальнасьці. Кніжкі глытаюць мяне, і я ім аддаюся. Адно што стала дужа неўраўнаважанай. Я раней думала, што вось людзі дарослыя — яны загартаваныя, умеюць хаваць пачуцьці, быць цьвярозымі, цьвёрдымі і несэнтымэнтальнымі. Фігушкі — так, відаць, дурай і памру... Учора на вакзале, напрыклад, сядзела і раўла над Казанцавай (сын, як заўсёды, далікатна рабіў выгляд, што нічога не адбываецца). Мабыць, мне сапраўды лепш з дому не выходзіць, а то, бывае, магу ўспомніць якісьці верш і заплакаць, проста ідучы па горадзе.

*Наста Кудасава*

*Чарлз Джэймс Люіс, «Чытаньне каля акна»*



# Літаратурная крытыка

Найлепшае вызначэньне літаратурнай крытыкі, якое мне даводзілася чуць, агучыла Вібке Паромбка, нямецкі крытык. Яна сказала, што ў добрым крытычным артыкуле расказваецца гісторыя, якая трошкі выходзіць за межы кнігі, пра якую крытык піша. Такім чынам, крытыка — гэта таксама расказваньне гісторыі. Гэтая гісторыя другасная ў тым сэнсе, што крытыка, як і пераклад, абапіраецца на ўжо створаны твор, і ўсё ж яна таксама можа быць арыгінальнай — настолькі ж можа быць арыгінальным зроблены па-майстэрску пераклад мастацкага твора на іншую мову. Вызірнуўшы за межы кнігі, рэцэнзія можа пачаць існаваць самастойна. Галоўнае, каб кніга ні на імгненьне не гублялася з вачэй.

*Ганна Янкута*

*Аўгуст Эг, «Спадарожніцы»*



# Шыхтаваньне

Мароз і сонца...

Так, спадар Пушкін, сёньня такі дзень. Але, калі ласка, пасуньцеся трошачкі.

Вы, Маркес, станьце бліжэй да Дастаеўскага ды Караткевіча.

Спадарыня Ахматава, Вы ня супраць суседзтва з Блокам і Багдановічам?

О, спадар Шэксьпір, я закаханая ў Вашы санэты!

Спадар Сакрат, абавязкова паразважаю з Вамі аб быцьці.

Чэхаў, Гэмінгуэй, Бакача, Лёрка, Экзюпэры, Ніцшэ, Набокаў, Дантэ, Флябэр, Джойс, Сэрвантэс, Бальзак, Гётэ, Купрын, Гамэр, Фіцджэралд і...

Прыбіраю на кніжных паліцах...

Усё! З задавальненьнем аглядаю дружныя шэрагі кніг. Вось бы гэтак, бок пры боку, паўсталі народы гэтых пісьменьнікаў за мір на нашай неспакойнай плянэце. Зьдзейсьнілася б ня толькі мая Мара.

*Вікторыя Грыніна*

*Джон Артур Ломакс, «У бібліятэцы»*



# Астрыд Ліндгрэн і недзіцячыя гісторыі

У Швэцыі зьявіліся дакумэнтальны фільм пра Астрыд Ліндгрэн (1907–2002) і біяграфія, якія прадстаўляюць славутую пісьменьніцу ў новым сьвятле. У маладосьці Ліндгрэн шакавала наваколье сваім андрагінным выглядам ды мужчынскай стрыжкай і адзеньнем. Хоць ніколі не называла сябе фэміністкай, на практыцы такою была, стварыўшы несьмяротную ікону сучаснага фэмінізму — «дзеўчука» Піпі Доўгуюпанчоху. Цягам 11 гадоў перапісвалася з жанчынай, якая была ў пісьменьніцу закаханая і запаўняла свае лісты эратычнымі фантазіямі.

Для дарослых, зразумела, адкрываецца новая дзялянка літаратурных gender studies.

Як добра, што для дзяцей гэта ня мае ніякага значэньня. Ні для тых зь Бюлербю, ні для іншых, якія чытаюць кніжкі пісьменьніцы.

*Ян Максімюк*

*Джон Джордж Браўн, «Яблычны прэс»*



# Крытык зь пісталетам

У Андрэя Савіцкага быў пісталет. Усе, хто добра ведаў Андрэя, ведалі і пра тое, што ён можа ня толькі сказаць важкае і разумнае слова, але таксама стрэліць і патрапіць у цэль.

Калі ў літаратара, які піша крытыку, ёсьць яшчэ і агнястрэльная зброя, да ягоных парадаў варта прыслухоўвацца ўважліва. Прынамсі, праігнараваць крытыку ад гэткага чалавека не атрымаецца. Тут няма жартаў.

Страшнейшым за крытыка зь пісталетам можа быць толькі крытык з нажом. Агнястрэльная зброя ўсё ж больш гуманная за зброю халодную. Крытык з нажом — эталён. Не дарма пісьменьнікі кажуць, што іх кнігу «зарэзалі», а ня кажуць, што кнігу «застрэлілі» ці «забілі».

*Адам Глобус*

*Робэрт Бас, «Сон Дыкенса»*



# Салодкая атрута настальгіі

Чытаючы Вячаслава Адамчыка, зразумеў: галоўная хіба нашага пісьменства — настальгія. Яна — цэнтральны стрыжань, «вечны рухавік» белліту. Ды каб толькі белліту!

Палітыка, эканоміка, сама душа беларуса зачараваная непераадольнай любасьцю да блізкай ці далёкай мінуўшчыны. Усе тутэйшыя — ад першага прэзыдэнта да апошняга нацыянал-«ліцьвініста» — зьвернутыя тварам да мінуласьці, а задам... да будучыні.

Таму так скрушна ад нашай рэчаіснасьці (і літаратуры!), бо люстра беларускай душы здаўна перакуленае ў мінулае. Толькі разьвярнуўшы яго на 180 градусаў, скіраваўшы свае сілы і памкненьні ў прышласьць, можна будзе пераадолець стары заклён: наймацней любіць мінулае той, хто баіцца будучыні.

*Васіль Аўраменка*

*Юліюш Косак, «Табун на Падольлі»*



## чытаць

ня так даўно я адмовіўся ад алькаголю.

калі п'еш усе 360 дзён у год, выпадкова пакідаючы пару дзён цьвярозымі, губляеш пачуцьцё рэальнасьці, адчуваньне жыцьця, мозг здраджвае, інтэлект падае.

раней я мог чытаць раманы праз раз, і доўга марудзіў, выбіраючы аўтара.

а тут мой арганізм як падмянілі, ён усмоктвае інфармацыю з хуткасьцю сьвятла. я ўзяў «Уліса», якога пачынаў трыццаць разоў, і за тры вечары прачытаў, я разгарнуў апавяданьні По, ад якіх раней засынаў, і не загарнуў, пакуль не дачытаў.

сёньня я скончыў чытаць «Сагу пра Фарсайтаў», эпапэю, якая вісела на маіх плячах, пачатая ў шаснаццаць год.

*а. і. бацкель*

*Клёд Манэ, «Вясна»*



# Сьвятлана Алексіевіч як сэкта Лотасавай сутры

У «набэліяне» гэтага тыдня мяне не дзівілі крытыкі Алексіевіч, якім не падабаюцца яе погляды і творчыя мэтады. Разумеў я і абаронцаў, хоць часам крытыкі крытыкаў былі больш шалёныя за крытыкаў. Але недарэчна выглядалі тыя, хто хваліў пісьменьніцу, а потым выказваў расчараваньне яе лекцыяй, дзе Алексіевіч сабрала тое, за што ёй уласна і далі Нобэлеўскую прэмію.

Пясьняр японскага фэадальнага ладу Ямамота Цунэтома пісаў:

Адзін чалавек сказаў сьвятару Сюнгаку: «Сэкта Лотасавай сутры мае кепскую рэпутацыю, бо выклікае страх». Сюнгаку адказаў: «Менавіта таму, што яна выклікае страх, яна ёсьць сэктай Лотасавай сутры. Калі б яна мела іншую рэпутацыю, гэта была б зусім іншая сэкта».

*Аляксей Знаткевіч*

*Сьвятлана Алексіевіч*



# Даўнія пісьменьнікі

Лаўлю сябе на несуцяшальнай рэфлексіі: я перастаў чытаць кнігі дзеля прыемнасьці.

Чытаю, бо наогул трэба. Выйшла кніга беларускага аўтара, пра якую гавораць. Або кніга аўтара, якому гадоў 15 прарочаць «нобэль». За гэтую далі прэмію Ганкураў. А за тыя — «пуліцэра», «букера», «фэміну». Трэба зазірнуць.

Каб вярнуць памяць, як чытаецца дзеля асалоды, я стаў перачытваць даўніх аўтараў, пакаштаваных у юнацтве і маладосьці: Жуля Вэрна, Томаса Мана, Станіслава Лема, Івана Буніна, Кнута Гамсуна...

Даўнія пісьменьнікі — як даўнія магілы на вясковых могілках: выклікаюць больш спагады і павагі, чым новыя, але пісьмёны на крыжах зарасьлі мохам і прачытваюцца не адразу і ня цалкам.

*Ян Максімюк*

*Жуль Вэрн*



# 3000 аўтографаў

Вядомы пісьменьнік прынёс у выдавецтва грошы і выдаў новы раман трохтысячным накладам.

У прыліве натхненьня аўтар вырашыў падпісаць чытачам усе 3000 асобнікаў. Дырэктара выдавецтва прапанова чамусьці напружыла: «Маэстра, нам шкада Вашага каштоўнага часу...» Маэстра: «Гэта цудоўны творчы адпачынак». Дырэктар: «Апрача таго ня кожны хоча кнігу з аўтографам. Многія любяць чысты тытул». Маэстра: «У такім разе толькі расьпішуся побач са сваім імем». Дырэктар: «Добра, заўтра атрымаеце першыя 300 кніг».

Маэстра, праз тыдзень, заклапочана: «Пасьля першай партыі мне чамусьці нічога не вязуць». Дырэктар, урачыста і пераможна: «Гэта тэхнічна немагчыма. Увесь наклад у кнігарнях. Раман разьлятаецца, як гарачыя піражкі. Віншую!»

*Уладзімер Арлоў*

*Антуан-Жазэф Вірц, «Чытачка раманаў»*



# Апавяданьне

Я заўсёды чытаў бацьку свае апавяданьні. Я пісаў заўсёды гісторыі аб нашым мястэчку. Бацьку гэта было цікава, і ён заўсёды прасіў мяне пачытаць іх уголас.

— Мне цікава паслухаць, — казаў ён.

Паслухаўшы, ён хітравата глядзеў на мяне і кідаў заўвагу:

— Пакуль я слухаў цябе, мне карцела сказаць, што ўсё было крыху інакш, чым ты напісаў. Але даслухаўшы да канца, я ўжо сам сумняваюся, ці было ўсё так, як я памятаю, ці так, як ты расказаў.

І зьвяртаўся да маці:

— А як ты лічыш?

Маці адказвала:

— Усё было так, як Марат напісаў!

*Марат Баскін*

*Ільля Рэпін, «Араты. Леў Талстой на ральлі»*



# Толькі сто

Я заўсёды любіла і, думаю, умела пісаць. Настаўніцам відавочна падабаліся мае школьныя працы, мама ганарылася маімі лістамі зь летніх лягераў, у суполках прасілі менавіта мяне пісаць розныя тэксты дзеля прапаганды арганізацыі. Пісала я заўжды багатай, разьвітай мовай з багатым слоўнікавым запасам.

Я заўсёды ганарылася даўжынёй сваіх тэкстаў. У школах калегі ледзь-ледзь напісалі дзьве старонкі, а ў мяне заўсёды атрымліваліся чатыры, шэсьць... Мае лісты толькі зрэдку налічвалі менш чым дзесяць старонак, усе рэдакцыі скарачалі мае занадта доўгія артыкулы.

І раптам такая рэч, рубрыка «100 словаў»! Трэба паспрабаваць. Скажу вам адкрыта: для чалавека такога як я гэта сапраўдны выклік укласьціся ў сто...

*Světlana Vránová*

*Ян Вэрмэр, «Дама піша ліст»*



# Як «вада» па-беларуску?

Зайшоў я ў менскую вулічную кавярню, папрасіў кубачак кавы.

— Што? — перапытвае прадавачка.

— Адну каву.

— Што?

— A cup of coffee, — спрабую пажартаваць я.

— А, кофе, так бы й сказалі.

Пакуль варыць, кажу, што «кофе» па-беларуску — «кава».

— Я ведаю, — пазяхае прадавачка.

— А ведаеце, як будзе вада па-беларуску?

Яна задумваецца і прызнаецца:

— Ой. Забылася.

Тут ужо задумваюся я...

*Аляксандар Лукашук*

*Жан Бэро, «У кавярні»*



# Шкада лесу, або 100 словаў пра здраду

У замежнай кніжцы са смачным загалоўкам «Забойцы бяз твару» я даходжу да фразы bulorna och skrubbsåren lyste röda, у якой не разумею двух пачатковых назоўнікаў. Мне хапае ўсяго 5 сэкундаў, каб укляпаць гэтую фразу ў Google Translate і прасьвятліцца: bumps and abrasions shone red.

Пяць папяровых перакладных і тлумачальных слоўнікаў швэдзкай мовы на паліцы глядзяць на мяне з запыленым пузатым дакорам: я здрадзіў ім дазваньня, узяўшы сабе ў памочнікі машыну, робата.

Мне сапраўды шкада, што так атрымалася. Але я ўжо ў такім узросьце, калі грэх раскідацца сваім часам. І калі сапраўды хочацца пашкадаваць лес.

*Ян Максімюк*

*Адольф Шрэдтэр,*
*«Дон Кіхот чытае раманы»*



# Наткнуўся

Наткнуўся на артыкул пра сябе самога ў Вікіпэдыі.

Ажно там аўтары прыпісалі мне беларускае грамадзянства, якое я ніколі ня меў. Я паправіў на «Літва».

Праз хвіліну рупліўцы роднай тапанімікі пераправілі на «Летува» і дадалі «запыт крыніцы на летувіскае грамадзянства».

Пішу ў «гутаркі»:

*Я паправіў грамадзянства. Краіна, якой я грамадзянін, па-беларуску завецца Літва. Незалежна ад «правапісу». Пытаньне пра крыніцу сьмешнае, мне што — скан пашпарта даслаць?*

Мне адказ:

*Калі вы — Сяргей Шупа, то вашыя рэдагаваньні менавіта таго пляну выклікаюць канфлікт інтарэсаў. Вікіпэдыя імкнецца да распаўсюду нэўтральна асьветленай пацьверджанай вартымі даверу крыніцамі інфармацыі.*

І што рабіць?

*Сяргей Шупа*

*Ўільям Ф. Даглас,*
*«Паляваньне кнігалюба альбо Кнігарня Крыча»*



# #мне патрэбна

Каманда маладых стварыла партал для прызнаньня ў любові да беларускай мовы — http://mnepatrebna.by. Вы распавядаеце ў сацсетках, чаму мова патрэбная, з хэштэгам #мнепатрэбна.

Ці патрэбная Вам беларуская мова? Як што? Як форма зносін? Каб прыцягнуць да сябе дадатковы позірк у тралейбусе? Каб, прамаўляючы пяшчотнае «калі ласка», адчуваць цеплыню ўнутры?

Для мяне гэта як сувязь з сваёй зямлёй, роднымі, сябрамі. Як повязь з новымі плянамі і марамі, як погляд у будучыню, у якой ёсьць сэнс. Мова — гэта пацалунак ад Бога і аплявуха ад сваіх, што час ад часу папросяць «гаварыць нармальна». Мова — рашэньне любіць Бога і Бацькаўшчыну. Гэта #мне патрэбна.

*Наста Дашкевіч*

*Артур фон Рамбэрг, «Прызнаньне ў каханьні»*



# Biełaruskaja łacinka

Rymskaje piśmo adroźnivajecca ad kirylicy tym, što litary symetryčnyja i hladziać źleva naprava. Paradak u pryncypie mahčymy. 40% ziamlan pišuć łacinkaj, krychu mieniej — hierohlifami, arabskim piśmom, kirylicaj karystajucca 5,5%. Biełaruskaja łacinka vydatna raspracavanaja, nie zaznała «reformy» 1933 hodu i padziełu na taraškievicu i narkamaŭku. Łacinkaj pisali Kalinoŭski, Bahuševič, vychodziła mnostva knih i peryjodykaŭ, u tym liku dla dziaciej i škoły. Siońnia, u časy «русского мира», kali kirylica stanovicca adnym ź jaho raspaznavalnych znakaŭ, kali alternatyvaj imperyi moža być tolki Eŭropa, biełaruskaja łacinka abiacaje stać znakam paratunku dla nacyi i movy. Zachodniaja cyvilizacyja piša łacinkaj. Biełaruskuju łacinku padkazvaje nam pierakładčyk Google.

*Siarhiej Dubaviec*

*Edward Lamson Henry, «Viaskovaja škoła»*



# Млада пані

Беларускі наракаюць, што ўсе яны, любога ўзросту, да канца жыцьця «дзевушкі» альбо «жэншчыны». Камусьці пашчасьціць пачуць на свой адрас: «Дама». Часам гучыць «мадам» — але зь іншым адценьнем. У Чэхіі апроч звыклых «пані» і «слэчна» (дзяўчына), прывязаных да ўзросту, існуе наймілейшы зварот: «Млада пані». Тут няма правілаў: такі зварот наўпрост залежыць ад добрай волі таго, хто яго прамаўляе. «Млада пані» — паказьнік, што цябе успрымаюць маладой.

Беларускія мовазнаўцы, узбагачаючы слоўнік, прапануюць у дадатак да «спадарыні» — «спадарычну». Няхай бы падумалі над зваротам, які б нязьменна ствараў добры настрой у любой спадарыні, аднесенай адным словам да катэгорыі маладых. Ён прыжывецца, веру.

*Алена Радкевіч*

*Джэймс Тысо, «Маладая дама ў лодцы»*



# Ня выйшла ў людзі

Раніца. Іду праз вузенькі масток па-над возерам: дома, у бацькоў, так пачынаецца кожны мой дзень — наведваю на паўвостраве капліцу, пабудаваную калісьці панамі Мілашамі.

Насустрач — сусед з роварам. Хто каго вядзе — незразумела, бо дзядзька ўжо добра нападпітку. Дзядзька ня злы, харошы, а калісьці наогул быў адмыслоўцам-музыкантам. Вітаюся, загаворваем. Пытаю пра сваю аднаклясьніцу, яго дачку. Я гавару па-беларуску, сусед — па-нашаму (г. зн. па-мясцоваму, розьніца ёсьць!)

Сусед ахвотна адказвае. Пасьля, хітранька паглядаючы, падсумоўвае:

— Гляджу я на цябе штораз, Ленка, і дзіўлюся. І вучаная нібыта, і ў горадзе даўно жывеш, паабцерціся павінна — а гаварыць па-людзку так і не навучылася!

*Алена Масла*

*Мікалай Бадарэўскі, «Украінская дзяўчына з гусямі»*



# Настаўніцы

Пасьля пачаткоўкі мы трапілі да розных настаўнікаў. Адзінай настаўніцай, падобнай на нашу першую Лідзію Канстанцінаўну, была русічка. Тады я ня ведаў, што студэнткай яна трапіла ў Гулаг за беларускасьць. Але, як ні дзіўна, яна выкладала рускую літаратуру і прышчапіла нам на ўсё жыцьцё любоў да рускай паэзіі. І да беларускай таксама. Бо на яе ўроках гучалі і беларускія вершы. Яна паказвала, што і нашы паэты ня лыкам шыты.

А настаўніца беларускай мовы не адрывала вачэй ад падручніка. І нават раіла нам чытаць творы па-руску, дадаючы:

— Больш зразумееце!

А мы ж зь першай клясы вучылі беларускую мову!

*Марат Баскін*

*Ўільям Бромлі, «У школе»*



## «Архэ»

Майму бацьку 84 гады. Былы настаўнік расейскай мовы і гісторыі. Яго хобі — вывучаць пэрыяд Другой сусьветнай. Пасьля падзеньня камунізму ў Чэхіі прачытаў дзясяткі кніг з новым поглядам на гісторыю.

Нядаўна памерла мама, тата застаўся адзін. Як яго падтрымаць? Сябар-беларус даў мне нумар «Архэ», прысьвечаны ролі польскай арміі ў Другой сусьветнай. Тэма для таты. Аднак па-беларуску? Я паспрабавала. Тата разгарнуў часопіс, спытаўся, як чытаецца «ў», і праз нейкі час сказаў: «Будзе добра».

Учора ён расказваў аб прачытаным. Стары чэскі дзядуля, які ніколі ня чуў беларускай мовы, штовечар перад сном чытае чатыры старонкі.

А некаторыя кажуць, што чытаць па-беларуску цяжка...

*Světlana Vránová*

*Поль Сэзан, «Бацька мастака чытае L'Événement»*



# Нічога новага на сьвеце?

Цудоўны край — Сеньненшчына. І ў моўным пляне ўсьцешлівы. Не, родная мова тут не пануе — да гэтага не дайшло, а ўсё ж...

Мова лашчыць вока — назовамі на ўказальніках, цешыць вуха амаль ва ўсіх школах раёну.

Вось, здавалася б, нагода парадавацца за родныя віцебскія абшары. Ды не да радасьці. Бо чым бліжэй да абласнога цэнтру, тым менш эўфарыі, тым навязьлівей плішчыцца ў голаў паралель з выцясьненьнем старабеларускай мовы ў XVI-XVII стст. з гарадоў і мястэчак у вёску ды прышчапленьня ёй таўра непрэстыжнай, сялянскай.

Сёньня палову Віцебску абыдзі — за слова пабеларуску вока не зачэпіцца. Быццам дазваньня чужая дзяржава.

Прыкра, але што тут новага?

*Франц Сіўко*

*Пітэр Брэйгель Старэйшы, «Жніво»*



# Па-беларускаму

— Па-беларускаму «дзякуй», а не «спасіба», — павучае ў аўтобусе маладая маці дачку.

Малая ўслухоўваецца ў беларускамоўныя абвесткі прыпынкаў і згадкі пра павагу да старэйшых. На хвіліну сьцішваецца.

— А ў школе настаўніца, гаворачы пра «папу» назвала яго «татам», — стаміўшыся ад маўчаньня, дзяўчо зьвяртаецца да мамы. — Гэта таксама па-беларускаму?

— Анягож! — адказвае маці.

— А яшчэ на ўроку казалі «Увага». Гэта таксама па-беларускаму? — не сунімаецца малая.

Ейная маці сьцьвярджальна ківае галавою.

— Гэта «вніманіе». Я ведаю. Толькі настаўніца казала, што нада, мама, гаварыць не па-беларускаму, а па-беларуску. Гэтак правільна.

*Алесь Асіпцоў*



*Бэрта Марызо, «Калыска»*

# ЩЪ

На фотках з музэю Быкава ў машынцы на клявішах няма І і Ў, а ў рукапісах былі. Як так?

А быў такі чалавек — Ізя Якаўлевіч Няпомняшчы; яго памятаюць толькі тыя, каму сёньня за 50.

Ён прыходзіў дахаты і замяняў літары, а ўжо што наляпіць на клявішу — гэта была твая праблема. У мяне нават у старым тэлефонным нататніку тэлефончык захаваўся зь сярэдзіны 80-х...

І яшчэ ўспамін майго бацькі з халоднага лета 1953-га: у Пагосцкім МТС мянялі шрыфты ў машынках. Два тыдні ўсё было татальна па-беларуску, а пасьля Бэрыю расстралялі, і беларускія літары павырывалі ды паўстаўлялі назад расейскія...

*Сяргей Шупа*

*Друкавальная машынка*



## Сто гадоў беларускаму школьніцтву

У гэтым годзе Горадня адзначае стагодзьдзе першай дазволенай уладамі беларускай школы. А восем год таму я і некалькі бацькоў распачалі змаганьне за першую беларускамоўную групу ў садку, пазьней за магчымасьць навучаць дзяцей па-беларуску.

У гэтым годзе, пасьля ста гадоў беларускай школы, у Горадні па-беларуску вучыліся сорак дзетак... Двое зь іх — мае сыны. Гэта на чатырыста тысяч насельніцтва!

І гэта найлепшы паказьнік навучаньня па-беларуску ў абласных цэнтрах, бо ў Берасьці навучаецца чатыры вучні, а ў Магілёве, Гомелі і Віцебску — ніводнага!

Не пытаюся — чаму ўлады не адзначаюць гэтую дату. Не пытаюся нават — чаму грамадзтва не зьвяртае на яе ўвагу...

Маё пытаньне: куды пайшлі сто гадоў беларускага школьніцтва?

*Ігар Кузьмініч*

*Геранімус Босх, «Карабель дурняў»*



# Бязьлітаснае вяртаньне ў рэчаіснасьць

«Цягнік на Нясьвіж» — магутная песьня. Асабліва калі ведаць год выданьня: 1989. І калі слухаць у цягніку, калі за шыбай стракаты агністы захад.

Я толькі нарадзіўся ў 1989 годзе і магу адно ўяўляць, як тады было. З раньнім «Улісам» уяўляецца такі поўны спадзяваў час, упэўнены незваротны рух да каранёў, ад якіх адарвалі. Пасьпяховае завяршэньне пошукаў сябе ў маштабах цэлай краіны, у містычна-таямнічай атмасфэры. Час, калі хочацца жыць і даваць жыцьцё нашчадкам.

Заканчэньне песьні рыхтык супадае з прыбыцьцём у Менск. Цягнік прыбыў. Падымаесься, распраўляеш плечы, выходзіш на пэрон... а табе з «мацюгальніка» на ўвесь вакзал:

«...ЗОНА ПОВЫШЕННОЙ ОПАСНОСТИ, СОБЛЮДАЙТЕ ПРАВИЛА!»

Пераблытаў цягнік.

*Аляксандар Арсёнаў*

*Джордж Эрл,*
*«Паўночны накірунак. Станцыя Кінгс Крос у Лёндане»*



## Водар мовы

Адчуваю мову так, як людзі адчуваюць пахі. Найбольш прыемны для мяне водар словаў, пачутых аднойчы ў дзяцінстве, па дарозе ў вясковую школу, альбо прачытаных у тыя ж часы ў выцьвілых кніжках, купленых яшчэ маме, калі яна была малой дзяўчынкай...

Але, бывае, сьмярдзяць словы. Напрыклад, прыдуманыя хворай фантазіяй псэўдаінтэлектуалаў, адурманеных бляскам прэфіксаў і постфіксаў. Патыхае смуродам і ад мовы прафэсійных беларусаў, чыё жыцьцё застыгла паміж акцыямі ў падтрымку дэмакратыі і прапіваньнем атрыманых грантаў. Адварочваюся, калі раскрываюць рот піжоністыя маладзёны, для якіх роднае слова — танны спосаб самавыяўленьня — як татуіроўка, альбо завушніца...

Кажуць, беларускасьць адраджаецца. А мне не хапае сьвежага паветра.

*Анатоль Брусевіч*

*Вальтэр Фірле, «Кніга з казкамі»*



# Падзяка за выпіўку

*МІХАСЮ СТРАЛЬЦОВУ*

*Восень. Сівізна ды пазалота.*
*Веерам раскінецца лістота,*
*Зьмеценая ветрам да акна.*
*Адзінота, друг мой, адзінота.*
*Налівай віна.*

*Сядзем. Памаўчым ды пагаворым.*
*Дзякуй Богу, тут ніхто ня хворы*
*І няма пытаньня: піць ці не?*
*Апрыёры, друг мой, апрыёры:*
*Ісьціна ў віне.*

*Хораша сядзім. І п’ём са смакам.*
*За сьцяной сусьветнага барака*
*Вые недарэзаны сабака*
*У глухія, шэрыя палі.*

*А на шклянках — знакі задыяка,*
*Вершы па кутах — хоць печ палі.*

*Будзь.*
*Як той казаў:*
*хай скажуць дзякуй*
*нам, што мы пілі.*

*Уладзімер Някляеў*

*Віктар Оліва, «Аматар абсэнту»*



## Беражы сваю пячонку!

Нехта прапанаваў культурную і файную гульню ў фэйсбуку — запосьціць улюбёны верш, потым даць падобнае заданьне тым, хто гэты верш лайкнуў. Карацей — паэтычны флэш-моб. Мне давялося перакласьці два вершы, каб узяць удзел і ўнесьці ўклад. Як шчодрую ўзнагароду за свае натугі, я атрымаў надзвычай павучальны верш ад Сьвятланы Курс, вядомай у віртуале таксама як Філіф'ёнка. Каб больш такога, то, можа, і фэйсбучныя «срачы» спакваля прапалі б.

*Філіф'ёнка, Філіф'ёнка,*
*Выпіваха і гулёнка,*
*Дваццаць год твая пячонка*
*Хляла піва і палёнку,*
*І вінэчка, і каньяк*
*Жлукатала ты конь як.*
*Прывядзе цябе ігра*
*Як гуся на фуа-гра.*
*Беражы сваю пячонку,*
*Марны вогнік, Філіф'ёнка.*

*Ян Максімюк/Сьвятлана Курс*

*Эдгар Дэга, «Абсэнт»*



# На радзіме сярод нетутэйшых зорак

Позьні вечар. Амаль ноч. Іду ўздоўж Палаты. Праз раку стромкі схіл Верхняга замку. Недзе за сьпінаю, як у паветры, вісіць падсьвечаная Сафія. Чыстае неба мігціць зорамі і зыркім серпікам маладзіка. Мароз набірае абароты. Усё гучней рыпіць пад нагамі сьнег. І падумалася: так было і сто, і тысячу гадоў таму. І месяц у чыстым небе, і Палата, і мароз, і Калядны вечар. І ты ўжо быў. І гэта чарговы падарунак для цябе. І, здаецца, чуеш, як сьцішана, неяк далікатна, фыркае твой конь, якому не ўпершыню самастойна арыентавацца па халодных, недасяжных, нетутэйшых зорках.

*Алесь Аркуш*

*Вінцэнт ван Гог, «Зорная ноч»*



# Пустыя дні

*Паміж Калядамі і Новым Годам*
*няма амаль нічога.*
*Амаль усё можа зьмясьціцца*
*у звычайнай чорнай сумачцы...*

— напісаў мой улюбёны дацкі паэт ў вершы пад назвай «Паміж Калядамі і Новым Годам». Гэтыя словы я згадваю штогод пасьля каляднай мітусьні, калі да Новага Году застаецца два-тры дні, якія немаведама чым запоўніць. Запозна дарабляць ня зробленае ў бягучым годзе, зарана пачынаць новае, задуманае на наступны. Можна толькі сузіраць сваю безьзьмястоўнасьць, разам з паэтам:

*Дні не скарачаюцца*
*і жыцьцё не падаўжаецца*
*і сьмерць не набліжаецца.*

*І нішто не адчуваецца больш аддаленым*
*чым тое, што напісалася*
*у цені гэтага нізкага сонца.*

*Ян Максімюк*

*Клёд Манэ, «Сарока»*



# У палёце

Шчасьце — гэта калі ёсьць чалавек, якога можна пасадзіць насупраць і слухаць гадзіны напралёт, а потым гадзіны напралёт гаварыць, а потым зноў слухаць... А потым насіць гэта ў сабе як тайнае захапленьне. Яшчэ б знаходзіць часьцей гэтыя гадзіны, выкрадаць іх у сьпешцы, прысвойваць. Таму што вечна ўсё бягом-бягом... Прыяжджаю кожны раз зь Менску і толькі ўспамінаю вочы людзей і як шмат не пасьпела кожнаму сказаць. І ўсё роўна — я такая шчасьлівая цяпер ад таго, што камусьці і са мной можа быць добра. Дзіўна мне, лётаю.

*Наста Кудасава*

*П'ер Агюст Рэнуар, «Новы Мост»*



# Пунктуацыя як сэкс-арыентацыя

Бывае, прычэпіцца мэлёдыя і не дае спакою, пакуль ня ўспомніш.

Забыўся другі куплет песьні «Букет» (Я буду долго гнать велосипед...) на словы пранізьлівага расейскага паэта Мікалая Рубцова. Адкрыў Google:

*Я ей скажу:*
*— С другим наедине*
*О наших встречах позабыла ты,*
*И потому на память обо мне*
*Возьми вот эти*
*Скромные цветы!*

Толькі першымі адкрыліся сайты зь іншай пунктуацыяй:

*Я ей скажу с другим наедине:*
*«О наших встречах позабыла ты».*

Рубцова задушыла сваімі рукамі яго нявеста, таксама паэтка. Адседзела, піша розныя апраўданьні. Цяпер можа вэрсію пра зьмену сэкс-арыентацыі выключыць.

*Аляксандар Лукашук*

*Эдвард Робэрт Г'юз, «Ах, што там у яме?»*



# Заплаці вершам

У 23 краінах сьвету больш як тысяча бараў у сусьветны дзень паэзіі прадаюць філіжанку кавы за верш. У Чэхіі да акцыі «Заплаці вершам» далучыліся 12 кавярняў.

Я зайду ў Празе ў Café Louvre, дзе Кафка сустракаўся з Бродам, а браты Чапкі заснавалі ПЭН-клюб. Прачытаю ім па-чэску Барадуліна (http://realism.blog.tut.by/2010/06/11/rygor-baradulin-zhyvi/). Не за каву. Пабуду ў сьвеце, дзе мера каштоўнасьці — слова.

*Na čele věčnosti zůstal šrám*
*po hrůzném políbení.*
*Možnost vzít s sebou něco tam –*
*dokonce sám sebe — není.*
*Čas*
*je člun letící po vodě.*
*Tvé touhy*
*jen sladký dým.*
*To pamatuj,*
*žij dnešním dnem,*
*aby byl zítřek tvůj.*

*(Пераклад: Františka Sokolová)*

*Алена Радкевіч*



*Нікаля Пусэн, «Натхненьне паэта»*

# Слова і Дух

Што ёсьць Паэзія? Для кагосьці паэзія — уменьне жангліраваць словамі. Літаратурная гульня, сцэнічнае паяцтва. Для іншых, у іх ліку Купала, Колас, Багдановіч, паэзія — уменьне хадзіць па вадзе, левітацыя Духу. Нельга навучыцца хадзіць па вадзе, калі ты ня Бог... Нельга быць паэтам, калі не абагаўляеш Слова. Нашы вершы — сьляды на вадзе. Бязь веры ў Слова, яны — нішто, міраж. Гэта значыць, што Слова і Дух — ёсьць непарушнае адзінства. Бязь іх няма сапраўднай паэзіі. Сапраўдная ж паэзія нараджаецца тады, калі паэт перастае адчуваць сябе вязьнем чужых слоў, чужой музыкі, чужой душы... Калі становіцца самім сабой і нарэшце заўважае, як «Слова, крылы ўзьвіўшы, ператвараецца ў Дух...»

*Эдуард Акулін*

*Іван Айвазоўскі, «Хаджэньне па водах»*



# Што-нішто для празаіка-пачаткоўца

Крыху пра асаблівасьці запамінаньня.

*Тьма, во тьме закружились пустоты,*
*Осязаем и призрачен след.*
*Дунул ветер и следа как нет.*
*Слышен шаг наступающей роты...*

Лухта, вядома. Але помню са школьных часоў, аднойчы прачытаўшы.

Укінутыя ў прозу некалькі рыфмаваных радкоў могуць застацца ў памяці на ўсё жыцьцё. І чым большая лухта, тым мацней трымаецца.

Гэтыя радкі — з расейскамоўнага выданьня «Казак робатаў» Станіслава Лема. (Назву твора ўдакладняў у Вікіпэдыі, бо ня памятаю.)

А вось яшчэ — з О'Генры:

*Ророро, цыцыцы*
*Питерс, Такерс молодцы.*

Ня памятаю ні назвы апавяданьня, ні сюжэту. А імёны двух герояў, дзякуючы двум рыфмаваным радкам, убіліся ў памяць на ўсё жыцьцё.

*Сяргей Дубавец*

*Сальвадор Далі, «Трывучасьць памяці»*



# У чужым акіяне

*Я выплыў на прастор сухога акіяну;*
*Воз, быццам лодка, тоне, ў зелені нырае,*
*У хвалях кветак, шумных траў, мінаю*
*Здалёк каралавыя астравы бур'яну.*

Гэтыя радкі з санэту Адама Міцкевіча ў перакладзе Максіма Танка згадваюцца мне ў выходныя, калі мы з сабакам «патанаем» у зялёных хвалях траваў, зельля і кветак на шпацыры за нашай вёскай.

Сабаку ўсё роўна, дзе ён набярэцца тыднёвай порцыі кляшчоў.

А я ў гэтым акіяне сьляпога буяньня каторы раз шкадую, што ня ведаю назваў нават сотай часткі ўсіх расьлінаў, ня кажучы пра жужалак і казюрак сярод іх. Наўкол мяне — mare incognitum, у якім жыве чужая цывілізацыя...

*Ян Максімюк*

*Гюстаў Кайбот, «Рышар Галё і ягоны сабака»*



# Вясёлка

Пад ранічку прысьніўся сон.

Скончыўся дождж. І на мабільнік патэлефанавала суседка.

— Ільліч, паглядзіце, якая вялікая вясёлка. Я такой яшчэ ніколі ў жыцьці ня бачыла.

Зь неахвотай выходжу на двор. За празрыстай фіранкай свайго акна стаіць голая суседка і весела пасьміхаецца мне.

*Алесь Анціпенка*

*Эдвард Мунк, «Раніца (Голая каля акна)»*



# Як трэба?

«Жыць трэба з адчуваньнем, нібыта ў суседнім пакоі памірае тваё дзіця», — я ўпершыню пачуў гэтае страшнае выслоўе ад сваёй сяброўкі, беларускай паэткі, якая любіць творчасьць Аляксандра Башлачова, якому і належыць згаданая цытата. Я доўга думаў над тым, як мог паэт, жыцьцё якога абарвалася ў дваццаць сем, дайсьці да такой думкі? Адзіны ж ягоны сын, Ягор, нарадзіўся ўжо праз паўгода пасьля сьмерці бацькі.

І я вырашыў, што адораны чалавек, як воўк-адзінец, павінен жыць самотна, бо ён ня створаны для сям'і, ён створаны для людзей, і сыходзіць ён прылюдна. Рана ці позна кожны творца разьлічваецца за свой талент.

*Алесь Емяльянаў-Шыловіч*

*Генры Ўоліс, «Сьмерць Чэтэртана»*



# Як лёгка быць...

Як лёгка быць самотным паэтам! Загарнуцца з галавою ў швэдар, пад самыя вушы (менавіта, каб не расплёскаць уласнае сьвятло), іісьці куды вочы глядзяць (да сваёй любімай лаўкі).

Як цяжка быць самотным паэтам! Бо званьне Паэта абавязвае яшчэ і складаць вершы. І вось, паставіўшы да абеду працяжнік, а пасьля абеду закрэсьліўшы яго, ты зноў ідзеш шпацыраваць па месцах свайго бясслаўя.

Як нудна быць самотным паэтам, калі вакол усе вяселяцца, калі красавік раздражняе сваімі ўсьмешкамі і цеплынёй... і нечым яшчэ няўлоўным...

Як лёгка быць самотным паэтам, калі вакол так шмат самотных паэтак!

*Яўген Мартыновіч*

*Чарлз Мілс, «Мужчына гуляе ў лясным краявідзе»*



# Чысты востраў

Кажуць, нібыта існуе адно-адзінюсенькае месца на Зямлі, дзе людзі з цывілізацыйнага гледзішча жывуць у XXI стагодзьдзі, але не прычыняюць асяродзьдзю ніякай экалягічнай шкоды, нібыта ў біблейскія часы Эдэму. Гэтае месца — шатляндзкі востраў Эйг (Eigg), які знаходзіцца ў архіпэлягу Ўнутраных Гебрыдзкіх астравоў. Эйг мае памеры 9 на 5 кілямэтраў. Жыве на гэтай тэрыторыі прыблізна 80 чалавек, якія закупілі ад дзяржавы востраў на ўласнасьць. Амаль 100 адсоткаў патрэбнай востраву энэргіі жыхары атрымліваюць з аднаўляльных крыніц: сонечных батарэй, ветру, вады. Эканоміка вострава трымаецца ў асноўным на турызьме — востраў ганарыцца незвычайнай прыгажосьці краявідамі і 130 відамі птушак. На Эйг можна дабрацца паромам.

*Ян Максімюк*

*Лукас Кранах «Адам і Эва ў садзе Эдэму»*



# Горад, памяць

Калі я прыехала ў Прагу і з ныючай ад ночы ў аўтобусе сьпінай ішла ў бок Старамесцкай плошчы, я зноў адчула тое, што запомнілася пасьля папярэдніх паездак: я дома, мне добра, камфортна, ня чужа. Я памятаю разьмяшчэньне вуліц, памятаю, як прайсьці, праехаць у кожны ўлюбёны куток, памятаю, як усьміхаюцца людзі, і памятаю, як сама ўсьміхалася — і вось ужо першая ўсьмешка ад нейкага мінака, і вось ужо — мая зваротная. Усё як заўсёды. Кантакт з горадам. Кантакт зь людзьмі. Мне падабаецца тут шпацыраваць адной. Шпацыраваць гадзінамі і бяз мэты. Сядаць у вагон мэтро і выходзіць на выпадковай станцыі, зноў гуляць.

*Марыя Вайтовіч*

*Бэдржых Гаўранэк, «Востраў Кампа ў Празе»*



# Зікр

Сядай на 80-ы аўтобус, аўтобус-гармонік, і едзь па авэню дзю-Парк да авэню Фэйрмаўнт, у квартале Мэйл-Энд. Fairmount — па-ангельску «прыгожая гара», і гэтая назва нагадвае пра гару, што стаіць у сярэдзіне Манрэалю.

Прайдзі хвіліны тры ад прыпынку, і недзе паміж маўрытанскай рэстарацыяй ды габрэйскай абаранкавай пякарняй ты знойдзеш мячэць. Пачынаецца зікр, успамін Бога.

Разам з братамі і сёстрамі ты паўтараеш «Аллаг, Аллаг, Аллаг», і мэлёдыя падымаецца да нябёсаў. Потым вы вячэраеце з адной міскі.

Па дарозе дадому ты заходзіш у пякарню па абаранкі. А на аўтобусе чыйсьці тэлефон грае песьні зь фільму «Амэлі», адну за адной.

*Рашэд Чоўдхуры*

*Від на квартал Мэйл-Энд у Манрэалі*



# Liberland

Месяц таму чэх Віт Едлічка абвясьціў новую дзяржаву Liberland. Тэрыторыю, залесеную няўдобіцу, знайшоў паміж Харватыяй і Сэрбіяй. Непрадказальны Дунай, які спрадвеку тут вызначаў мяжу, узяў і памяняў цячэньне, пакінуўшы цэлых 7 квадратных кілямэтраў «нічыйнай зямлі». Liberland дэкляраваны ня проста як падатковы рай, але альтэрнатыва ўсякаму сучаснаму дзяржаўнаму дыктату. Канстытуцыя пішацца, фундамэнтальны прынцып вызначаны: «Жыць і даваць жыць».

Вокамгненна назьбіралася 300 тысяч заявак на грамадзянства. Харвацкая паліцыя адкінула жарцікі і ў выходныя Едлічку на месцы прэвэнтыўна затрымала.

На Балканы той чэх неабачліва палез. Нічыйнае балота, лапік Зоны, закінутая партызанская зямлянка і ў Беларусі б знайшліся — абы хацеў памяняць юрыдычны адрас.

*Алена Ціхановіч*

*Марцін Джонсан Гэд, «Возера Джордж»*



# Кант і Чалябінск

Аднойчы ў маладосьці мы зь сябрам паспрачаліся. Заклаліся. Хто прайграе, мусіў пайсьці на вакзал, узяць квіток і паехаць туды, куды той, хто перад табой у чарзе ў касу.

Прайграла я.

Людзі зь Менску ехалі ў Асіповічы, Рудзенск, Маладзечна. Чалавеку, які стаяў перада мной, аказалася, трэба ў Чалябінск. Пройгрыш, доўг гонару.

Двое сутак у цягніку. Афіцыянтка ў Чалябінску за польскую біжутэрыю пусьціла пераначаваць. Квіткоў назад не было. Рванула ў Казань, адтуль — у Рыгу. Там ужо амаль дома.

Тыдзень авантуры стаў фантанам уражаньняў. Зь некаторымі спадарожнікамі перапісваемся дагэтуль. Ні разу не пашкадавала, што паехала.

А спрачаліся пра тэорыю апэрцэпцыі Канта.

*Алена Радкевіч*

*Эміль Дэрстлінг, «Кант і яго субяседнікі»*



# Supolnaje

Pryjechaŭ siabar biełarus. Upieršyniu ŭ Čechii. Pryjechaŭ, kab pahladzieć českija ptuški. Pryjemny chłopiec. Na maju prośbu adrazu pierajšoŭ na dobruju biełaruskuju movu. Jamu ŭsio padabajecca — pryroda i ludzi, ptuški i harady, charčavańnie i mova... Vielmi zadavoleny čałaviek. Tolki adno jaho turbuje:

— Čamu, — kaža, — čechi ŭvohule ničoha nia viedajuć pra Biełaruś? My ž takija blizkija narody. Takija padobnyja adzin da adnaho. Majem stolki supolnaha. U čym tut sprava?

Nia vielmi ŭdała sprabuju tłumačyć niešta pra českuju niezacikaŭlenaść krainami ŭschodu.

Siabar pakidaje temu i pytajecca:

— A skažy, Čechija maje mora?

U mianie krychu pamienšała soramu za svaich.

*Světlana Vránová*

*Gustave Courbet, «Uźbiarežža ŭ Narmandyi»*



# Акуніцеся ў Браслаў

«Паехаць бы на экскурсію ў Рым ці хаця б у Кіеў! Ну, добра, можна і ў Нясьвіж».

Ці часта чуеце такое? Калі родны кут стаіць на апошнім месцы?

Да той пары, пакуль гэта будзе працягвацца, мы так і будзем глядзець самі на сябе з рымскага далёка.

І капіяваць іншыя ідэі, праекты, брэнды — іншую будучыню. Замест таго, каб даць прыклад самім.

Пачніце зь Нясьвіжу, акуніцеся ў Браслаў. Знайдзіце, за што можна любіць свой родны край. І тады — убачыце — рымляне прыедуць самі, паглядзець, што гэта за Belarus.

*Аляксей Чубат*

*Джон Ўільям Ўотэргаўз, «Лэдзі з Шалот»*



# Майсей

Мальта, жнівень, аўтобусны прыпынак у сярэднявечным гарадку. Дзябёлая цётка, цемнаскуры афрыканец, старэнькі сьвятар і я. Паўсюдна адно камень: брукаванка і муры крыжацкіх фартэцый.

Сьпёка накатвае хвалямі. Вады ні ў кога няма. Бліжэйшая крама зачыненая; сіеста.

Цётка адляпляе блюзку ад разамлелых цыцак. Афрыканец аблізвае засьмяглыя вусны. Сьвятар лашчыць ружанец. Усе мы з надзеяй паглядаем на фантан у сьцяне, які не працуе.

Зьяўляецца маладзён з сантэхнічным чамаданчыкам, і неўзабаве з каменнай сьцяны шугае пругкі празрысты струмень.

Сьвятар п’е, пасьміхаецца і нешта шэпча. Магчыма, гэта малітва падзякі. Але мне чамусь падаецца, што ён згадвае біблейскую гісторыю пра Майсея, які здабыў ваду са скалы.

*Уладзіслаў Ахроменка*

*Эжэн Фрамантэн, «Зямля смагі»*



# Потрясённый

Еду на літаратурны фэст у Баўгарыю. Прыемна пачувацца рэдкай птушкай: у цэлым вагоне «Москва — София» праз усю дарогу я адзін. Плюс маскоўскія праваднікі. На шчасьце, ня п'юць: Саша сьпіць, Гена чытае раман Рубінай «Пятрушка». Я чытаю беларускія газэты за тыдзень. Разьвітваюся зь імі ля кантэйнэра для паперы.

Зазіраю да Гены па кіпень. На століку раскладзены ўсе мае газэты. У правым стосе — «Народная воля», дзе Гена знайшоў расейскамоўныя публікацыі. «Я потрясён! — кажа Гена. — Я думал, ваша оппозиция только против батьки, а вы — против России и Путина!» Я: «Теперь не дадите мне кипятка?» Гена: «Кипятка — дам!»

*Уладзімер Арлоў*

*Васіль Пяроў, «Сцэна каля чыгункі»*



## Ляці туды, ня ведаю — куды

Дазнаўшыся пра атракцыён нябачанай шчодрасьці кампаніі Белавія, мы ў чатыры ноўтбукі спрабавалі набыць якія-кольвек квіткі на мора, але марна. Тады вырашылі выправіць маці ў верасьні на радзіму ў Краснадар. І так спрабавалі, і гэтак. Даводзілася раз за разам убіваць гарады, даты і пашпартныя дадзеныя. Тут раптам плацёж прайшоў, але, халера, на сакавік!!! Ладна, атрымала маці нечаканы падарунак на жаночы дзень.

Але мне карцела адхапіць танны квіток яшчэ куды-небудзь. І за 10 хвілін да канца акцыі я атрымала-такі лафу ў Піцер да сяброў. А тут яны пішуць, што акурат тады самі зьяжджаюць у адпачынак. Ну і як гэта называецца?

*Паліна Масьлянкова*

*Якаб Пэтэр Гоўі, «Палёт Ікара»*



# Усё для народу

1953-ці. Над возерам толькі чайкі. Ні качак, ні лебедзяў — ім ежы няма. Бацька кліча мяне разам ссоўваць човен у ваду, уваходжу ў яе і нечакана правальваюся ў ледзяную ямку, адкуль нейкая таямнічая падземная сіла бурліць фантанчыкамі пяску. Яшчэ, яшчэ... «Крынічкі», — тлумачыць бацька, нахіляецца, зачэрпвае ваду драўляным каўшом, што ляжыць на дне чоўна, і прагна п'е, нібыта ўсё жыццё пакутаваў ад смагі. Потым працягвае коўш мне...

...На адным з журналісцкіх сэмінараў галоўны рэдактар якойсьці з абласных «праўдаў» праліў сьлязу па Байкале — маўляў, гіне такі цуд. Я нагадаў пра Нарач. «А што Нарач?! — ускінуўся калега. — Там такі курорт пабудавалі! Усё для народу!»

*Сяргей Ваганаў*

*Чарлз Кортні Каран, «Эгіпэцкія гарлачыкі»*



## камандзіроўкі

сёньня я гутарыў з чалавекам, ад якога не чакаў ніякіх адкрыцьцяў... але яна мне распавяла, што ўжо пяты год запар зьяжджае кожныя тры месяцы ў камандзіроўку, якой насамрэч не існуе... яна адкладае са свайго заробку грошы, а потым выдаткоўвае іх на самотнае падарожжа... на тыдзень... яна сказала, што бяз гэтых «камандзіровак» даўно б разышлася з мужам, і можа быць нават пакінула б яму дзьвюх дачок... яна калі застаецца зь імі на доўгі тэрмін — ператвараецца ў сьцерву, нэрвовую маці... а ёй іх шкада... вось так яна і прыдумала як мага часьцей па магчымасьці зьяжджаць у «камандзіроўкі»: доўгія шпацыры па эўрапейскіх вуліцах лекуюць.

*а. і. бацкель*

*Джон Сінгер Сарджэнт, «Вуліца ў Вэнэцыі»*



# Куды сыходзяць грошы

Турысты зь Менску ходзяць залямі Нясьвіскага замку. Глядзяць, слухаюць аповеды пра гісторыю, уладальнікаў ды шмат пра што іншае, зьвязанае са слынным помнікам айчыннага дойлідзтва. Ужо пры канцы адна кабета гадоў трыццаці пяці пытаецца:

— Дык за чые сродкі ўсё гэта адрэстаўравана?

— За дзяржаўныя, — чуе ў адказ, — гэта аб’ект сусьветнай спадчыны UNESCO...

Далей яна ўжо ня слухае. На ейным твары расплываецца шырокая ўсьмешка.

— А-а-а, дык вось чаму мы так кепска жывем! Во куды ўсе грошы ідуць!

Кабета азіраецца і кідае пераможны позірк на калегаў. Тыя згодна хітаюць галовамі. Сям-там успыхваюць бліскавіцы залатых зубоў.

Людзі зразумелі.

*Яраш Малішэўскі*

*Бэрнарда Каналета, «Палац Шэнбрун у Вене»*



## Асацыяцыі

Прыяжджаюць госьці з Сэулу. Ваджу па горадзе, расказваю, што і як. Дайшло да Чарнобыля. «Гэта ж Украіна?» — кажуць госьці. Тлумачу, куды трыццаць год таму ветрык дзьмуў.

Прыяжджае праз месяц госьць з Казані. Ваджу па горадзе, расказваю, што і як. Дайшло да Чарнобылю. «Гэта ж Украіна?» — кажа госьць. Тлумачу тымі самымі словамі на тым самым месцы тое самае.

Адно з двух. Або трэба разгортваць інфармацыйную кампанію ў сусьветным маштабе. Або сядзець сьціхатою і радавацца, што беларускае малако асацыюецца ў замежнай публіцы са «смакам дзяцінства», а не са стронцыем ды цэзіем.

*Мікола Рамаўскі*

*Альфрэд-Арцюр Брунэль дэ Нэвіль, «Чатыры кацяняці, сьлімак і разьлітае малако»*



# Стандартныя ўраджаньні ад Менску

Знаёмы прыехаў з Чыкага на некалькі дзён наведаць нашу сталіцу. Ад раніцы да позьняй ночы хадзілі, цягаліся, соўгаліся мы зь ім па Менску. То ў музэй, то цікавосткі паглядзець, то выставу, то канцэрт, то спэктакль.

Такое ўражаньне, што аблёталі, аб'езьдзілі, абхадзілі, аблазілі ўвесь гэты вялізны горад. Насілу дыхаючы, змораныя прыпаўзалі позна ўвечары дахаты.

Сам даведаўся, дзякуючы сябрам, шмат цікавага і новага пра наш мэгаполіс. Замежнік быў задаволены. Яшчэ адзін з гарадоў «залічаны»!

Перад яго адлётам пытаюся, якія ўражаньні ад Менску ў трох словах, бо час ісьці на кантроль багажу.

Чакаю стандартны адказ пра чысьці...

А мой знаёмец: «Менск такі маленькі!»

*Ігар Кузьмініч*

*Жан Бэро, «Бульвар Капуцынаў»*



# Жыць, не зважаючы?

Я часам думаю пра тое, што мы вырашылі жыць, не зважаючы на дзяржаву і ўрад, быццам іх няма, проста белая пляма, і мы можам існаваць у невялікім культурным гета са сваімі гуманістычнымі каштоўнасьцямі і мець на нешта ўплыў. І думаць, што гэта нашае малое гета нясе адказнасьць за ўсё і ладзіць «срачы» і ўсе вінавацяць адны адных у неэфэктыўнасьці. Але насамрэч дзяржава існуе. Ёсьць вялікая машына, якая ўжо даўно вязе нас усіх чорт ведае куды, і яна дыктуе правілы ва ўсіх сфэрах. І яна таксама мусіць несьці адказнасьць. Ня трэба пра гэта забывацца і рабіць выгляд, што мы можам усё.

*Юля Цімафеева*

*Пэтэр Вільгельм Ільстэд, «Дзяўчына каля акна»*



# Двайны сэнс падзеяў

Часта кажуць, што Лукашэнку шанцуе, пастаянна здараецца нешта, што робіць для яго магчымым заставацца ва ўладзе. І кожны раз проста пад выбары.

Але на гэта можна паглядзець і інакш. Лукашэнку даецца шанец прыгожа сысьці.

У 2006 годзе ён мог сысьці як аўтар беларускага «эканамічнага цуду і росквіту». Сёньня гэта ўжо немагчыма і ня будзе магчыма.

Цяпер, у 2015, ён можа сысьці як галоўны міратворац, як чалавек, які выканаў гістарычную місію ў рэгіёне. Магчыма, што і гэта, як «эканамічны цуд», сыдзе на ніштó і скарыстацца ім будзе немагчыма.

Сыходзіць на піку ці ў піку, вось у чым пытаньне!

*Андрэй Дзьмітрыеў*

*Хуан дэ Вальдэс Леаль, «Finis gloriae mundi»*



# Па-за палітыкай

Спорт па-за палітыкай. Праца па-за палітыкай. Мастацтва па-за палітыкай. Творчасьць па-за палітыкай. Навука па-за палітыкай. Ды аднойчы «пазапалітычны» спартовец-рабочы-мастак-калгасьнік-пісьменьнік-навуковец будзе вымушаны думаць, як уцячы з гэтае краіны ад жабрацтва, акупацыі ці нават вайны, менавіта з-за нягеглых палітыкаў.

Па-сутнасьці, і нашы сёньняшнія «палітыкі» па-за палітыкай, бо іх прызначылі-абавязалі зрабіць выгляд, быць дэкарацыяй, масоўкай, муляжом, бутафорыяй. Палітыкі-махляры — яны тут нязьменна пры ўладзе больш за 20 гадоў. Яны заўсёды заклікаюць нас: «Ня лезьце ў палітыку!!!» Яны прывучаюць нас быць абыякавымі (а яшчэ лепш — баяцца). Ім падабаецца іх статус-кво. Ім патрэбная стабільнасьць трупярні, дзе ідэальная атмасфэра, дысцыпліна і кожны ведае сваё месца.

*Алесь Наркевіч*

*Энрыке Сіманэт, «Ускрыцьцё»*



# Бацькоўскі запавет

Пасьля тэракту ў менскім мэтро мы з калегам узялі інтэрвію ў колішняга ірляндзкага тэрарыста Шона О'Калагана.

«Мяне выхавалі зь перакананьнем, што забіць брытанскага вайскоўца ў Ірляндыі — не злачынства і ня грэх. Такія рэчы апраўдваюцца самі сабою», — сказаў нам Шон.

Шон далучыўся да ІРА ў 15 гадоў. Потым адмовіўся ад тэрору і стаў стукачом брытанскіх спэцслужбаў. Праз 12 гадоў прызнаўся, з уласнай волі, што забіў цяжарную жанчыну-вайскоўца і паліцыянта. Адседзеў восем гадоў.

Шон адмовіўся ад паплечнікаў і ад бацькоўскага запавету. Бацькоўскага апраўданьня для жыцьця і сьмерці яму не хапіла. Магчыма, ён падумаў пра сваіх ненароджаных дзяцей. Або пра чужых.

*Ян Максімюк*

*Дэніэл Макдональд, «Ірляндзкая сялянская сям'я знаходзіць гніль на сваёй бульбе»*



# Хто вінаваты?

Пачытайце нашых клясыкаў, прэсу, блогераў, альбо папросту запытайце самага звычайнага беларуса: чаму мы так жывем? Чаму маем такую дзяржаву? Чаму маем праблемы з мовай? Чаму адключаюць улетку гарачую ваду? Чаму сьмярдзіць у ліфце?..

Знойдзем красамоўныя адказы: Расея нас душыць, палякі — апалячылі, немцы — падступна напалі і палілі ў вёсках, дзяржава — дурыць на выбарах, ЖЭСы спагналі з нас грошы, але трубы не паклалі, ліфты не памылі...

Усё, што ў нас кепска, нам зрабіў нехта. І гэта заўсёды нехта той, нехта іншы...

А мо ўсё вынікае з нашай неарганізаванасьці? Нашай ляноты? Нашых сварак? Ці не жывем мы так з-за беларусаў?

*Ігар Кузьмініч*

*Джордж Фрэдрык Ўотс, «Знайшлі тапельніцу»*



# Зямля і кроў

З жыхаром заходняй краіны гутарым пра нацыяналізм.

«Божа, як мне сказаць знаёмым, што я сябрую зь беларускай нацыяналісткай?» — кажа ён.

«Мой нацыяналізм грунтуецца не на крыві, а на зямлі», — кажу я.

«Гэта іншая справа! Падобна на тыповы патрыятызм у маёй краіне», — узрадаваўся ён.

Эўрапейцы і амэрыканцы могуць не разумець наш нацыяналізм толькі таму, што мы не патлумачылі яго сутнасьць своечасова. Што беларусы — гэта ўсе, хто жыве ў Беларусі, і што мы здольныя растлумачыць гэта так, што кожны наш зямляк зразумее: «Беларусь перад усім» — гэта словы любові. У тым ліку — да яго асабіста.

*Тацяна Сьнітко*

*Карл Нордстрэм, «Поле аўса каля Грэзу»*



# Шаблязубыя беларускія фэміністкі

Магчымая кандыдатка на прэзыдэнта адказала на пытаньне, ці лічыць яна сябе фэміністкай: «Ні ў якім разе. Я чалавек, я жанчына».

Для яе слова фэміністка — лаянка, як для некаторых нацыяналіст ці лібэрал. Я адразу ўявіў палітыка, які кажа: «Я не сацыял-дэмакрат — я чалавек, я мужчына».

У кожнай ідэалёгіі ёсьць крайнасьці, асабліва калі яна робіцца паноўнай. Але ў Беларусі на слова «фэмінізм» дагэтуль масава рэагуюць прыблізна так, як некалі на «агрэсіўны блёк НАТО».

Нешматлікія знаёмыя беларускі, якія лічаць сябе фэміністкамі, мяне чамусьці не палохаюць. Можа, ня тых ведаю і недзе ў пушчы драпежныя амазонкі ўжо рыхтуюць расстрэльныя сьпісы мужыкоў?

*Аляксей Знаткевіч*

*Джон Кольер, «Лэдзі Гадыва»*



## Чаму добра быць былым прэзыдэнтам

У Малдове шэсьць былых прэзыдэнтаў, ва Ўкраіне чатыры. Калі я запісвала інтэрвію з Краўчуком, той перапытаўся: «15 гадоў Лукашэнка кіруе?» Ня ўкладвалася ў яго, што больш за 20, за якія столькі лідэраў зьмянілася ва Ўкраіне.

Калі ў краіне ёсьць былыя прэзыдэнты, дзейныя не баяцца сыходзіць. Бо ў былых усё ў парадку, рэпутацыя, статус, магчымасьць удзельнічаць у палітыцы (як у Кучмы). Цяпер многія пішуць, што Лукашэнка мог бы сысьці як галоўны міратворац, які выканаў гістарычную місію ў рэгіёне.

Насамрэч былым прэзыдэнтам быць добра. Адказнасьці меней, усе прэтэнзіі — да дзейнай улады, можна быць больш адкрытым і не баяцца паўтарыць трагічны лёс былых дыктатараў.

*Ганна Соўсь*

*Рэмбрандт Піл, «Партрэт Томаса Джэфэрсана, трэцяга прэзыдэнта ЗША»*



# Незалежнасьці зашмат не бывае

У амэрыканцаў ёсьць некалькі дзяржаўных сьвятаў у гонар заваёваў грамадзянскіх свабодаў — бо рабства і расавая сэгрэгацыя доўгі час былі невырашальнай праблемай. У літоўцаў існуе Дзень аднаўленьня літоўскай дзяржавы (16 лютага 1918), які адпавядае нашаму 25 сакавіка 1918, і Дзень аднаўленьня незалежнасьці (11 сакавіка 1990; адпавядае нашаму 25 жніўня 1991). Яны лічаць нармальным мець два сьвяты — нагадваючы, як няпроста давалася незалежнасьць. Думаю, аналягічна можа быць і ў нас — Дзень БНР (25 сакавіка) і Дзень незалежнасьці (25 жніўня). Можа быць і Дзень сувэрэнітэту (27 ліпеня 1990). Незалежнасьці зашмат не бывае.

*Сяргей Навумчык*

*Джон Трамбул, «Дэклярацыя незалежнасьці»*



# Кліч з-за бугра

Пры наяўнасьці інтэрнэту сьвет сьціскаецца, ужо як бы няважна, адкуль чалавек піша свае развагі наконт айчыннага жыцьця. Але ўсё ж здаецца, што сталае жыцьцё за мяжой накладае пэўныя абмежаваньні.

Нешта аналізаваць — калі ласка, хоць з Антарктыды. Аднак непрыстойна, напрыклад, з-за мяжы клікаць людзей на барыкады. Калі такі сьмелы — давай back in the USSR, у сэнсе — на бацькаўшчыну.

Эміграцыя можа быць на 150% абгрунтаваным крокам, можа быць вымушанай ці нават прымусовай, але той, хто эміграваў, мусіць маўчаць наконт маральных слабасьцяў тых, хто застаўся. Альбо поўная бясьпека за мяжой — альбо права судзіць.

*Юры Дракахруст*

*Эжэн Дэлякруа, «Свабода вядзе народ»*



# Kryvavy režym

Heta apazycyjny tarakan-mutant.

Jaho malujuć ahramadnym tarakaniščam, jaki zachapiŭ usich u pałon i pieramahčy jakoha nierealna. Čym jon bolšy i strašniejšy, tym hučniejšy zaklik apazycyjanera «Skinuć kryvavy režym!», i tym značniejšy sam apazycyjaner.

Usie razumiejuć, što nie taki ŭžo jon i kryvavy, kali kazać pra ŭsiu ŭładu ŭ krainie, nie taki ŭžo i režym. Nie kamendanckaja hadzina. Bolš nahadvaje kalanijalnuju administracyju ŭ styli kałhasnaha hlamuru: «поющие трусы» ź milicyjaj na padtancoŭcy.

I kali lapić tarakanišču, skažam, u skulptury, dyk składać vyjavu treba ź ciukoŭ sałomy, jak toje robicca na Dažynki.

Praŭda, i ab sałomu možna pakałoć ruki da kryvi.

*Siarhiej Dubaviec*

*Edouard Manet, «Rasstreł imperatara Maksymilijana»*



# Няхай і бяз масла

Здавалася б, беларуская незалежная журналістыка мае адзінага непрыяцеля — кіроўную сыстэму. Дык не — свае таксама «дапамагаюць».

Ня хочаш быць на пабягушках найбольш «папулярнага» ды «слушнага» трэнду ў палітыцы, дык ты такі і сякі. Калі не наўпрост, дык ускосна нагадзім за гэта. Трэба быць у «тусоўцы», «ну ты ж разумееш», трэба жыць надзённымі патрэбамі.

А я скажу — не! Не, бо ёсьць нешта больш істотнае, чым патрэба моманту. Мо й высакапарна, але працу дзеля таго, каб зрабіць журналістыку незалежнай, ніхто не адмяняў. Як і працу для будучыні Беларусі. Нават калі на хлебе за зробленыя грошы будзе меней, ці ўвогуле ня будзе, масла.

*Аляксей Дзікавіцкі*

*Пітэр Брэйгель Старэйшы, «Сялянскае вясельле» (фрагмэнт)*



# Добрыя людзі

«Майстэрня не мая», — тлумачыць сябра. Я люблю майстэрні мастакоў. Разглядаю дзірван дэталек інтэр'еру. Раптам бачу сьцяжок ДНР. «Гаспадар сьцяжкі калекцыянуе», — тлумачыць сябра. Унутрана пацiскаю плячыма: у калекцыях і не такая сымболіка бывае.

Сябра распавядае, які гаспадар добры чалавек. Тлумачыць, што яшчэ нядаўна гаспадар у Менску быў ледзь не імпэрац, а ў Расеі ўжо стаўся «бандэраўцам». Гэта мы абмяркоўваем апошнія два гады, якія зьмянілі рэальнасьць. Я зьбіраюся сыходзіць і раптам зноў выхопліваю дэтальку: «георгіеўская» стужачка, павязаная неўпрыкмет на балясіне.

Прыяцель ніякавата ўсьміхаецца. Я разумею, як ён перажывае. Я веру, што гаспадар сапраўды добры чалавек. І што так вось атрымалася.

*Севярын Квяткоўскі*

*Франс Франкен Малодшы, «Кабінэт калекцыянэра»*



# Лянівая рака

Лета. Мама тэстуе новы аквапарк «Дрымлэнд». Вяртаецца незадаволеная.

— Уяўляеш, яны мяне выгналі зь «лянівай ракі»!

«Лянівая рака» — папулярны атракцыён аквапаркаў. Струмень вады пад напорам гоняць па штучным рэчышчы, так, каб ён цягнуў за сабой купальнікаў. У новым аквапарку даўжэзная «лянівая рака» — цэнтар усяго комплексу.

— Аказваецца, у той рацэ нельга рухацца, а можна толькі ляжаць на вадзе, прычым на надзьмутым коле! — абураецца мама. — Ну як можна ляжаць? Я добра плаваю: выплывала з адкрытага мора!.. Так што я ўсё адно плыла па той рацэ. Дык пад канец яны мяне баграмі выштурхалі.

Лянівая рака — сымбаль сучаснай Беларусі.

*Марыя Мартысевіч*

*Фрэдэрык Эдвін Чэрч, «Ніягарскі вадаспад»*



## Куды ідзем?

Прыехаў сусед з гораду. Распытаў пра маё жыцьцё на самоце. Паскардзіўся на цэны. Задаў пытаньне: «Куды мы ідзем?!» І абураны пайшоў.

Наўздагон падумалася: «Лепей, відаць, запытацца не „Куды ідзем?”, а „Куды нас вядуць? І што нам там трэба?”»

*Алесь Анціпенка*

*Анібале Карачы, «Quo vadis Domine?»*



# Чаргаваньне часоў

Студзень 1990 году, вуліца Vodičkova ў Празе. У паветры яшчэ адчуваеш водгукі аксамітнай рэвалюцыі. Людзі ўсьміхаюцца. Рускай мовы ня чуеш. У арцы перад кнігарняй ляжаць папяровыя скрынкі з кнігамі савецкіх аўтараў. Можна бясплатна набіраць што хочаш, перад тым, як выкінуць у сьметнік. Наш народ не сьцярпіць ніякіх сьлядоў ненавіснай дзяржавы! У зьдзіўленьні ад абмежаванага мысьленьня, ратую Талстога і Някрасава.

Кастрычнік 2016 году, вуліца Vodičkova ў Празе. Водгукаў аксамітнай рэвалюцыі даўно няма. Людзі не ўсьміхаюцца. Рускую мову чуеш усюды. У той самай арцы мне ў вочы кідаецца кірылічны надпіс: «Русские книги».

Відаць, калі можна зарабіць, і найлепшыя намеры зьнікаюць.

*Světlana Vránová*

*Эдвард Мунк, «Вечар на вуліцы Карла Югана»*



# Семкі

Я іх мэтавая аўдыторыя. Мужчын 40+, якія былі ў РФ на заробках. Я — у цягнік, яны ўсьлед. Нібы пільнуюць. Ня маю тэлевізара, дык ён мне помсьціць, бегае за мной на чалавечых нагах. Вось зноў «Гарызонт» падсеў у купэ. Казаў, як добра ў Расеі, на Поўначы. Як кармілі! «Такі размах, гэта Расея! Па два, тры кавалкі курыцы можна браць у сталоўцы!». Вочы гарэлі, жоўтыя кружочкі курынага тлушчу пераліваліся ў шэрых зрэнках. «На сталах — гарчыца, кетчуп, соўсы! Бяры колькі хочаш! Такі размах!».

На станцыі працягнуў руку. Чаго ён хоча? Падала запальнічку — захітаў галавой. У жмені — чорнае-страшнае. Жукі, прусакі? Рагоча: «Семкі будзеце?».

*Алена Германовіч*

*Фэрнан Кнопф, «Я зачыняю свае дзьверы за сабою»*



# Менская карма

Прыехаў у Менск амэрыканскі прэзыдэнт Рычард Ніксан у 1974, усклаў вянкі, выпіў за здароўе Вольгі Корбут, вярнуўся у Вашынгтон і пайшоў у адстаўку.

Ягоны памочнік Пэтрык Бюкенэн, які суправаджаў у паездцы, тройчы вылучаўся і тройчы прайграваў праймэрыз.

Прэзыдэнт Біл Клінтан адведаў Менск ў 1994 і атрымаў імпічмэнт.

Гілары Клінтан правяла тады ў Менску адзін дзень і прайграла выбары.

Кіраўнік Беларусі Станіслаў Шушкевіч адведаў Белы дом ў 1993 і страціў пасаду.

Першы прэзыдэнт Беларусі ніколі ў Белым доме ня быў і ўсё яшчэ першы.

Наступны прэзыдэнт ЗША у Менску таксама пакуль ня быў...

Цікава, ці будзе абмен візытамі на найвышэйшым узроўні?

*Аляксандар Лукашук*

*Грант Вуд, «Амэрыканская готыка»*



# Разам

Я люблю слухаць гісторыі. Некаторыя зь іх вартыя раману. Гэтая не была апісаная ў аніводнай з кніг.

Сьведкам быў вязень ГУЛАГу, беларус Мікола Канаш. У бараку жылі сотні людзей. Штодня ім прыносілі хлеб. Потым адчыняліся дзьверы, заходзілі крымінальнікі з нажамі і забіралі гэты хлеб. Тры асобы ў сотняў. Усе галадаюць. Усе баяцца. Ніхто нічога ня можа зрабіць. І так кожны дзень. Першымі аб'ядналіся эстонцы. Яны кінуліся на гэтых бандытаў, і тады кінуўся ўвесь барак. Бандзюкі былі страшныя датуль, пакуль людзі не аб'ядналіся.

Па вялікім рахунку, нават і мільён можа быць нічым, калі кожны сам сабе.

*Дзьмітры Гурневіч*

*Ўільям Паўэл Фрайт, «Адплата»*



# Могілкі талерантнасьці

Адно з самых таямнічых месцаў Прагі — старыя, даўно не дагляданыя Талеранцыйныя могілкі. Схаваўшыся між загарадных дамкоў на паўночным схіле трагічнай для чэскай гісторыі Белай Гары, гэтыя самыя малыя (10×16 мэтраў) праскія могілкі найперш уражваюць сваёй назвай, карані якой хаваюцца ў гістарычнай смузе. У 1781 годзе аўстравугорскі імпэратар Ёзэф II выдаў «Талеранцыйны патэнт», які дазволіў у пэўных рамках дзеяньне пратэстанцкіх веравызнаньняў. Увайшоўшы ў браму, нібы трапляеш у зачараваны лес — удзірванелыя магілы спавітыя густым плюшчом забыцьця. Малы лапік талерантнасьці, схаваны ў сонным прадмесьці вялікага гораду, прымушае задумацца, як мала талерантнасьці і спагадлівасьці мы бачым у віры штодзённага жыцьця.

*Сяргей Шупа*



*Каспар Давід Фрыдрых, «Могілкі пад сьнегам»*

## забарона

калі я ўзяў яе за руку, яна сказала, што на гэта існуе табу. яе прыватнае табу, як у Палінэзіі. я сказаў, што паважаю прыдуманыя ёю законы. але табу на рукі выглядае як забарона на дэсэрт: навошта мне яе вусны, калі яны цалкам даступныя, і мне непатрэбны яе грудзі, бо, да таго як іх крануцца, мне неабходны яе рукі. яна сказала, гэта прынцыпова, бо абяцала сваёй маці, што калі ўжо возьме кагосьці за руку, то гэта будуць толькі яе муж і дзеці.

і мы вырашылі павянчацца, бо рукі яе былі маленечкія, малочнага колеру, з кашэчымі кіпцюрыкамі, і да ўсяго пахлі цытрынамі.

*а. і. бацкель*

*Ян ван Эйк, «Партрэт Джавані Арнальфіні і ягонай жонкі»*



## Варшава магічная

Хадзеце па вуліцы Вароніча ў Варшаве.

Ішла я раз там уначы дахаты і бедавала, што яблыкаў дома няма, а шарлоткі нараніцу захочацца. Гоп! — на дарозе ў пляме сьвятла ляжаў румяны і бліскучы яблык велічынёй з малы гарбузік. Падабрала, не пагрэбавала. А сёньня іду па Вароніча і думаю: а колькі ж гэта я цяпер важу? Гоп! — ля плота пры сьметніку стаяць фіялетавыя вагі. Узьлезла — працуюць.

Буду думаць пра вялікія жаданьні на вуліцы Вароніча, а то дзьве спробы страчаныя.

*Сьвятлана Курс*

*Бэрнарда Бэлёта (Каналета), «Від на Варшаву з прадмесьця Прага»*



# Гаючыя імпульсы

Не заўжды стае сьмеласьці сказаць асабіста... але я так удзячная тым, хто здалёк, з адлегласьці, пасылае мне свае гаючыя імпульсы, хто добрым словам (ці нават зусім бяз словаў) падтрымлівае мяне цеплынёй. Мне гэта цяпер проста жыцьцёва неабходна. Часам нечаканая чуласьць амаль незнаёмага чалавека здольная зрабіць цуд. Я таксама нашу ў сэрцы многіх людзей, хоць не заўсёды кажу пра гэта, памятаю пра вас, люблю, малюся аб вашым шчасьці і спадзяюся, што мае нябачныя гаючыя імпульсы даходзяць да ўсіх спраўна.

*Наста Кудасава*

*П'ер Агюст Рэнуар,*
*«Маладыя дзяўчаты пры піяніна»*



## Вераніка

У Празе на моўных курсах жонка пазнаёмілася зь Веранікай. Веранічыны бацькі эмігравалі ў Нямеччыну ў 1968, там дзяўчынка засвоіла ад іх крыху чэскай. Выйшаўшы замуж, пастанавіла лепей навучыцца мове дзядоў і прыехала ў Прагу. Малую дачку запісала ў тутэйшы садок.

Вераніцы я паказваў Радыё Свабода.

«Вам у нас было цікава?» — спытаўся я пры разьвітаньні.

«Надзвычайна, — адказала яна. — Раней я ніколі ня бачыла столькі людзей, якія зарабляюць на жыцьцё мазгамі».

Вераніка была жонкай пастара, яны жылі ў рабочым квартале вялізнага прамысловага гораду.

Жыцьцё часам пасылае мэсыдж, сэнс якога цяжка разгадаць. Але ўвесь час табе рупіць гэта зрабіць.

*Ян Максімюк*

*Макс Лібэрман, «Трапальня льну ў Лярэне»*



# Жывое чуе жывое

Каля крыніцы — ручнікі на крыжы, грошы — на вадзе, зямлі. Адны ручнікі навейшыя, а тыя, што бліжэй да зямлі, нагадваюць анучы. Тканіна, як і чалавек, урэшце пераўтвараецца ў тло.

Стаю каля крыніцы, якая жыве (ад слова «жывец») паміж Вялікімі Нямкамі і Антонаўкай. Каля яе растуць алешыны. У часы Літвы былі яны ляснымі німфамі. Імі засталіся.

Скажы «Бог у помач! Паглядзі, што будзе!» — прыадкрыла таемнае Сьцепаніда Дзеньдобрая, якая жыла ў Навілаўцы.

— Бог у помач!

Крыніцы, як падагрэтае малако, на вачах пачалі біць мацней!

Так і цяпер: вада адгукнулася.

Жывое чуе жывое.

*Ларыса Раманава*

*Джон Ўільям Ўотэргаўз, «Гілас і німфы»*



# Знак

Я ня надта пільна зьвяртаю ўвагу на навакольнае. Шматлікіх рэчаў не заўважаю, і мяне гэта не турбуе. Іншыя заўважаю, але не запамінаю, бо для мяне яны — фонавыя. Некаторыя трапныя рэчы я памятаю, бо пабачыла ў іхнай істоце нейкі сымбаль. Але іхны глыбокі сутнасны аналіз пакідаю на пазьней...

Таму цяпер разумею, што ён мог зьявіцца тут сёньня, раней, а магчыма — даўно. Але ў маёй галаве на гэта няма аніводнага ўспаміну. Здагадак, адкуль ён — безьліч. А сам ён — не падабаецца!

...Насупраць нумару маёй кватэры на дамафоне — чырвоны крыжык.

*Юлія Цяльпук*

*Джорджа дэ Кірыка, «Чырвоная вежа»*



# Дзень нараджэньня

Адчуваю невытлумачальную сымпатыю і блізкасьць да творцаў, якія нарадзіліся ў адзін дзень са мной (натуральна, у розныя гады). Пісьменьніца і грамадзкая дзяячка, выбітны паэт і перакладчык, музыка і заснавальнік знакамітага рок-гурту.

Сьвяткуючы ўласныя народзіны, штогод згадваю і іх, шкадую, што лёс гэтых выдатных асоб ня склаўся. Раньняя сьмерць ад хваробы, шматгадовае зьняволеньне, самагубства... Узьнікае трывожная думка: мо, дата нараджэньня сапраўды фатальным чынам уплывае на жыцьцё, прадвызначае лёс?

Але маю выдатнае суцяшэньне. За 577 гадоў да майго зьяўленьня на сьвет адбылася бітва, пераможная для многіх народаў. Яна прынесла спакой на некалькі стагодзьдзяў.

Думку, што дата паспрыяла посьпеху, не адганяю.

*Марына Весялуха*

*Ян Матэйка, «Бітва пад Грунвальдам»*



# Сястра

Займела сястру. Не, не знайшлася невядомая мне крэўніца. Займела ў шпіталі. Ня тую, што называецца сярэднім мэдычным пэрсаналам. Хоць называюць іх сёстрамі, але хіба яны міласэрныя, як было задумана? «Дзе тае міласэрнасьці на ўсіх набярэсься», — відаць, так думаюць. А мо і ня думаюць...

Вось жа, сястра — тая, якой у адзін дзень зробяць тую самую апэрацыю, як і вам. А калі яшчэ ў адной палаце будзеце, то зусім крэўныя. Адным болем, адною крывёй назаўсёды зьвязаныя.

Хоць разыдзецеся, разьедзецеся зь ёю ў розныя бакі, хоць мо ніколі не сустрэнецеся болей, а ўсё роўна — не-не ды згадаеце: «Як там мая сястра?..»

*Альжбета Кеда*

*Мікаэль Анкер, «Шпацыр па пляжы»*



# Вясна як навяртаньне да Бога

Сыход зімы — найбольш трапная прыродная мэтафара чалавечага навяртаньня да Творцы.

Пакуль ты ня верыш у існаваньне абсалютнага дабра і крыніцу ўсякай маралі — ты белы і пухнаты, як сьнег. Чысты і іскрысты.

Але вось ты сустракаеш у сваім жыцьці Бога (ці, лепш сказаць, гэта Ён цябе сустракае) — растопліваецца лёд, растае сьнег, і з-пад усёй гэтай уяўнай прыгажосьці табе робіцца бачна, што было там, унутры, схавана бялюткім покрывам. І вылазіць навонкі сьмецьце, бутэлькі і скарыстаныя прэзэрватывы, недапалкі і нечыстоты.

Радасьць, аднак, у тым, што чым актыўнейшая навокал вясна, тым гэтага бруду становіцца менш. І больш становіцца жыцьця.

*Аляксей Шэін*

*Ўільям Мактагарт, «Вясна»*



# Памагла

Закончыў сярэднюю школу. Як і ўсе тады — камсамолец. Адслужыў у арміі. Уладкаваўся на работу.

Расказвае: «Ня знаю чаму, але неадступна цягнула мяне ў царкву. Кожны выходны даходзіў да храма, а зайсьці не адважваўся. Так было і гэтым разам. Падышоў сябра. Стаім, гаворым. Каля нас спыняецца машына, выходзіць шафёр і просіць дапамагчы ўнесьці ў царкву ікону. Гэта была вялікая па разьмерах ікона Божай Маці. Нам сказалі несьці ікону за Царскія дзьверы».

Такім чынам пераступіў ён парог царквы і цяпер кожную нядзелю прыслужвае сьвятару на літургіі.

*Яўгенія Чаплінская*

*Аляксей Карзухін, «Перад споведзьдзю»*



## тунэль

ёсьць штосьці невымоўна трагічнае і рамантычна жудаснае ў назіраньні за сьмерцю.

гэта адначасова заварожвае і пужае, і набліжае нас да пошукаў невядомага... прымушае нас дасьледаваць гэта і нават не міргаць, сачыць і спрабаваць раскрыць нейкія таямніцы... знайсьці сэнс і адказы быцьця...

у кнізе Сьвятланы Алексіевіч прачытаў пра старога, які ў вёсцы не прапускаў ніводнай сьмерці, прыходзіў і ціха сядзеў у куце... назіраў... разважаў... быццам чорт, і пражыў шмат гадоў.

я тады ўспомніў сваю прабабку Гэлю, якая пахавала дзясяткі сваякоў, дажыўшы да ста трох гадоў.

*а. і. бацкель*

*Поль Дэлярош, «Пакараньне сьмерцю лэдзі Джэйн Грэй»*



# Небясьпечная Сьвіслач

У маленстве я жыў у Менску на плошчы Перамогі. У нас, падшпаркаў, было хобі — «выратоўваць тапельцаў». Зімой людзі пракладалі сьцежкі па Сьвіслачы ад парку Купалы да супрацьлежнай набярэжнай. Увесну лёд падтаваў, хто там ішоў, аступаліся. Часьцей пасьпявалі адскочыць. А бывала — правальваліся. Мы клікалі дарослых ці падпаўзалі да «тапельцаў», падавалі свае курткі.

Аднойчы пад лёд праваліўся здаравяк. Побач нікога з дарослых. Папаўзьлі самі. Утрох ледзьве справіліся. Пасьля адаграваліся каля батарэі ў падʼезьдзе. На здаравяку было фірмовае адзеньне, што ў савецкія часы было рэдкасьцю.

— Я марак, — сказаў ён. — У Канаду хадзіў. На пабыўцы... Акіяны прайшоў і ледзь не патануў у Сьвіслачы...

*Серж Мінскевіч*

*Андрэас Схэльфгаўт, «Канькабежцы на замерзлай рацэ»*



# Адчуваньне

Цікава, што адбываецца з чалавекам, калі на сьвет нараджаецца яго другая палова. У гэты момант яму можа быць некалькі месяцаў ці некалькі гадоў, і ён ні пра што не здагадваецца. Ляжыць у ложку і прыціскае да сябе плюшавага зайчыка ці сядзіць ля матчыных ног. І раптам штосьці адбываецца. Як гэта? Балюча ці прыемна, лёгка ад гэтага ці цяжка, заплача дзіцятка ці засьмяецца? Немагчыма гэта ні праверыць, ні ўзгадаць. Але я дакладна ведаю, што мы адчуваем нешта ў той момант, калі на сьвет нараджаецца наша другая палова.

*Аліса Бізяева*

*Фэрдынанд Георг Вальдмюлер, «Дзеці»*



# Несупадзеньне

Нядаўна я задумвалася — колькі прыкладна ведаю людзей? Маю на ўвазе: асабіста ведаю, людзей, зь якімі падтрымліваю ці падтрымлівала адносіны. Я пачала для арыентацыі лічыць калегаў з усіх школаў, працы, спартовых гурткоў і хораў, у якіх я сьпявала, з царквы, і суседзяў, побач якіх некалі жыла... Налічыла ня менш за 700 асобаў, якія так ці сяк прайшлі маім жыцьцём.

І тут я ўсьвядоміла цікавую рэч. Сярод чэхаў ведаю людзей шматлікіх прафэсій, але ніводнага пісьменьніка, паэта, кампазытара, гісторыка, рэжысэра, палітыка; а сярод маіх беларускіх сяброў — амаль выключна пісьменьнікі, паэты, акторы, кампазытары, гісторыкі, рэжысэры, палітыкі, журналісты, мастакі... Так цікава склалася.

*Světlana Vránová*

*Джэймс Энсар, «Уезд Хрыста ў Брусэль у 1889»*



# Перад таямніцай

Парыж. Люўр.

Мы глядзелі адна на адну. Я — у поўным зьдзіўленьні і зьбянтэжанасьці. Яна — зь ледзь прыкметнай, спакойнай усьмешкай, якая заварожвае нечым невыказным. У якой нібы зьмясьцілася ўся сутнасьць існаваньня.

Стрыманы гоман натоўпу, які яе атачаў, перастаў успрымацца. Я быццам адключылася ад рэальнасьці. У галаве стукала адзінае нямое пытаньне: «Што такое ведаеш ты, чаго ня ведаем і не разумеем мы?»

Рэпрадукцыі яе партрэту паўсюды. Здавалася, у арыгінале нічога новага ўжо не адкрыю для сябе. І... стаяла амаль у шоку.

Мона Ліза. Джаконда. Так і не разгаданая нікім таямніца яе ўсьмешкі.

*Вікторыя Грыніна*

*Сэм’юэл Морзэ, «Люўрская галерэя»*



# Абруч

Хто ў дзяцінстве не ганяў па вуліцы абруч? Невялічкая загагуліна з дроту ў руцэ — і пабег абруч. І ты бяжыш за ім, і рады, быццам гонісься за птушкай шчасьця. Найлепшая цацка.

Неяк я сустрэў знаёмага, успомнілі маленства і абруч.

— А ведаеш, у чым радасьць бегчы за абручом? — спытаў ён.

Я паціснуў плячыма.

— А ў тым, што табе здаецца, што абруч цябе за сабой вядзе. А ён жа бяжыць туды, куды ты яго дроцікам вядзеш! — усьміхнуўся ён, і дадаў: - Так і ў жыцьці: здаецца, што лёс цябе вядзе, а па-сапраўднаму ты лёсу шлях пракладаеш.

*Марат Баскін*

*Альбэрт Эдэльфэльт, «Люксэмбурскі сад, Парыж»*



# Слухаю крокі

Звоніць мабільнік. «Алё», — кажу я. А ў адказ — ані слова, ані закаханага дыханьня.

А ў адказ — крокі. Так, так, крокі.

Тыя, у каго я запісаная як Аксана, часам выпадкова націскаюць і тэлефануюць мне, ня ведаючы пра гэта.

І я не кладу адразу слухаўку. Слухаю крокі. Яны такія розныя, як і самі пісьменнікі — ціхія і філязофскія, імклівыя і прыгодніцкія, лёгкія і касьмічныя.

Сёньня былі крокі аўтаркі паралельных раманаў. Якія яны? Калі я скажу «гатычненькія», яна пагодзіцца. Першая ейная кніга называлася «Крокі па старых лесьвіцах»...

Пісьменнікі ідуць, лятуць, думаюць, а я іх слухаю. І гэта адна з найарыгінальнейшых магчымасьцяў мабільніка.

*Аксана Спрынчан*

*Жуль Адольф Гупіль, «Падслухоўваньне»*



# У цемры, калісьці

Час ад часу, немаведама чаму, прыгадваецца эпізод больш чым 40-гадовай даўнасьці.

Я вучыўся ў ліцэі і жыў у горадзе, але на выходныя прыяжджаў на наш падляскі хутар. Аднойчы, сышоўшы зь бітком набітага аўтобуса бязьмесячным і бяззорным восеньскім вечарам, я заблукаў і добрую гадзіну шукаў сваёй сьцежкі ў лесе. Адчуваў, што нехта яшчэ блукае непадалёк ад мяне. Але так і не наважыўся гукнуць — хто? Дахаты дабраўся амаль апоўначы. Маці ня спала, спыталася: а бацька дзе?

Бацька вяртаўся з гораду тым самым аўтобусам. Ён прыйшоў дахаты паўгадзіны пасьля мяне.

Маё мінулае пасылае знак, сэнс якога дасюль застаецца ў той цемры.

*Ян Максімюк*

*Ларс Гертэрвіг, «Старыя сосны»*



# Тайскі сьлед у перамозе Трампа

Храм ў паўднёвай правінцыі Тайлянду перапаўняюць ахвочыя да талісманаў манаха Чао Кун Тонгчай. Адзін зь ягоных талісманаў у жніўні атрымаў Дональд Трамп. Кожны можа мець цяпер такі самы «pha yan» пасьля цырымоніі «Kathin».

Ніякіх сумневаў, усё празрыста. Раней гэты манах прадказаў тайскаму ўладальніку футбольнага клюбу Лэстэр Сіці перамогу: клюб стаў чэмпіёнам сэзону 2015/16. І перамогу Трампа манах упэўнена прадбачыў. Паколькі быў талісман.

Як спрацавала? «Pha yan» узяў у храме і пераслаў Трампу ягоны прыхільнік з Бангкоку, таец Thathani Siriyiam. Яны пазнаёміліся на «Міс Сусьвету 2004» у Эквадоры. Аналітыкі гэтага ня ведалі, таму і памыляліся: ня мелі поўнай карціны.

*Тацяна Поклад*

*«Каралеўскі белы слон», тайская карціна з XIX стагодзьдзя*



# Цёмныя вокны

Я ўбачыў іх зусім выпадкова, калі ў чаканьні зялёнага сьветлафору на праспэкце Незалежнасьці немаведама чаму ўзьняў вочы ўгору. Зіхацелі ліхтары, бруілася падсьвечанае паветра... Толькі не сьвяцілася цёплым хатнім агеньчыкам аніводнае акно ў дамах па абодва бакі праспэкту, праўда, чамусьці на двух ці трох апошніх паверхах...

З таго даволі даўняга часу кожны раз, калі позна ўвечары рухаюся ўздоўж праспэкту, углядаюся ў тыя вокны.

Але сьвятла там няма.

Чаму так? Хто ведае. Мо жыхары сышлі ў нябыт ці зьехалі кудысьці далёка...

...Няма пераліку тым, хто ў розныя часы па розных разбуральных абставінах зьнік з твару менскай зямлі, пакінуўшы пасьля сябе цёмныя вокны...

*Сяргей Ваганаў*

*Джон Эткінсан Грымшаў, «Прыстань у Глазга»*



# Лекі

Сустрэла былую сынаву клясную кіраўніцу. Яе вочы выдавалі радасныя навіны, але я не сьпяшалася з роспытамі, ведаючы пра цяжкі стан мужа пасьля інсульту. Пашкодзіўся розум — дактары не абнадзейвалі, прапанаваўшы аддаць настала ў псыхіятрычны шпіталь.

Унук у мяне расьце, ды такі хлопчык цудоўны! Сем жа гадоў дачка ніяк не магла нарадзіць, і вось такое шчасьце!

Вочы яе яшчэ больш радасна зазьзялі.

Ну дзякуй Богу, падумала яе, што новае жыцьцё перакрыла боль хваробы ранейшага. А яна, крыху памаўчаўшы, дадала, што і муж ужо ачуняў.

Я яму сьпявала беларускія народныя песьні, — ціха, амаль шэптам, быццам баючыся спудзіць шчасьце, сказала яна на разьвітаньне.

*Валянціна Аксак*

*Васілі Максімаў, «Хворы муж»*



# Мана

Дзед расказваў. Зіма была завейная.

І неяк з самай раніцы дзед адправіў на санях свайго сына, майго бацьку, у суседнюю вёску завезьці мяшок мукі сваяку. Дарога невялікая, але прайшло паўдня, а хлопец усё не вяртаецца. І выйшаў дзед на дарогу, каб паглядзець, ці хто едзе. І бачыць — кругом балотца, што паміж Пугачамі і Татарамі, мой бацька сноўдаецца на санях. Давялося дзеду ісьці і самому браць у рукі лейцы, бо майго бацьку паўдня вакол балота нейкая мана вадзіла.

*Віктар Шніп*

*Ларс Гертэрвіг, «Краявід»*



# «Прымусовая беларусізацыя»

А цяпер прыйшоў час разьвеяць міт пра «насильственную белорусизацию».

1 верасьня 1993 (Закон аб мовах быў прыняты яшчэ ВС-11, дзе не было ніводнага дэпутата БНФ), у беларускамоўныя класы пайшло 80% першаклашак. Як вы думаеце, колькі скаргаў ад бацькоў прыйшло ў Камісію ВС па адукацыі (так званую камісію Гілевіча)? 90 тысяч? 9 тысяч? 900? Правільны адказ: ніводнай.

Камісія па адукацыі Менгарсавету атрымала аж 9 (дзевяць) скаргаў; дзеці былі пераведзеныя ў расейскія клясы. Народу вярталася тое, што было забрана ў яго цягам стагодзьдзяў, і людзі гэта разумелі.

*Сяргей Навумчык*

*Ёган Пэтэр Газэнклевэр, «Першы дзень у школе»*



## Крышачку салодкага

...Набліжаўся прыём у піянэры, мяне расьпірала ад жаданьня зьдзейсьніць патрыятычны ўчынак.

Аднойчы я цішком падкраўся да жабрачкі ля царквы, падхапіў падпахі, пацягнуў некуды ў бок, перакананы, што ў СССР не павінна быць жабракоў...

...Цётка Надзя моўчкі выслухала, адчыніла шафу, дзе хаваліся цукеркі... «Бяры... Пачастуй тую бедную жанчыну і папрасі прабачэньня, нельга крыўдзіць жабракоў...»

Цукеркі хаваліся ад мяне для Сьветы, маёй стрыечнай пляменьніцы. Ёй было пяць гадкоў, калі немцы забілі маці. «Ну, што ты хочаш, Сьветачка?» — пыталася цётка, калі тая зь нейкім сьмяротным адчаем кідалася ў сьлёзы: «Крышачку сало-о-о-дкага-а-а...»

Тады і зьяўлялася «крышачка», якая ратавала Сьвету ад пажыцьцёвага дзіцячага гора...

*Сяргей Ваганаў*

*Альбэрт Анкер, «Ясьлі»*



# Канфармізм = жыцьцё з заплюшчанымі вачыма

Палітыка ўнутранай акупацыі і інтэграцыйная палітыка — з аднаго боку «дзеці капітана гранта», з другога «сумленныя» рэнэгаты — агулам выдаюць «нацыянальны канфармізм». Зьяву, у якой «падмена паняцьцяў» адбываецца ўжо на падсьвядомым узроўні.

Мы ня памятаем нават сваіх прадзедаў, а ўсур'ёз лічым сябе «рухавікамі прагрэсу». Лічым сябе свабоднымі, а ня можам уявіць жыцьцё без электраэнэргіі, крамаў, інтэрнэту. Ніхто ўжо ня ведае, у які час «народ» ператварыўся ў «натоўп», пад чыім ціскам ён страціў сваю галоўную сілу, агульную думку — «Ідэю».

Напэўна, жыцьцё з заплюшчанымі вачыма ўспрымаецца неяк лягчэй. Аднак у такім становішчы і цяжэй заўважыць аброць на сваёй шыі...

*Антон Шустаў*

*Анры дэ Гру, «Зьдзек з Заля»*



## Асмалоўка

Асмалоўка — гэта атмасфэрны квартал у самым цэнтры Менску, пабудаваны ў 1947-49 гг. палоннымі немцамі, які дагэтуль ня мае статусу гісторыка-культурнай каштоўнасьці.

З гэтым невялікім пасёлкам двухпавярховых катэджаў зьвязана шмат вядомых імёнаў пасьляваеннай Беларусі. Зусім побач зь ёй жыў і працаваў сам Лі Харві Освальд.

Штораз з трывогай чытаю навіны пра магчымы знос гэтага мікрараёну. Зь ім зьвязана ня толькі гісторыя гораду, але і мая асабістая — тут жыве большасьць маіх сяброў.

Адзін раз я ўжо страчваў сяброў, калі падлеткам зьмяніў месца жыхарства ў сталіцы. Не хацелася, каб гэта паўтарылася зноў, а Асмалоўка засталася толькі ў памяці і на фатаздымках...

*Канстанцін Касяк*

*Бэрнарда Бэлёта,*
*«Руіны старой царквы Сьвятога Крыжа ў Дрэздэне»*



# Асалода нянавісьці

Пацан-камуніст напісаў кнігу. (Я прачытаў — чыталі мы й горшыя, а гэтая нават нічога.) Пацанам-«праварадыкалам» не спадабалася, што аўтар пнуў цені БЦР, прыдумалі аўтару наўмысны зьдзек зь беларускай мовы і напісалі «сыгналы». Газэта надрукавала іх як «рэцэнзіі». Камэнтатары задыхнуліся нянавісьцю. (Кнігу яны не чыталі.) Рэцэнзіі прачытаў «палітык» з грамадзкага руху з палуграматнай назвай і чыстапарасейску абурыўся, што абражаны яго беларускамоўныя пачуцьці, і заклікаў шукаць абароны ва ўладаў. (Кнігу «палітык» не чытаў.) Беларускае паветра.

*Сяргей Шупа*

*Джуніюс Брутус Стэрнз, «Ганна Дастан забівае індзейцаў»*



# Ня «мы»

Ведаеце, чаму я не магу мысьліць пра «нас» у катэгорыі нацыі?

Таму што гэта як бы свае (калі нацыянальна, так) падсоўваюць мне гнільлё на рынку.

Як бы свае — бяруць у маіх сяброў грошы за рыэлтарскую паслугу, а паслугі не аказваюць.

Як бы свае — адсуджваюць пакоі ў роднай маці.

Як бы свае — даюць хлусьлівыя сьведчаньні.

Як бы свае — бяруць сто даляраў, а ўсё роўна ня лечаць.

Як бы свае — выбіваюць паказаньні.

Можна працягнуць сьпіс, праўда?

Не «мае», дакладна.

Вось чаму я ніколі не кажу: «мы беларусы».

*Сабіна Брыло*

*Жорж Сёра, «Нядзеля на востраве Гранд-Жат»*



# Русыфікатары

Мая прабабця Тэкля шмат часу бавіла са мной, бо маці рана выйшла на працу.

Зь дзяцінства запомнілася, як мы сядзім на ганку перад хатай, дзе выгадаваўся мой тата, і глядзім у сад, цёплае сонца промнямі лашчыць нашы твары, а бабуля мне баіць пра Піліпку-сынка альбо сьпявае... І сьпевы тыя — бясконцыя.

Іначай як па-беларуску мая бабуля ня ўмела... То яна мяне казкамі і сьпевамі закадавала на беларускасьць.

Іншая справа мае бацькі. Як большасьць беларусаў, яны нарадзіліся ў вёсцы, гадаваліся па-беларуску, пакончалі беларускія школы і выправіліся ў горад...

Сёньня для маіх дзяцей у сям'і асноўныя русыфікатары — гэта дзядулі і бабулі.

*Ігар Кузьмініч*

*Джавані Сандручы, «Ласунак»*



# Аднаклясьнікі

Некалькі гадоў я даволі рэдка заходзіў на аднаклясьнікі, не было асаблівай патрэбы. Апошнім часам зачасьціў, стала цікава, што людзі думаюць...

І вось яны, мае землякі, пішуць:

«Ура товарищи! Теперь к фашистам, которые не признают своего прошлого и у которых нет будущего, ездить проще стало...»

«Ура, теперь Гейропа со всей голубятней стала доступней... Для танков виз не надо».

«А что там пшеки себе думают?»

Гэта што? Правінцыйнасьць? Адсутнасьць мазгоў? Комплексы ўласнай непаўнавартасьці Нянавісьць да заходніх суседзяў?

Калі я бачу такія камэнтары маладых жыхароў Гарадзеншчыны, дык часамі мне падаецца, што тая большасьць, падтрымкі якой дабіваемся, выглядае менавіта так, а часамі яшчэ горш.

*Алесь Зарэмбюк*

*Томас Ўэбстэр, «Школа старой дамы»*



# Перамога, якая насамрэч — параза

Вядома, што 2-я сусьветная вайна была рэваншам Нямеччыны за паразу і прыніжэньне ў 1-й. Нямеччына пакаялася, паднялася з кален, стала заможнай і спакойнай краінай, куды перабраліся 4 мільёны эмігрантаў з Расеі.

Падаецца, і тая вайна, якую сёньня разьвязвае Расея ва Ўкраіне, выкліканая жаданьнем рэваншу. Але за якую паразу? Ці не за тую перамогу ў 2-й сусьветнай, якая насамрэч аказалася для Расеі паразай і прыніжэньнем? Дастаткова зірнуць на цывілізацыйны ровень, паводле якога Расея апынулася шмат ніжэй за Нямеччыну, ня стала ані заможнай, ані спакойнай краінай, і цяжка ўявіць, каб хоць адзін немец марыў перабрацца ў Расею настала жыць.

*Сяргей Дубавец*

*Валянцін Волкаў, «Мінск, 3 ліпеня 1944»*



# Спалох

...Першы сапраўдны спалох у сваім дзіцячым жыцьці я зьведаў увосень 1952-га ў калідоры Опэрнага тэатру, па якім, нібыта па коле, мы, вучні музычнай школы, гойсалі ў перапынках паміж рэпэтыцыямі хору. Рыхтавалася Дэкада беларускага мастацтва ў Маскве. І якіх толькі артыстаў не сустракалі мы ў тым калідоры! У грыме і без...

Аднойчы я раптам уткнуўся ў чыйсьці шорсткі жывот. Падняў вочы. На мяне глядзеў... Сталін. «Ты чаго, хлопчык? Спужаўся?» — Сталін ласкава паклаў мне на стрыжаную галаву цёплую далонь. Супакоены, я зноў падняў вочы. У вусах — усё тая ж спагадлівая ўсьмешка. Але погляд жоўты, рысіны... «Правільна, хлопчык. Баісь...»

Увайшоў у ролю.

*Сяргей Ваганаў*

*Фёдар Рэшэтнікаў, «Генэралісімус І. В. Сталін»*



# Заўтра была...

Адрэдагавала кнігу «Заўтра была адліга», дамову і паведамленьне на ганарар аформіла ў самы мароз, бугальтэрыя падпісала, аўтар падпісаў, і начальства подпіс зь пячаткаю паставіла, і ўжо іншымі кнігамі занялася я. І раптам надышла адліга, адчыніліся дзьверы кабінэту, і мне на стол бугальтарка паклала дакумэнт. Гляджу, а ўсё аформлена на кнігу «Заўтра была вайна». Зашмаравала карэктарам, напісала замест вайны — адліга. А вайна ўсё адно праступае, бо цяжка прыбраць вайну звычайным карэктарам. Бугальтэрыя паведаміла, што ўсё добра, а ў мяне цяпер увесь час праз адлігу праступае вайна, і на паперы, і на менскіх вуліцах, дзе людзі заўжды ў стане «заўтра была...».

*Аксана Спрынчан*

*Аляксей Саўрасаў, «Зімовы пэйзаж. Адліга»*



# Пасылкі ў ГУЛаг

У 1947 годзе студэнта Глыбоцкай пэдвучэльні Антона Фурса арыштавалі за тое, што любіў Беларусь больш, чым гэта дазваляла савецкая ўлада. Яму далі 15 гадоў ГУЛагу.

Антон прабыў на чужыне агулам 34 гады.

Ягоныя бацькі слалі яму харчовыя пасылкі, у якіх было пераважна самаробнае талакно, прыпраўленае тлушчам. У кожную пасылку маці клала ліст да сына.

Антон прасіў, каб лісты пісаліся толькі па-беларуску. І малапісьменная маці ішла да суседзкай дзяўчынкі, школьніцы Волечкі, каб тая дапамагла напісаць ліст.

Аднавяскоўцы казалі, што Антон выжыў дзякуючы таму талакну.

А я мяркую, што ён выжыў таксама дзякуючы тым лістам па-беларуску.

«Ня хлебам адзіным жыве чалавек…»

*Канстанцін Сырэль*



*Вінсэнт ван Гог, «Прагулка вязьняў»*

# Бандэраўка

На маю беларускую мову тутэйшы рэагуе: «Ты з Данбасу прыехала? Бандэраўка?»

«А Вы адкуль прыехалі?» — пытаю, чуючы трасянку.

«Я ніадкуль не прыяжджаў. Усё жыцьцё тут жыву».

«Чаму вы вырашылі, што я прыехала?»

«Бо гаворыш па-ўкраінску. У тэлесэрыяле, які гляджу, адна хахлушка, то яна так гаворыць».

Раю не глядзець расейскія сэрыялы...

Калі Ларысе Геніюш у савецкай турме, у Беларусі, вярнулі цыдулку — «Не разумеем па-чэску!» — яна абуралася: «Знача, беларускую мову палічылі ў Беларусі чэскай! Ого, такога я не спадзявалася нават ад бальшавікоў! „О, мая Беларусь” — застагнала я шчыра...»

Там была беларуская лацінка, а тут жывая беларуская мова. Сёньня яшчэ горш?..

*Альжбета Кеда*



*Уладзімір Макоўскі, «Украінская дзяўчына»*

## «Наш круль»

Прыехаўшы да бацькоў, увечары прагульваемся з адной сваёй школьнай прыяцелькай па вёсцы.

— Дзіўлюся я, Лена, як вас бацькі выхавалі, — кажа прыяцелька, — што вы да беларускага так хіняцеся і па-беларуску гаворыце.

— Жана! — дзіўлюся і я, бо мова ў маёй сяброўкі чысьцюткая і, як на маю думку, беларускага яна таксама не цураецца. — А хіба ты — ня так?

— Э, не! У нас зусім другое. Наша бабця, пакуль жывая была, штодзень пасьля «Ойча наш» паказвала картачку Юзафа Пілсудзкага нам, дзецям і казала: «Запомніце — то ест наш круль!» Я і цяпер, у Латвіі жывучы, трымаюся суполкі палякаў.

*Алена Масла*

*Войцех Косак, «Партрэт Пілсудзкага»*



# Ракаў, кантрабанда і галакост

Мне не падабаецца, калі родны для мяне Ракаў з замілаваньнем называюць сталіцай кантрабандыстаў, расказваюць, як шмат тут было да вайны бардэляў, кнайпаў, як лёгка набываліся наркотыкі.

Гэта не падстава для гонару. Гэта была бяда.

Такое жыцьцё 20-х гадоў выгадавала адпаведную моладзь: што пасееш, тое і пажнеш.

...Сёньня на месцы былой ракаўскай сынагогі стаіць помнік габрэям, якіх спалілі тут у вайну. Згарэла тысяча чалавек.

Сынагогу спалілі свае, ракаўцы, мясцовая паліцыя. Яны ж расстралялі людзей і спалілі родную вёску маёй бабулі — пад Ракавам.

Лепш бы ў даваенным Ракаве было больш малітоўных дамоў і касьцёлаў, чым кнайпаў і бардэляў.

*Аляксей Шэін*

*Ракаў. Фота 1936 году*



# Заслаўскі Гудзіні

На станцыі чакаю апошнюю электрычку. Зьянацку побач матэрыялізуецца малады мужчына зь неадэкватным позіркам. Закурвае, апавядае:

— Неяк мяне заслаўскія мянты злавілі. У пастарунку прышпілілі кайданкамі да батарэі. Я аслабаніўся, — паказвае як. — Аднаго мянта адразу звольнілі, а другога пакінулі, каб кайданкі знайшоў, яны нумарныя. Я сам прыйшоў, вярнуў. Іх галоўны ўсё дапытваўся, як мажліва камэры сачэньня ў двары прамінуць, не засьвяціцца. Я ж — дэсантура! Цяпер у мяне мянушка — Гудзіні. Сумна тут, думаю на Данбас падацца.

— За каго ваяваць будзеш? — пытаюся.

— Якая мне, беларусу, розьніца? І там, і там — браты-славяне.

І малады мужчына бязгучна зьнікае ў цемры.

*Максім Клімковіч*

*Гары Гудзіні рыхтуецца да труку «вызваленьне з затопленай скрыні»; 1912 г.*



# Польскі шпіён

*Быль ад Сяргея Грахоўскага.*

Год 38-мы, у камэру менскай «амэрыканкі» ўкідаюць чарговага вязьня. Гутарка — хто, за што. Навічок кажа — я польскі шпіён. Рогат камэры — толькі польскі? «Не, я сапраўды афіцэр польскай разьведкі», — кажа новы вязень. І працягвае: «Мне вас шкада, мужыкі. Мяне хутчэй за ўсё абмяняюць на вашага. А вось вас...»

У камэры ён прасядзеў з тыдзень. На допыты цягалі, але быў адзіны, каго ня білі. Праз тыдзень зьнік. Хутчэй за ўсё, сапраўды абмянялі на савецкага калегу.

За амаль 20 гадоў хаджэньня Грахоўскага па пакутах Гулагу гэта быў адзіны польскі шпіён, якога ён сустрэў.

*Юры Дракахруст*

*С. Сьвятлоў, «Піянэры схапілі ангельскага шпіёна»*



# Ідыш як пратэст

1942 год, Саратаў, барак для эвакуаваных зь Беларусі, якіх мясцовыя называюць «выкавыранымі». Насельнікі — жонкі франтавікоў. Бабчына сяброўка Рыва атрымлівае паперку: «Ваш муж прапаў бязь вестак». Гэта азначае, што Рыва з малымі дзеткамі аўтаматычна пазбаўляецца «афіцэрскага атэстату» і асуджаная на жабрацтва.

Бабка арганізуе складчыну, вядзе сяброўку на «таўкучку» па хлеб. І тут да Рывы падыходзіць нейкае мурло: «У-у, жидова! Обжирать нас приехала? Мужик твой, небось, от фронта прячется?..»

Бабка потым расказвала: «І так, унучок, крыўдна мне стала, што я з Рывай прынцыпова на ідыш перайшла!..»

...Бабка, сялянка з-пад Рэчыцы, у юнацтве жыла ў яўрэйскім квартале Гомеля і ідышам валодала бездакорна.

*Уладзіслаў Ахроменка*

*Мікалай Піманенка, «Ахвяра фанатызму»*



# Ударыць словам па беларусе

У многіх апавяданьнях Якуба Коласа беларускія сяляне, знэрваваныя адвечнымі крыўдамі, моцна сварацца між сабою альбо з прадстаўнікамі ўладаў. Нярэдка ўсчынаюцца бойкі — гэта ці ня самы сьмешны момант у прозе Коласа, бо біцца беларусы слаба ўмеюць. На дапамогу няспрытным ударам прыходзяць праклёны накшталт «каб табе жывот падвяло» і «няхай табе нага (рука) адсохне».

Ці ня самыя страшныя абразы падчас сварак — словы «чарнасоценец», «сіцыліст» («сацыяліст») і «акцызьнік». Але на версе «рэйтынгу» абразаў стаіць выраз «жабіны начовачкі», які пэрсанажы Коласа ўжываюць найчасьцей. Адкуль ён пайшоў? Як высьвятляецца, «жабінымі начоўкамі» ў Чэрвенскім раёне называлі ракавіну малюска.

Вось як раней можна было моцна траўмаваць беларуса!

*Павел Абрамовіч*

*Пітэр Кваст, «Выдаленьне каменя дурноты»*



## «Дурное гасударство»

— Вот жа, дурное гасударство, — казала кожны раз мая бабуля, калі паштальён прыносіў ёй пэнсію: 12 рублёў, а недзе пасьля пачатку 1970-х ажно цэлых 20 рублёў!

— Як я працавала ў калгасе, ад цямна да цямна, без выхадных, дык яны мне нейкія палачкі ставілі, — працягвала яна. — А як цяпер я сяджу дома, на працу не хаджу, унукаў даглядаю, дык яны мне грошы плацяць?!

— Дурное нейкае гасударства, — рабіла выснову мая старэнькая бабуля.

А мы, малыя ўнукі, сьмяяліся зь неадукаванай бабулі.

Прабач мне, мілая бабуля, за мой сьмех, за зьдзек улады, за цяжкае гаротнае жыцьцё, якое ты пражыла!

*Кастусь Алешка*

*Адольф Эхтлер,*
*«Бабуля распавядае гісторыю ўнукам»*



# За «рускіх» ці за «немцаў»?

У дзяцінстве мы гулялі ў «вайнушку». Драматычны момант наставаў тады, калі пачыналася разьмеркаваньне роляў: «Ты за “рускіх” ці за “немцаў”?» І тут высьвятлялася, што «немцаў» альбо зусім няма, альбо дужа мала.

Пазьней, калі разваліўся Савецкі Саюз, мой выбар быў цалкам вызначаны. І вось, здарылася, што наша дачка зьехала ў Нямеччыну. Там нарадзіліся дзьве ўнучкі. Жонка ўжо тройчы наведвала іх. Цяпер і яна — за немцаў.

*Алесь Анціпенка*

*Антон фон Вэрнэр, «Абвешчаньне Германскай імпэрыі»*



# Абразок

На маёй далоні маленькі бронзавы абразок — Божая Маці. Памяць вяртае мяне ў далёкія гады дзяцінства...

Зь вялікім задавальненьнем хадзіла з бабуляй у маленную — царкву «па-свойму». Для шасьцігадовай дзяўчынкі з гораду ў гэтым храме стараабрадцаў усё было незвычайнае, чароўнае! Старанна малілася, цярпліва выстойваючы ўсю службу, чым аднойчы і прыцягнула ўвагу нейкіх прыежджых духоўнікаў. Абразок — іх падарунак для мяне.

Школа зьмяніла мой сьветапогляд. На вакацыях я ўжо «адукоўвала» сваіх: «Бога няма! Мы — будаўнікі камуністычнай будучыні!» Дзед толькі нездаволена тапырыў вусы. Бабуля не вытрымлівала: «Ат, што з табой гаманіць...»

На жаль, шмат што мы разумеем праз гады. Ды запозна...

*Вікторыя Грыніна*

*Жан Франсуа Міле, «Вячэрняя малітва»*



# На радзіме

На тым тыдні наведалася я на радзіму. Каторым разам пад'яжджаю да будынку касьцёла, дзе мяне хрысьцілі, але зноў зачынена, ксёндз адзіны на некалькі вёсак. Касьцёл даўнішні. Пішуць, Ігната Дамейку калісьці хрысьцілі ў ім.

На дзьвярах прышпілены нумар тэлефону сьвятара. Тэлефаную, каб спытаць, мо ён дзе недалёка. Вітаюся па-беларуску і размаўляю таксама. У адказ чысьцюткая руская мова з выразным вымаўленьнем гукаў на расейскі лад, а прозьвішча беларускае, здаецца. Чым далей гутарым, тым афіцыйней.

Летась у Міры ксёндз да мяне і стрыечнай сястры зьвярнуўся з ласкавым прывітаньнем па-расейску, як да чаканых гасьцей-турыстак. І не адказаў па-беларуску.

Госпадзе высокі, як мне шкада.

*Ала Жак*

*Уладзіслаў Малецкі, «Краявід з касьцёлам»*



# Факультэт непатрэбных рэчаў

Час ад часу ўспамінаю сваю «alma mater». Аналізую, прыгадваю, якія рэальныя веды я атрымаў пасьля заканчэньня ВНУ. Але так і ня здолеў прыгадаць хоць што-небудзь, што спатрэбілася ў рэальным жыцьці. Да ўсяго прыйшлося даходзіць (дапаўзаць, дабягаць) сваім розумам і шмат працаваць над сабою! А галоўнае — праз тысячы памылак і гузакоў рабіць самастойныя крокі: разьвівацца, дабівацца пастаўленых мэтаў, руйнаваць стэрэатыпы, выціскаць зь сябе страхі (раба), лічыцца з інтарэсамі іншых людзей, вучыцца паважаць сябе і шмат чаго яшчэ...

Але, на жаль, гэтаму не вучылі ў маім унівэрсытэце.

Як і шмат чаму яшчэ.

*Яўген Мартыновіч*

*Мікалай Ярашэнка, «Хор»*



# Бомба на палубе

На пачатку вайны майго бацьку, як і сотню іншых юнакоў з Адэсы, перавозілі на баржы ў Наварасійск. Раптам «Мэсэр». Баржа — як мішэнь у ціры пасярэдзіне Чорнага мора. Немец вырашыў паказаць баявое майстэрства, скінуў бомбу за некалькі мэтраў над караблём. Але бомба ў бамбалюку «Мэсэршміта» ляжала гарызантальна, з-за «пантоў» лётчыка яна не пасьпела павярнуцца пад сілай прыцягненьня ўзрывальнікам уніз, бокам на палубу і ўпала. І ня выбухнула. Немец паляцеў па сваіх справах. Хлопцы з бомбай на палубе да Наварасійску і даплылі.

*Юры Дракахруст*

*Тэадор Жэрыко, «Плыт „Мэдузы"»*



# Хор

Я жадаў сьпяваць. Але ў мяне не было голасу.

— Ты павінен маўчаць, — казала настаўніца сьпеваў, запісваючы мяне у хор, — ты не для сьпеваў, а для колькасьці.

Неяк наш хор трапіў на конкурс. Сьпявалі вясёлую песьню. Усе былі вясёлыя. Толькі я сумны. Гэта заўважыла жанчына з журы. І спыталася, чаму я такі. Я сказаў, што мне не дазваляюць сьпяваць, таму што ў мяне няма голасу.

— Сьпявай! — дазволіла жанчына.

Я засьпяваў. Адзін, бяз хору. Усе запляскалі ў далоні.

А жанчына сказала, што ёй таксама не дазвалялі сьпяваць. І, падміргнуўшы мне, дадала:

— Таму я цяпер у журы!

*Марат Баскін*

*Томас Ўэбстэр, «Вясковы хор»*



# Згубленае пакаленьне

У 90-я нам па 20.

Мы чакалі зьменаў і надлому сыстэмы. Тры гады перад Лукашэнкам мы думалі, што гэта — пачатак і краіна будзе мяняцца далей.

Потым прыйшоў ён. У канцы 90-х мы хадзілі на акцыі і думалі, што сыстэму можна зьмяніць мірна. Мы пісалі артыкулы і кнігі, спрабуючы такім чынам усё перайначыць. Але «сыстэма» зьмяніла нас.

Частка з нас, згубіўшы надзею, зьехала за мяжу. Другія — пайшлі ў сыстэму, мяркуючы зьмяніць яе знутры. Трэція — засталіся ў сваім «змаганьні».

Мы — згубленае пакаленьне з надзеяй ў сэрцы.

*Андрэй Мялешка*

*«Ліст дадому»: здымак з часоў Першай сусьветнай вайны*



## Дзіцячыя гульні

Аліку падабалася абзываць мяне фашыстам. У ягоных вуснах гэта гучала нават з падвойнай нянавісьцю: «У-у-у, жыд пархаты! Фашыст!»

Я і сёньня, калі Алік, па зьвестках, жыве ў Брукліне, ня ведаю, чаму ён да мяне чапляўся. Мо таму, што быў вышэйшы і дужэйшы за мяне. Аднойчы я ня вытрымаў: скочыў яму на сьпіну, адной рукой учапіўся за чупрыну, а другой калаціў па вуху: «Гітлер! Гітлер!» Чупрына насамрэч рабіла Аліка падобным на Гітлера, бо матлялася па лбе наўкось.

Але тады, у 1948-м, я ня ведаў яшчэ, што менавіта Гітлер забіў у гета Алікаву бабулю і старэйшую сястру.

Мо і Алік ня ведаў.

*Сяргей Ваганаў*

*Джон Морган, «Бойка»*



# Партызанскай сьцежкай

Ходзіць па мястэчку бабулька, апіраючыся на ядлоўцавы кіёк. Заходзіць у аптэку, просіць даць ёй бінтоў ды ёду, кажа, што панясе ў партызанскі атрад параненым. Дзяўчаты з аптэкі бабульку ведаюць, кажуць, што самі перададуць патрэбнае ў партызанскі атрад. Бабулька згаджаецца, ідзе ў суседнюю краму, там просіць хлеба, таксама для партызан — яны ж там галодныя. Прадавачкі з крамы яе таксама ведаюць, абяцаюць самі перадаць хлеб партызанам.

Бабулька не пярэчыць, ідзе далей. Постаць пад цяжарам пражытых гадоў сагнутая пытальнікам, выцьвілы руды палітончык даўно страціў першапачатковы колер. Што вымушае старую хадзіць сваёй бясконцай партызанскай сьцежкай, якая недаробленая ў гады вайны справа, якая нявыказаная думка?

*Кастусь Сырэль*

*Джарджонэ, «Старая жанчына»*



## Перамагчы

Колькі нас, адчайных, у гэтым сьвеце? Кожны. На шчасьце, ня кожнаму, як мне, даводзіцца наведваць псыхіятра.

Не кажыце, што я займаюся глупствам, калі купляю за апошнія грошы лекі, ад якіх я поўная і моцна хачу спаць!

Я чытала, што біпалярнае расстройства цалкам ня лечыцца — яно як цукровы дыябэт.

За мяжой гэта часты і модны дыягназ, але беларускае грамадзтва глядзіць на псыхічныя хваробы па-іншаму.

Людзі, прыміце мяне!

Раніца. Трэба зьбіраць рэчы ў бальніцу (напэўна, восьмы раз), няўжо зноў дарэмна?

Маладая.

Хто і навошта хоча зьнішчыць маю шчасьліваю зорку?

Яшчэ буду трымаць у далонях вясёлку, абяцаю. Ніколі не зьміруся.

*Аляўціна Макулінка*

*Гюстаў Курбэ, «Джо, прыгожая ірляндка»*



# Адзінота

Учора ўпершыню ў жыцьці дачку забралі з дому на некалькі тыдняў — да бабулі пагасьціць. Шчасьлівая і радасная, Маша сядзела ў дзедавай машыне, прадчуваючы цікавае падарожжа. І я таксама за яе радавалася, бачачы, зь якім захапленьнем яна выправілася ў вандроўку.

А пасьля... пасьля чамусьці ўсё пачало валіцца з рук: і ежа не гатавалася, і машына не кіравалася, нібыта ўсе рэчы застылі ў нейкай сарамлівай разгубленасьці.

Так я і прахадзіла ўвесь дзень на непрытомных нагах, з кута ў кут, спрабуючы знайсьці сабе занятак.

А потым села ля вакна і нарэшце заплакала, зразумеўшы раптам, што яшчэ далёка ня ўсё ведаю пра адзіноту.

*Наста Кудасава*

*Александэр Джон Ўайт,*
*«Лугавая кветка»*



## чорны

я ведаю, як выглядае рак. ён глыбока чорны, матавы, бясконцы і паглынае астатнія колеры. такі колер належыць чорным дзіркам у космасе.

мама доўга хварэла, напрыканцы мы зарэгістраваліся пры хосьпісе і засталіся дома. быў жнівень.

у сакавіку мы паехалі за горад і адкапалі тры бярозкі.

я бегаю пад вокнамі першага паверху. мама глядзіць на мяне з пакоя і рукой паказвае, куды садзіць бярозкі, худая, стомленая, але абсалютна моцная і нязломленая.

калі яе ня стала, акурат на Пасху, бярозкі пачарнелі. засталіся жывымі знутры, але звонку іх ахінула вусьцішная чарната. пачарнелае лісьце апала, і яны цяпер стаяць самотнымі, бо былі патрэбныя толькі маме.

*а. і. бацкель*



*Вільгельм Хамэрсхёй, «Жанчына са сьпіны ў інтэр'еры»*

# Ані слова, ані ста словаў

— Колькі нас маладых, — пачынае пералічваць Анатоль, — адзін, два, тры, чатыры... са мною сем.

Маладому Анатолю шэсьцьдзесят чатыры гады. І няма ані слова, ані ста словаў, каб нешта сказаць жыхару цудоўнай вёскі Малая Кракотка Слонімскага раёну, брату Янкі Саламевіча. Хіба што слухаць і пэрыядычна пачынаць пералічваць сьпелыя вішні, якіх дакладна болей за сто.

*Аксана Спрынчан*

*Аляксандар Герымскі, «Мужыцкая дамавіна»*



# Нянавісьць

Ты адчуваў, як нянавісьць трапляе ў тваё нутро? Як хутка яна набірае сваю моц і ўладу? За пару сэкундаў ты ўжо пэўны ў тым, што яна справядлівая і разумная. Ты ўжо не заўважаеш, як атручаны ядам, падманваеш сваё сэрца і думаеш, чыніш, кажаш ліхое. Ты выліваеш увесь гэты бруд і адчуваеш трыюмф: ты — моц, ты — улада, ты — справядлівасьць! Ты пачынаеш ганарыцца сваім судом, і о — што гэта?..

Немінуча прыходзіць спусташэньне... А пасьля раскаяньне... А пасьля горыч.

Праўду кажуць, што грэх — падман. Замест «задавальненьня» — пакута, «радасьці» — сорам, нянавісьці — зьніякавеньне.

«Зьмяя ўнутры цябе» альбо Любоў.

Выбар робіш кожны дзень. Не. Кожную хвіліну.

*Наста Дашкевіч*

*П'етра Паета, «Нянавісьць»*



# Вазьміце водар

Такімі словамі мяне спыняе мужчына каля ўваходу ў гандлёвы цэнтар.

Бяру белую паперку, абыякава кладу яе ў кішэню: сумняваюся, што далі нешта добрае.

Блукаю па крамках, у кішэні намацваю «водар»... Мне прапанавалі цяжкаваты драўляны, зь дзёрзкімі ноткамі, пах. Ён падышоў бы жанчыне ўпэўненай, амбітнай, сьмелай, якая ня носіць туфлі на высокіх абцасах і валасы стрыжэ каротка.

Але лепей за ўсё гэты водар пасаваў бы мужчыну. Фантазія намалявала амаль клясычнага героя ў доўгім чорным паліто, капелюшы, са скураным партфэлем праз плячо. Твар непаголены, у вачах — сум і расчараваньне.

Пах з паперкі хутка зьнікае, як і вобразы са сьвядомасьці.

*Марына Весялуха*

*Джон Ўільям Ўотэргаўз, «Мая салодкая ружа»*



# Плошча Ленана

З найбольшых уражаньняў за апошнія пару гадоў — цырымонія закрыцьця лёнданскай Алімпіяды, дакладней, невялікі адтуль эпізод, калі на вялікім стадыённым экране паказаўся Джон і зайграў на белым раялі «Imagine», а пакуль іграў, з розных канцоў стадыёну, проста ў цёмны ягоны цэнтар, памкнуліся асьветленыя дробачкі-фрагмэнты і ўтварылі ўрэшце сьветлы Ленанаў твар, што праіснаваў усяго сэкундаў дзесяць і распаўся з апошнім акордам.

Калі пачынаюцца выбухі, падае долу пасажырскі самалёт і на парад выпаўзаюць чарговыя танкі, заплюшчваю вочы, уяўляю сябе чалавекам з кавалачкам ленанаўскага твару на плячах, і справа мая — дайсьці ў патрэбную кропку. Пакуль не прагучала «and the world will live as one».

*Ціхан Чарнякевіч*

*Сцэна з цырымоніі закрыцьця Алімпіяды 2012 у Лёндане*



# Чорныя птушкі

Яны выпырхнулі зь дзьвярэй бажніцы спуджанымі птушкамі і паскакалі па сходах на шырокі цьвінтар. Падраўняўшы шыхтоўку па двое, сьпешна пакрочылі ў ягоны дальні кут. Постаці іх, худыя, але зграбныя, хавалі пад шырокімі чорнымі апранахамі сваю маладую вабнасьць. Адварочваючыся ад цікаўных позіркаў, хілячы галовы долу, уціскаючы іх у плечы, яны нібы імкнуліся найхутчэй занурыцца ад зыркіх колераў летніх убораў турыстаў у свае паўзмрочныя кельлі.

Зьбянтэжанасьць адной перацякала разгубленасьцю на другую, ніякаватасьць трэцяй ахапляла страхам чацьвёртую, скаронасьць пятай рабілася наканаванасьцю шостай...

Апошняя ішла адна. Крыху адстаўшы. Сталая, выпрастаная, з прыўзьнятай галавой і позіркам наперад. У правай руцэ — жазло. Як у царыцы. Ігуменьня.

*Валянціна Аксак*

*Ян ван Гельмант, «Партрэт манашак-аўгустыянак чорнага канону ў Антвэрпэне»*



## спаць

падлеткам я спаў пакуль цела не пачынала ныць і пасьля абеду быў вымушаны ўставаць хаця б у прыбіральню.

юнаком я спаў паўсюль — на лекцыях, у грамадзкім транспарце...

сталеючы, я пачаў заўважаць, што пачынаю ўсё менш спаць. і тады мяне супакоіла бабуля, яна неяк прамовіла ўвечары, калі мы разам зь ёй сядзелі ля вогнішча на хутары:

вось з кожным днём я ўсё больш радуюся жыццю і магчымасьці бачыць ранішнія промні сонца, і кожны дзень я разумею, што мне ўсё менш жыць засталося, і таму сплю як мага меней, каб яшчэ больш пажыць.

і цяпер я хачу ўсё менш і менш спаць у гэтым сьвеце, і разумею, чаму я так хачу.

*а. і. бацкель*

*Аўгуст Эдўін Малрэдзі, «Вандроўныя мэнэстрэлі»*



# Асеньні жаўранак

Апошнія дні лістапада. Суботняй раніцай еду ў Менск. Апранулася, бадай, не па надвор'і — крыху падмярзаю ў сваёй «эканомклясе». Перад Дзяржынскам (звычайны малюнак для нашых электрычак) у вагон заходзяць двое, адзін з акардэонам. Ну, думаю, нешта з ардэнаноснага Дробыша зараз забацаюць. Або яшчэ што вясельна-рускамоўнае ці настальгічнае, каб расчухаць-падлашчыць народ.

Сама — нуль увагі, паглыбляюся ў сваё.

А тут, быццам аднекуль, здалёку...

«... самотным жаўранкам зьвініць і плача май».

З куляшоўскага паднябесься заляцеў, зазьвінеў мэлёдыяй чароўнага сьпеву асеньні жаўранак. Слухала, гледзячы ў акно. І не заўважыла, як стала цяплей. Здаецца, і апранулася па надвор'і.

Сьпявайма ж беларускае — зіма наперадзе.

*Натальля Плакса*

*Жуль Брэтон, «Песьня жаваранка»*



# Прадчуваньне

Калі апошнім разам быў прыехаўшы да мамы, тая завінулася паказаць, дзе ляжаць пахавальныя грошы. Спрабаваў аджартавацца. Пакрыўдзілася: «Коцік жа мой сышоў. Гэдак робіцца на нечую з хаты сьмерць». «Сышоў, бо стары. Мо дзе поездам забіла — пуці ж пад вокнамі». «Памру я скора, сын. У мяне картофля сёлета — як ніколі, а ў людзей скрозь уся пагарэла». «Парасло, бо соткі ў лагчыне». «Квахтуха выседзела пятнаццаць куранятак, ніводнае не прапала, і ўсе курачкі. Сьмерць ідзе ў хату, сынок». Так і не далі рады згаварыцца. Празь пяць тыдняў маму пахавалі. Грошы не знайшліся.

*Яўген Чапко*

*Джэймс Мак-Нэйл Ўістлер, «Партрэт маці»*



# Просты герой

Яе не паставіш у адзін шэраг з агульнапрынятымі героямі: не ваявала, з-пад колаў аўто нікога не дастала, з пажару ня вынесла. Яна — узорна памерла.

Муж, пяцёра дзяцей, пакліканьне — служэньне, прыстойны дабрабыт, 40 гадкоў зь невялічкім хвосьцікам, цяжкая хвароба і прысуд дактароў: «Вам засталося 2 гады... 2 месяцы... 2 тыдні».

Не наракала, ня кідалася ў роспач, не гаравала, рабіла штодзённыя справы, прымала наведнікаў, малілася аб выздараўленьні, але і спакойна рыхтавалася ў дарогу. Казала: «Я гатовая». Пайшла...

Думаю: адкуль такая мужнасьць і супакой? І ведаю адказ. Яна глядзела ня ў вочы сьмерці, а ў вочы Бога. Мой герой, мая сяброўка Вольга Кухарчук.

*Алеся Унукоўская*

*Эдвард Мунк, «Вясна»*



# Талерантныя беларусы

Ва ўнівэрсытэце я неяк запытаўся ў студэнтаў, якая вызначальная рыса беларуса.

Чакана, зь вялікім адрывам перамагла талерантнасьць. Пытаюся, што азначае талерантнасьць? Ну, кажуць, гэта калі ўспрымаюць і ставяцца да іншых, чужых і непадобных да нас з шанаваньнем, не варожа...

— Добра, — кажу, — а што будзе, калі, напрыклад, вы, — і я паказваю на ладную дзяўчынку, — закахаліся б у чарнаскурага афрыканца і прывялі яго дахаты? Што Вам сказалі б Вашы бацькі?

— Я не закахаюся! Нэгры павінны жыць у сябе, мы ў сябе... — адказала пасьля шоку яна.

І тут яе сяброўка па парце, вельмі ўпэўнена:

— Сказалі б: СУЧКА!

*Ігар Кузьмініч*



*Франчэска Аец, «Пацалунак»*

# Больш няма

Скрып, скрып, скрып... Міма майго акна кожны дзень, зь дзіўнай пунктуальнасьцю, праяжджае сусед па вуліцы. Ровар такі ж старэнькі, як і яго гаспадар. Яны заўсёды разам, як адзінае цэлае. Я ўжо так прызвычаілася да гэтага павольнага, мернага і абавязковага ў пэўны час парыпваньня, што міжволі чакала яго зьяўленьня кожны раз. Год, два, тры...

Але аднойчы я не пачула звыклага «скрып, скрып...» І на другі дзень, і на наступны... А потым я даведалася, што іх разлучыла сьмерць. Цяпер старэнькі ровар, самотны і маўклівы, стаіць у закінутым усімі хляве.

Як быццам я таксама нешта страціла ў сваім жыцьці.

*Вікторыя Грыніна*

*Карл Юліюс фон Лейпальд, «Вандроўнік у час навальніцы»*



# Новыя іконы

Заходжу ў хату. Вітаюся з бацькамі. Стаю ў чаканьні адказу.

А яны маўчаць. Проста глядзяць на мяне зьверху, з-пад самае столі. Маладыя. Усьмешлівыя. Прыгожыя. Шчасьлівыя.

Аблямованыя вішнёваю самаробнаю рамай. Такой жа, як і Маці Божая і Ісус Хрыстос побач.

І самі ўжо сталі іконамі.

*Валянціна Аксак*

*Джон Эвэрэт Мілэй, «Хрыстос у доме сваіх бацькоў»*



# Спрэчка з Шэкспірам

Прачытаў душэўны ўспамін пра знакамітага актора. Пра бліскучыя ролі. Пра майстэрства і прафэсіяналізм. Пра служэньне сцэне. Пра тое, як ён на сконе СССР нечакана выступіў у падтрымку беларускай мовы, калі прымалі закон.

Не прачытаў пра яго служэньне марыянэткай у тэатры лялек — цацачным сэнаце новай улады, якая пахерыла і закон, і мову. Не прачытаў пра скокі ў інтэграцыйнай апэрэце, дзе паяцам раздавалі пазалочаныя кароны. Не прачытаў пра ролю вялікага глуханямога, калі зьбівалі, арыштоўвалі, судзілі яго публіку, забаранялі і цкавалі яго знаёмых творцаў.

Увесь сьвет — тэатар.

Але тэатар — ня ўвесь сьвет.

*Аляксандар Лукашук*

*Дэйвід Скот, «Каралева Вікторыя ў Тэатры „Глобус“ на п’есе Шэкспіра „Віндзорскія насьмешніцы“»*



# Каза

Як у кожным мястэчку, у нас таксама была свая вар’ятка. Вар’ятка была прышлая, не мясцовая. Бабуля клікала яе паесьці, давала ёй што магла з адзеньня. Заходзячы да нас, яна заўсёды расказвала пра сваю казу, якую маляваў сябрук яе дзяцінства.

— Вельмі ён любіў маляваць нашу казу. Што б ні маляваў, а на малюнку наша каза ёсьць, — казала яна і паказвала заскарузлую скамечаную паперку з намаляванай казой. Паперку яна трымала у падраным рыдыкюлі, зь якім ніколі не разлучалася.

Я запомніў погляд той казы. І, убачыўшы, праз шмат гадоў карціны Шагала, пазнаў на іх казу вар’яткі!

*Марат Баскін*

*Артур Страхан, «Кармленьне казы»*



# Журба

«У садзіку было добра! Усюды цацкі, на занятках весела. Сяброў харошых можна знайсьці. Нават у кутку стаяць цікава, бо там лесьвіца і розныя мячыкі. Толькі я тады гэтага не цаніла... Шкада...»

Васьмігадовы чалавек вучыцца тужыць па мінулым.

*Тацяна Барысік*

*Джон Джордж Браўн, «Хлопец са скрыпкай»*



# Анёл

У кожным з нас жыве Анёл. Пачуўшы знаёмую сэрцу мэлёдыю, адчуўшы смак запыленага ўспаміну, выходзіць на сьвет. Ён расхінае душу так шырока, што ты падаесься сабе нібы аголенай перад іншымі. Табе радасна і сьветла, Анёл сьмяецца. Ён дурэе і танчыць у тваіх успамінах, гарэза!

Бывае, у гэты ўзьнёслы час ты натыкаесься на позірк непаразуменьня — і ў адкрытую Богу і людзям душу задзьме халодны вецер. Захочацца сагрэцца, закрыўшы душу, затуліўшы Анёла ад усіх скразьнякоў.

А хочацца — наадварот... Каб ад гучнага сьмеху няўрымсьлівага Анёла вакол прачыналіся іншыя. І танчылі разам, узяўшыся за рукі, каб нікому болей не хацелася спаць.

*Наста Дашкевіч*

*Хуга Сімбэрг, «Паранены анёл»*



## Крыху шчасьця ў халодны дзень

Найлепшае, што здарылася за апошнія дні зь іх масай падзей — добрых і дрэнных, лаянкі і кампліментаў, і працы, працы, працы...

Выходжу з пад'езду. Стаяць прасьцецкія такія, нармальныя дзядзькі, дамафон рамантуюць. Пузатыя, чырванатварыя і чырванарукія. Праходжу міма. Адзін адрываецца ад дамафона, шырока ўсьміхаецца ўсімі дзіркамі ў роце і кажа: «Прывітаньне, прыгожая!» Адчуваньне дзіцячай радасьці.

Дамафон яны так і не адрамантавалі.

*Юлія Чарняўская*

*Кузьма Пятроў-Водкін, «Рабочыя»*



# Мілосьці злосьці

Адзін мой знаёмы жыхар сацыяльных сетак заўважыў, што многія яго пазытыўныя запісы лайкаюць і перапошчваюць, але нэгатыўныя, зьедлівыя, кпіны — утрая больш. Чаму так?

У псыхалёгіі гэта называецца «гіпэркрытыцызм». Нэгатыўнае выказваньне ад пачатку ўспрымаецца як больш слушнае, чым пазытыўнае. Вядомы экспэрымэнт, калі студэнтам давалі два тэксты аднаго літаратурнага крытыка бяз подпісу, пазытыўны і крытычны — і прасілі ацаніць «аўтараў». Прысуд быў адназначны — крытычны «аўтар» быў прызнаны больш кампэтэнтным і разумнейшым. Калі мы хочам уразіць каго-небудзь, крытычныя заўвагі б’юць фантанам.

Кажуць, гэта вынік эвалюцыі — у суровых умовах увага да дрэнных навінаў дапамагала выжыць.

Верагодна, эвалюцыя працягваецца. Або сямтам яшчэ ходзяць у скурах...

*Аляксандар Лукашук*

*Габрыэль фон Макс, «Малпы як крытыкі мастацтва»*



# Можна жыць

Гаспадыня кватэры, дзе я здымаю пакой, зьехала на некалькі дзён у вёску. Гаспадынін сын, саракагадовы Дзімон, не марудзячы, прывёў «надзейнага таварыша». На бальконе яны ўпотай абкурыліся нейкімі зёлкамі і цяпер блукаюць па кватэры, старанна імітуючы перада мной адэкватнасьць.

Раблю выгляд, што веру. Тут яшчэ можна жыць. Два папярэднія кватэрадаўцы — адзінокія пэнсіянэры-алькаголікі з прыкметнай маніяй велічы і навязьлівым жаданьнем павучыць маладога-зялёнага. Гаспадыня ж цяперашняй «хаты» — вельмі прыстойная. Дый Дзімон — неблагі мужык, а «па абкурцы» — наогул ціхі, малазаўважны. Не, ён можа пашумець, калі глыне гарэлкі, але тое здараецца рэдка: аддае перавагу «траве»...

*Ігар Кананові́ч*

*Нюэл Конвэрс Ўает, «Курыльшчык опіюму»*



# Жыцьцё і... жыцьцейка

Раніцою, ідучы на працу, сустрэў жанчыну зь дзяўчынкай-інвалідам. Беднае дзяўчо ідзе-валюхаецца з боку на бок — нялёгка ёй жыць на гэтым сьвеце белым...

Побач родная маці-матулечка — самы блізкі ёй чалавек.

Уразіў позірк жанчыны, у яе вачах — насьцярожанасьць, гатовасьць абараніць сваю хворую дачушку-крывіначку хаця б і ад злых насьмешак, бо сьвет гэты жорсткі, а яшчэ ўваччу — хранічная стомленасьць.

Дай, Госпадзе, гэтай жанчыне-маці сілаў, а ім абедзьвюм — хаця б маленькіх (дасягальных у іхнім становішчы) радасьцяў жыцьця-жыцьцейка...

*Юрась Півуноў*



*Джон Эвэрэт Мілэй, «Сьляпая дзяўчынка»*

# Трэцяе пакаленьне

Званілі з-за мяжы: нумар з кодам краіны высьвеціўся на дысплэі. Незнаёмы голас: я ўнук вашага былога дырэктара, Юркі Сянькоўскага, шукаю яго магілу...

Я пазнаёміўся зь Юркам у Мюнхене — ён быў на пэнсіі, але заходзіў у рэдакцыю, жыў пераменамі ў Беларусі, перадаў у Менск цэлы грузавік забароненых эміграцыйных выданьняў. Я ня ведаю падрабязнасьцяў яго жыцьця: жонка і дзеці гаварылі, здаецца, толькі па-нямецку. Ён памёр у 1994. Я быў апошнім наведнікам у шпіталі ў апошні дзень яго жыцьця — апошні голас, які гаварыў зь ім па-беларуску.

І вось праз два дзесяцігодзьдзі — беларускі голас, які шукае дзеда.

А я думаю — гэта дзед знайшоў унука.

*Аляксандар Лукашук*

*Каспар Давід Фрыдрых, «Этапы жыцьця»*



# На Бацькаўшчыне

Па вяртаньні ў Беларусь мінула чатыры месяцы, а ўсё не адпускае эўфарычнае пачуцьцё ад таго, чым аказалася для мяне жыцьцё на Бацькаўшчыне. Само сабой гэта клімат, калі ўдыхаеш зь дзяцінства знаёмае паветра; прырода — найпрыгажэйшая ў сьвеце; людзі, сярод якіх ніякім бокам ня ўбачыш сябе чужым ці наежджым; мова, якую штодня чуеш у транспарце. Проста фізычна пачуваесься грыбам з гэтага лесу. Ёсьць, натуральна, і бюракратыя на кожным кроку, самае горшае ў сьвеце начальства (Караткевіч). Аднак усе выдаткі тутэйшага сацыяльнага ўладкаваньня ня могуць і блізка параўнацца з тым натуральным душэўным уздымам, які перажывае чалавек усяго толькі ад таго, што жыве на Бацькаўшчыне.

*Сяргей Дубавец*

*Барталямэ Эстэбан Мурыльё,*
*«Вяртаньне блуднага сына»*



# Як здымаюць стрэс ад заробку

Атрымаўшы аванс, меншы за мільён, непітушчая знаёмая завітала ў краму, набыла малако-хлеб і шклянку «Сяброўкі» (і такая тара ёсьць). Прыйшоўшы да хаты, яна прычакала, пакуль дзеці ўлягуцца, кульнула чарку і спакойна заснула.

Атрымаўшы аванс, меншы за мільён, я зайшла ў краму і набыла насеньня. Паразглядаўшы карцінкі і памарыўшы пра пасяўную, я спакойна заснула.

Назаўтра, калі знаёмая апавяла пра «Сяброўку» (а яна месьцічанка ў н-ным пакаленьні, якая ня бачыла, як квітнее бульба), я зразумела: якое шчасьце мець маленькі лапік зямлі, які натхняе.

Прыйшоўшы дахаты, дастала самагонку, выпіла чарку за Сваю Зямлю і спакойна заснула.

*Аксана Спрынчан*

*Ян Вэрмэр, «Келіх віна»*



# Салодкае

Пакуль я думаю, як зьвесьці канцы з канцамі, чым у наступным месяцы заплаціць за кватэру чужой цёці і ў каго пазычыць, каб раздаць даўгі, некаторым дык і зусім салодка жыць зрабілася...

Сябар працуе ў раёнцы. Тэлефануе раніцай і расказвае навіны, пра якія ў газэце не напішаш, але падзяліцца хочацца. Кажа: а ў нас ужо пачалі заробак грэчкай і згушчонкай выдаваць, а не грашыма, а ў крамах людзі ўвогуле не купляюць нічога, бо няма тых грошай. Думаю сабе: ну, а ў наступным месяцы мо чым іншым выдадуць — навошта тады ўвогуле ў краму хадзіць.

Я сабе рэдка магу дазволіць згушчонку...

*Ірына Бельская*

*Вінсэнт ван Гог, «Бульбаеды»*



# Біятлён

Чэмпіянат сьвету пачынаецца! Зноў сотні тысяч беларусаў адначасна з сотнямі мільёнаў заўзятараў па ўсім сьвеце дзесяць дзён будуць жыць вялікім біятлёнам — самым папулярным зімовым спортам у Беларусі. Мы будзем прыкутыя да тэлевізараў, будзем радавацца, смуткаваць, лічыць мэдалі і заліковыя пункты. На эмоцыях будзем нібыта ляцець па лыжнай трасе разам зь «беларускай ракетай» Домрачавай і яе сяброўкамі і сябрамі па камандзе.

Наша Даша будзе самай папулярнай беларускай у сьвеце. Яе імя будуць скандаваць і трыбуны фінскага Кантыялахці, роднага стадыёну галоўнай Дашынай канкурэнткі — Кайсы Макарайнен. Пераможа мацнейшыя. Пераможам і мы, як у сваёй любові да спорту, так і ў агульным патрыятызьме.

*Вячаслаў Ракіцкі*

*Кнуд Бэргсьлін, «Лыжнікі-біркебэйнэры праходзяць горы з каралеўскім дзіцём»*



# Памылка

Памыліўся. Атакуюць. Пагаджаюся, папраўляюся, баранюся. Дыскусія кіпіць. Тэмпэратура нарастае. Дэмаршы адбываюцца. Бо тэма большая за памылку.

Але ня большая за чалавека.

*Аляксандар Лукашук*

*Жорж дэ Лятур, «Сварка музыкантаў»*



# Дзе беларусы?

У мястэчку-райцэнтры на пляцы некалі ўзвышалася клясычная беларуская трыяда з бажніцаў. Царква захавалася, на падмурках касьцёла — крама. Дзе была сынагога, мала хто памятае. Але могілкі ёсьць...

— Рускія могілкі унь той вулачкай і налева, на пагорку, ага, — кажа местачковец гадоў шасьцідзесяці. — А польскія, значыцца, непадалёк, толькі бліжэй да парку. Жыдоўскія пад гарою.

— То слухайце, дзядзька, хто ж у вас у мястэчку даўней жыў?

— Ну, я ж і кажу: рускія, палякі і жыды. Жыдоў ужо нямашака, а рускія і палякі жывуць, ну.

— А беларусаў што, не было?

*Яраш Малішэўскі*

*Ўільям Чэйз, «Хованкі»*



# Тутэйшы пазытыў

Золкай раніцай брыду па неабсяжных прасторах магілёўскага Задняпроўя ў пошуках аўтобуснага прыпынку. Мае ногі няўдала спрабуюць абраць сушэйшы шлях. Рукі мерзнуць, а галава занятая роздумам на тэму: «Бальнічны як прычына грашовага крызысу ў асобна ўзятай кішэні».

«Бросайте мусор в урну — и всё у вас будет хорошо!» — абнадзейвае надпіс на сьцяне панэльнага шматпавярховіка.

25 сакавіка. Мой тэлефон радасна пішчыць чарговым СМС. Я падсьвядома чакаю віншавальнай прапановы ад мабільнага апэратара: «Сустракай Дзень Волі разам з life! Закачай мэлёдыю Ваярскага гімну за 0 рублёў...»

Тэкст на экране выпраменьвае: «Набери 2244 и говори голосом Бобра или Страшылы!»

Тутэйшы пазытыў не заўжды ратуе.

*Тацяна Барысік*

*Эдвін Остын Эбі, «Маладая жанчына ў лесе»*



# Дэзарыентацыя

Калядны вечар. Іду бязьлюднай вулачкай на ўскраіне мястэчка. З боку цэнтральнай плошчы даносіцца буханьне расейскай папсы.

Насустрач ідзе жанчына. Паходка няўпэўненая, цёмныя валасы раскіданыя па плячах, паліто расшпіленае, доўгі шалік цягнецца па сьнезе. Халоднае сьвятло вулічнага ліхтара робіць малады твар падобным да аблічча нябожчыцы.

Накіроўваецца да мяне: «Мужчына, дапамажыце!»

Спыняюся: «Што здарылася?»

І тут жанчына задае пытаньне, якое агаломшвае мяне: «Мужчына, скажыце мне, дзе я і хто я?»

Я ашалела маўчу, ня ведаю, што адказаць...

Пазьней прыходзіць думка: «Так і наша краіна — падпіўшы, танчыць пад расейскую папсу, а потым забываецца, дзе яна і хто яна».

*Кастусь Сырэль*

*Пітэр Брэйгель Старэйшы, «Прыпавесьць аб сьляпых»*



# А дворнікам сам Лукашэнка

На рагу плошчы Леніна і Пушкінскай у Берасьці саджаюць дрэўца. Пралетарыят завіхаецца — трымаюць, прымяраюць, падказваюць. Адзін, два, тры, чатыры работнікі ЖКХ. Збоку пяты і шосты, падыходзіць яшчэ адзін, і яшчэ адзін стаіць. Восем! Побач тры машыны.

Дрэўца адно, як помнік правадыру. Ільліч паблажліва глядзіць з высокага п'едэстала.

Плошча чыстая. Вуліца чыстая. Усё, зрэшты, такое, якім я памятаю са сваіх школьных гадоў, за часамі Хрушчова і Брэжнева. Заўсёды было чыста, і на гэта не зьвярталі ўвагу, бо такая норма.

Цяпер гэта палітыка, а палітык у краіне, як вядома, адзін.

Таму дрэўца садзяць восем яго выбаршчыкаў.

*Аляксандар Лукашук*



*Джордж Клаўсэн, «Пасадка дрэва»*

# Abjava na słupie

Karotkaja abviestka na prypynku — jak adbitak i vyčarpalnaja charaktarystyka svajho času, etapu historyi, epochi. Rasstanoŭka pryjarytetaŭ, intanacyja, pieravahi i niedachopy — takija, jakich nie było dahetul i nia budzie ŭžo zaŭtra. Z vuličnych abjavaŭ možna skłaści partret usiaho našaha žyćcia, jakomu buduć dzivicca naščadki. Naš čas u hetym žanry vyhladaje nastupnym čynam:

Zaprašajuć na pracu dziaŭčynu abo chłopca.
Musić lohka znachodzić ahulnuju movu z klijentami.
Nie zamaročany na sacsietkach.
Kab i kuryŭ, ale mieŭ rašučy namier kinuć.
Kab lubiŭ vypić, ale tolki zialonaj harbaty.
Što za praca?
— Nia sietkavy markietynh.
— Nia spajsy.
— Nie viarboŭka va Ŭkrainu.
Zaprašajuć na pracu pradaŭca.

*Siarhiej Dubaviec*



*James Tissot, «Pradavačka»*

# Пярэдні край

Жывучы ў Менску на вуліцы Мірашнічэнкі, калі-нікалі вяртаюся са шпацыру «ўзьбярэжжам» задуменна-шумлівага хвойніку, дзе ў пагодныя дні паміж дрэвамі блукае спакусьлівы шашлычны дымок і на ўтульнай палянцы вядзецца ўзбадзёраная чаркай сяброўская размова. Тут жыхары бліжэйшых дамоў ладзяць, нярэдка — сямейныя, пікнікі. І часам дзіцячы мячык дабягае да каменя з мэмарыяльнай шыльдай або да першых крыжоў, якія нязьменна вартуюць пярэдні край урочышча Курапаты...

Цікава, наважыліся б гэтыя прыстойныя людзі вольна адпачываць каля самых могілак ці нават седзячы на крайніх магілах? Думаю, што не. Але як ёсьць — так ёсьць.

«Вось сымбаль твой, забыты краю родны!..»

*Ігар Кахановіч*

*Джэймс Тысо, «Пікнік»*



## Чыста на вуліцах

1971 год, Гомель, мне шэсьць гадоў. Вяртаемся з бабуляй ад крамы дахаты. Бабка — з валізай, я зь вялізнай цукеркай. Падыходзім да нашага плота.

— А куды абгортку падзеў? — пытаецца бабуля.

— Куды... На дарогу выкінуў!

— Ідзі шукай, каб выкінуць у сьметнік, як прыстойныя людзі. Пакуль ня знойдзеш, у хату не пушчу!

Шукаў тую цукерачную абгортку мо хвілін дзесяць пад наглядам бабкі. Знайшоў і выкінуў. З тых часоў сьмецьце выкідаю толькі «як прыстойныя людзі»...

...Калі чую ўсе гэтыя енкі — «а у вас в Беларуси так на улицах чисто, потому что Лукашенко порядок навел!» — заўсёды згадваю гэты эпізод са свайго дзяцінства.

*Уладзіслаў Ахроменка*



*Гаэтана Бэлеі, «Бабуля»*

# Тутэйшыя

У мэтро ў Нью Ёрку магчыма пачуць гутаркі на розных мовах. Амаль кожны трэці размаўляе па-расейску. Шмат народу гавораць па-польску. Апошнім часам штодзень чую мяккую і сьпеўную ўкраінскую мову. Знаёмыя словы вылучаюцца ў агульным хоры, і я міжволі прыслухоўваюся да іх. Вядома, калі пачую ў гэтым тлуме беларускія словы, то адразу паварочваюся да тых, хто іх гаворыць.

Дзьве русявыя прыгажунькі размаўлялі пра свае дзявочыя справы. Гадоў ім было па пятнаццаць, ня болей. Неяк няёмка было зьвяртацца да іх, але я пераадолеў сваю сарамлівасьць:

— Вы зь Беларусі прыехалі?

— Не, — адказалі яны. — Мы — тутэйшыя!

*Марат Баскін*

*Эвэрэт Шын, «Папярэчныя вуліцы ў Нью Ёрку»*



# Год Сьвіньні

Менск, канец сьнежня, ранішні змрок. Мне ўжо чатыры, пайшоў пяты. Муж сястры нацягвае скураныя боты, накідвае шынель і кліча мяне да сябе. Мы спускаемся з чацьвертага паверху ў двор і, сьлізгаючы па абледзянелай сьцежцы паміж сумётаў, ідзем да хляўка, дзе захоўваюцца дровы ды рохкае ў пастаўніку сьвіньня. Яшчэ ня ведаю, але ўжо адчуваю: мы ідзем яе забіваць. Але яшчэ больш адчувае гэта сьвіньня: муж сястры толькі поркаецца з замком і ключамі, а віск ужо страшэнны...

Ён забіў яе адным стрэлам зь пісталета, я добра памятаю чорную дзірачку ля вуха, дымок...

Адыходзіў 1945-ы, пачынаўся 1946-ы, год Сьвіньні, першы год без вайны...

*Сяргей Ваганаў*

*Ўільям Сыднэй Маўнт, «Дратаваньне сьвіньні»*



# Краіна скаргаў

Калі беларусу кепска — можна напіцца. Як зусім кепска — можна паскардзіцца. Найбольш крыўдлівыя скардзяцца пісьмова. Празь пятнаццаць дзён табе адкажуць... тыя, на каго паскардзіўся або іх начальства. Калі застанесься незадаволеным, перапіска працягнецца, пакуль ня стоміцца скаржнік або яго не прызнаюць паталягічным квэрулянтам.

Скардзіцца можна на сантэхнікаў, лекараў, прадаўцоў, чыноўнікаў, кантралёраў, суседзяў, мужоў... Бадай, на ўсіх, акрамя Бога і таго, хто «крышку вышэй». Так працуе «найлепшая дэмакратыя Эўропы», дзе галоўная свабода — свабода скаргі — адмяняе ўсе іншыя, малазначныя і «неактуальныя». Пішыце скаргі — і вам адпішуць. Вось такі тут майдан...

Толькі куды паскардзіцца на сёлетнюю зіму? Дастала сваімі сюрпрызамі і капрызамі! Мо ёсьць такое міністэрства?

*Васіль Аўраменка*

*Уладзімір Сяроў, «Хадакі ў Леніна»*



# Прэмію не далі

Неяк мяне былі вылучылі на прэстыжную прэмію, але не далі.

Знаёмыя па гарачых сьлядах выказалі спачуваньне — канечне, ты найлепшы, але інтрыгі, кумаўство, палітыка... Так патрабуе ветлівасьць, пасьля чаго ўсе дружна пра ўсё забываюцца да наступнага разу.

Але потым стала адбывацца нешта незразумелае. Я маю іншыя ўзнагароды, некаторыя лічу больш важнымі, чым тая, якую не далі. Але іх ніколі ня згадваюць ні сябры, ні жонка, ні грамадзкасьць у цэлым. А пра неатрыманую — увесь час. Маўляў, вы былі мацнейшы. Выдатная рэч. Мы ўсёй сям'ёй перачытвалі. І гэтак далей.

Я вось думаю — далі б мне тую прэмію, хто б калі ўзгадваў маю кніжку?..

*Аляксандар Лукашук*

*Пінтурыкіё, «Імпэратар Сьвятой Рымскай імпэрыі Фрыдрых III надае тытул паэта-ляўрэата Энэю Пікаляміні ў 1442 годзе»*



# Дарагія прыхаджанкі

На працы — гарачыя дні. Наш гіпэрмаркет уступіў у ліхаманкавую паласу калядна-навагодніх продажаў. У прадаўца, кладаўшчыка, грузчыка — падвойная, а часам і патройная мера намаганьняў.

Восьмая гадзіна працы з дванаццаці. Я, грузчык, сяджу на «родным» складзе ў рэдкую хвіліну адпачынку. Забягаюць дзяўчаты-прадавачкі па чарговую порцыю тавару, заўважаюць мяне.

— Ігароша, — з подсьмехам зьвяртаецца першая, — нейкі ў цябе выгляд не-та-вар-ны!

Другая падхоплівае:

— Сапраўды! Цябе такога нават на акцыі не прадасі!

Рагочам утраіх. Дзякуй вам за клопат, мае дарагія «прыхаджанкі»! Ізноў выцягнулі настрой...

*Ігар Кананові́ч*

*Тэафіль Дэйроль, «Адпачынак на сенажаці»*



# Доктар

Наш дзіцячы доктар быў зь вядомай у мястэчку доктарскай сям'і. І дзяды, і прадзеды яго былі лекарамі. Пасьля прыёму ў бальніцы ён наведваў хворых па дамах. Заўсёды ў кішэні ён трымаў цукерку ці пячэньку, а пачынаў размову з жарту. Я памятаю, як, зайшоўшы да нас, ён правёў даланёю над маёй галавой і мае валасы ўзьняліся ўверх, як у пудзіла.

— Хлопчык-электрычнасьць, — сур'ёзна сказаў ён і падміргнуў мне.

Любіў ён паразмаўляць з маім бацькам, настаўнікам, аб сучаснай пэдагогіцы. Яна яму не падабалася. Ён рашуча казаў:

— Ня трэба выхоўваць дзяцей! Трэба выхоўваць сябе!

*Марат Баскін*

*Люк Філдэс, «Доктар»*



# Мы ж рускія людзі

Строгая ахоўніца дысцыплінавана чакае да самай апошнія хвіліны абедзеннага перапынку ў падатковай інспэкцыі. Тлумная грамада наведнікаў запаланіла невялікую пляцоўку першага паверху і нецярпліва чакае адмашкі жанчыны ва ўніформе.

Невысокага росту паўнаваты мужычок не вытрымлівае: «Ды што гэтыя пяць хвілінаў. Мы ж рускія людзі! Свабодна пускайце». Ахоўніца не рэагуе на словы наведніка.

З глыбіні памяшканьня, ад шкляных стэляжоў з узнагародамі за спартовыя дасягненьні падатковай чуецца зьедлівая заўвага: «Калі вы рускія людзі, дык навошта вам свабода? Безь яе неяк пражывяце». Паўнаваты мужычок ніякавата агрызаецца: «І тое праўда. Пастаім».

*Алесь Асіпцоў*

*Ільля Рэпін, «Бурлакі на Волзе»*



# Сучасны варыянт

Як падыходжу да ліфта на працы, якога заўжды трэба досыць доўга чакаць, узгадваецца паэт Віктар Стрыжак, які каля гэтага ліфта сканаў, бо ні ў «Юнацтве», ні ў «Мастацкай літаратуры» яму ніхто ня даў апахмяліцца.

«Памёр раптоўна на лесьвічнай пляцоўцы ў выдавецтве „Мастацкая літаратура“» — напісана ў ягонай біяграфіі. Хіба гэта «раптоўна»: абыходзіў чалавека за чалавекам...

Калі не далі тады, дык зараз бы дакладна не далі.

Вось проста пэўная, што я сканала б каля ліфта, калі б здарылася са мною гэткая сытуацыя. Бо альбо поўная цьвярозасьць у людзей, альбо поўная сквапнасьць, альбо поўная абыякавасьць. І сучасны варыянт — «у мяне грошы на картцы».

*Аксана Спрынчан*

*Мануэль Акаранса, «Натуральная сьмерць п’яніцы»*



# Пэнсія і пэніс

Што да павышэньня пэнсійнага ўзросту ў Беларусі...

Я пралічыў усе варыянты з гледзішча гендэрнай роўнасьці. Мужчыны жывуць у Беларусі ў сярэднім 66,5, жанчыны — 78 гадоў. Такім чынам мужчыны атрымліваюць пэнсію 6,5, жанчыны — 23 гады. Утрая даўжэй!

Каб было гендэрна справядліва, трэба, каб жанчыны ішлі на пэнсію ў 65, а мужчыны ў 53 — тады ўсе будуць мець па 13 гадоў «заслужанага адпачынку».

Але тады, лічу, час разьвітацца з паняцьцямі «жаночая» і «мужчынская» праца.

Мужчыны павінны на сябе браць 50% адказнасьці за хатнюю працу. Гэта значыць, памагаць з мыцьцём посуду, праньнем, гатаваньнем абедаў.

Пэніс зусім гэтым заняткам не перашкаджае.

*Багдан Андрусішын*

*Жазэф Байль, «Пасуднік»*



# школа

у школе мы рабілі наступныя рэчы: уключалі краны ў прыбіральнях на паўдня... кідалі ў лайно дрожджы... лавілі малых падшыванцаў і выстрыгалі ім плешыны на галовах... залятаалі ў распранальні і выключалі сьвет і харкалі ў розныя бакі — перамагалі тыя вучні, на якіх было як мага болей сопляў... мы размалёўвалі парты і сьценкі... курылі на ўроках «вайсковай падрыхтоўкі»... зьдзекаваліся з трудавіка і гістарыцы... на ўроках расейскай літаратуры не хаваючыся пілі піва — давялі настаўніцу да бальніцы...

але цяпер адзін з нас — адвакат, другі — бізнэсмэн... трэці — хірург... а яшчэ ёсьць кандыдаты, пісьменьнікі, рэклямшчыкі... і ніводнага «батана» сярод нас няма.

*а. і. бацкель*

*Альбэрт Анкер, «Школьны экзамэн»*



## Беларуская помсьлівасьць

1987. Шаша Менск-Вільня. Кабіна МАЗа, гаварлівы кіроўца.

— Сам я з Расеі. Бацьку майго пасьля вайны пад Ашмянамі старшынёй у калгас прыслалі. Сталін вам, беларусам, не давяраў. Бацька, царства яму нябеснае, страшную рэч зрабіў: цьвінтар і капліцу зруйнаваў пад сьвінарнікі. І вось пайшоў я з тамтэйшымі хлопцамі купацца. А найлепшы сябра мяне проста з адхону сьпіхнуў. Я бултыхаюся, а аднаклясьнікі стаяць і глядзяць моўчкі, як муляй даўлюся. Але — выплыў нейкім цудам.

— Вы да бацькі-старшыні адразу пабеглі? — пытаюся.

— Нікому нічога не сказаў. Пацаны мяне амаль запаважалі. Хаця бацьку майму ўсё адно не даравалі, ведаю. Вы, беларусы, помсьлівыя... Партызаны!

*Уладзіслаў Ахроменка*

*Томас Эйкінс, «Месца для купаньня»*



# Лыжачка Францішка Багушэвіча

Пасябравала з новай добразычлівай прадавачкай нашага прадуктовага.

— А я раней ў Кушлянах жыла. Пры музэі Багушэвіча арандавала пасеку, — расказала яна днямі.

— Я ў музэі была, падзівілася на вульлі.

— Скажу больш. Я радня Багушэвіча. Мама ў хаце жыла, калісьці паэтавай. Як надумалі музэй рабіць, іхную сям'ю выселілі. Але ўсё роўна, калі адчыніўся музэй, мама пабегла і лыжачку сярэбраную, якой карыстаўся Багушэвіч, падарыла ў экспазыцыю. Я добра памятаю лыжачку. Ад часу яна вытанчылася...

І прадавачка намалявала на прылаўку старую пачарнелую лыжачку для гарбаты. Я, натуральна, убачыла яе, а прадавачка задаволена заўсьміхалася, што вырабіла эфэкт.

*Таня Скарынкіна*

*Валянцін Варанішча, «Францішак Багушэвіч»*



# Неміласэрная

За дзьвярыма яна ўгледзела чарнявых дзяцей. Спачатку яны папрасілі есьці для самага маленькага, гадоў пяці хлопчыка, равесьніка яе сыночку. Вынесла тое, што было на абед. Не магла глядзець на чырвоныя, сьсіверaныя ручкі. Вынесла рукавічкі. Папрасілі даць з сабою. Наладавала торбу. Папрасілі адзеньня. Сабрала тое, што было ад сына і дачкі. Папрасілі для маці. Тлумачыла, што адзеньне, якое магла б прапанаваць, на лецішчы. Не сыходзілі. Аддала сарафан, у якім хадзіла на працу. Падзякавалі. Сышлі.

Вечарам, вяртаючыся з працы, убачыла каля сьметніцы свой сарафан. У ліфце стаяў слоічак з марынаванымі агурочкамі.

Яны прыходзяць часта, але яна зачыняе перад імі дзьверы.

Яна неміласэрная.

*Альжбета Кеда*

*Джакама Чэруці,*
*«Дзяўчынка-жабрачка і пральля»*



# Амэрыканец

Джон Вашкевіч нарадзіўся ў Нью-Ёрку ў беларускай сям’і перамешчаных асобаў. Пасьля «адлігі» бацькі вярнуліся на радзіму.

Джон скончыў школу, адслужыў у войску, узяў шлюб з расейскай дзяўчынай і зьехаў у расейскую глыбінку. Джон быў рахманы, сарамяжлівы і працавіты. Ён не зьмяніў імя. Яго знайшлі ў пад’езьдзе мёртвым з заточкай у грудзях.

Неяк я правеў віртуальнае кола радыюсам прыкладна дзьвесьце мэтраў. З гэтай невялікай тэрыторыі вакол мяне загінулі у Расеі, куды з розных прычынаў зьехалі, чацьвёра знаёмых хлопцаў.

Ня ведаю, зь якой прычыны гвалтоўна памёр кожны зь іх, але падазраю, што Джона забілі проста дзеля яго імя.

*Юры Станкевіч*

*Джон Чарлз Долман, «Карабель з эмігрантамі»*



# Сьледчы НКВД

За часамі Яжова працаваў у Гомельскім НКВД сьледчы Яцэвіч. Добры, відаць, быў сьледчы, бо пасьля сьмерці Сталіна атрымаў «за парушэньне сацыялістычнай законнасьці» немалы тэрмін. Вярнуўся дахаты і выпадкова натрапіў на свайго былога падсьледнага. Яцэвіч падсьледнага не пазнаў — празь яго такіх сотні прайшло. Затое падсьледны пазнаў Яцэвіча. Напампаваў гарэлкай, завёў на будоўлю і зьбіў на горкі яблык.

Са шпіталю Яцэвіч выйшаў вар'ятам. Кідаўся на суседзяў зь сякерай. Падпальваў сваю хату. Урэшце, яго выгнаў на вуліцу ўласны сын.

Апошні год жыцьця былы энкавэдэшнік пабіраўся на прыступках крамы з жалезнай конаўкай. У нашым пасёлку на ўскрайку Гомелю яму ніхто прынцыпова не падаваў.

*Уладзіслаў Ахроменка*

*Жуль Баст'ен-Лёпаж, «Жабрак»*



# Брат з прэйскурантам

Напярэдадні маёй апэрацыі ў лясным шпіталі ў палату заходзіць дзядзька ў зацухмоленым халаце з бэджыкам: крыжык і імя — брат Анатолій. Ялейным голасам прапануе замовіць саракавуст за здароўе. Нядорага, вось прэйскурант.

Кажу, што я не праваслаўны, а вуніят. «Сектант! — выносіць мне прысуд брат Анатолій. — Вы ж ня хрысьціцеся! У вас жа ні ікон, ні бацюшак няма! Вы ж у пекле гарэць будзеце!»

Сусед па палаце, мясцовы хлопец, пытаецца ў брата з прэйскурантам, дзе іхняя царква. «Вунь там, за ляском!» — упэўнена паказвае ў вакно візытант.

«Дык там жа поле голае!»

«Б...і няхрышчаныя!» — кідаецца да дзьвярэй брат Анатолій.

*Уладзімер Арлоў*

*Аляксей Венецыянаў, «Прычасьце паміраючай»*



# Якім будзе лета?

Вясковы прыпынак. Людзі чакаюць аўтобус на Менск. Падыходзіць дзядзечка. Працягвае, відаць, сваёй жонцы тры галінкі, на якіх толькі-толькі пачынаюць прабівацца зялёныя лісточкі. Кажа:

— На, вызначай, якім будзе лета?

Цётачка доўга іх разглядае, перакладае з далоні ў далонь і нічога ня кажа. Хтосьці з пачаканцаў не вытрымлівае і пытаецца:

— Ну дык якім будзе лета?

— Г..но будзе лета! — адказвае цётка. І адразу зразумелым робіцца яе доўгае маўчаньне.

*Алесь Анціпенка*

*Ўільям Сыднэй Маўнт, «Варажба»*



# Прафэсійны аптымізм

Агульнавядома: гуманітарныя дысэртацыі пішуцца паводле аднаго шаблёну. Калі дысэртант мае ўяўленьне аб прадмеце, то спакаваць яго ў прыстойную структуру можа любы адэкватны «ўтаямнічаны», ён жа — навуковы кіраўнік. Калі ня мае — кіраўнік запіхвае ў чужую дысэртацыю свае ідэі. А часьцей — сумяшчае гэтыя навуковыя «па» ў агульным танцы.

Учора прыходзіла магістрантка-карэянка: разумная, энэргічная, скончыла лінгвістычны ўнівэрсытэт і прагне пісаць працу па арт-мэнэджмэнце. Кажа сарамліва: «Толькі вось я ў ім ня вельмі разьбіраюся. Дыплём я пісала па Мандэльштаме». Адказваю: «Якое супадзеньне! Я таксама больш разьбіраюся ў Мандэльштаме, чым у арт-мэнэджмэнце»...

Сяджу вось, спампоўваю кніжкі па арт-мэнэджмэнце. Мая прафэсія вучыць аптымізму.

*Юлія Чарняўская*

*Жан Анарэ Фраганар, «Маладая чытачка»*



# Галоўная прычына

Міністры, дырэктары, службоўцы, студэнты… Усе мы ў Менску стараемся размаўляць «па-гарадзкому», але празь некалькі словаў абавязкова праскочыць «сбольшего», «соснила», «трошки», і тут жа па-здрадніцку высунецца родны «бульбяны» акцэнцік: «чэво», «говорыт», «дзевушка»...

Дый нярэдка на добрым застольлі паміж пятым і шостым тостамі твая суразмоўца, карэнная, «пародзістая» мянчанка, міжволі прызнаецца, што зьяўляецца такой ужо гадоў пятнаццаць...

А калі па-сапраўднаму карэнных мянчан сабраць разам, то, можа, толькі вялікі райцэнтар набярэцца. Астатняя сталіца — гэта мы, працавітыя, ня дужа пераборлівыя, хітраватыя «калгасьнікі». І галоўная прычына таго, што Менск мае згаданы статус — наша прысутнасьць у ім.

*Ігар Кананові*ч

*Карціна Гаэтана Бэлеі*



## Казачок

— Не падхадзіце, тут офіс асвешчают! — заступіў мне дарогу маладзён у крыху вялікай для яго камуфляжнай куртцы.

— А хто вы, каб мяне спыняць і не пускаць у будынак? — пацікавіўся я.

— Праваславные мы. Казачкі! — з гонарам адказаў ён і шматзначна дадаў: — Знаеце, хто эта? Эта — служывые за веру!

У гэты момант на прыступкі выйшаў сьвятар і акрапіў сьвятою вадой супрацоўнікаў офісу, якія выйшлі з калідора на ганак. Усе прысутныя павярнуліся і схілілі галовы.

Я паглядзеў на маладзёна. Ён засяроджана і вельмі сур'ёзна паглядзеў у бок сьвятара і павольна, але шырока перастаўляючы руку, перажагнаўся зьлева направа...

*Ігар Кузьмініч*

*Станіслаў Маслоўскі, «Вясна 1905 году»*



# Шкарпэткі для галоўнага

Пачатак 90-х. Галоўны рэдактар буйной маскоўскай газэты заўважае на шкарпэтках чальцоў рэдкалегіі дзіркі. Згадвае, што найлепшыя ў былым СССР шкарпэткі рабіў віцебскі «КІМ»...

Аднак паспрабуй прывезьці іх у Маскву, калі забараняецца вывозіць зь Беларусі амаль усё. Мяжы, вядома, з Расеяй няма. Але куды схавацца ад патрулёў, што прагульваюцца ўздоўж цягнікоў і пільна сочаць за кожным?..

...Ноч, бясконцы сьнег, сьлізкая, ад самога Віцебску, шаша; палюбоўніца адказнага сакратара скурчылася ззаду пад вялізнымі скрынямі са шкарпэткамі; сакратар хвалюецца, ці абмінем патруль...

Дзе тая найвялікшая ў сьвеце газэта? Дзе тыя шкарпэткі? Адно што даношвае мо былы галоўны, бо прыдбаў цэлую скрыню.

Назапашваў на гады.

*Сяргей Ваганаў*

*Анна Анкер, «Мужчына цыруе шкарпэткі»*



# Пропісь

Цяпер амаль усе дзеці пішуць так, што нічога не разьбярэш. Таму што ў школе не карыстаюцца пропісямі, па якіх можна навучыцца прыгожа пісаць. Мне пасьля першай клясы з-за дрэннага почырку настаўніца задала на лета перапісаць у сшытак усю пропісь. Часу было шмат да верасьня, я хутка пра заданьне забыўся. Аднойчы, сустрэўшыся з настаўніцай, пачуў: «У школу прыходзь зь перапісанай пропісьсю, а калі нічога не пісаў, то можаш і далей гойсаць па палях!» Пасьля гэтага цэлы тыдзень, сапсаваўшы кучу сшыткаў, я выводзіў літаркі і ў школу прыйшоў з выкананым заданьнем. І мая першая настаўніца мяне пахваліла. З таго часу пішу чытэльна.

*Віктар Шніп*

*Арвід Лільелунд, «Цяжкая праца пры лямпе вечарам»*



# Маскі

З пачуцьцём салодкай тугі згадваю пачатак 90-х. Добры быў час. Не таму, што ў юнацтве ўсе глыбіні сьвету здаюцца плыткімі, а вяршыні недастаткова высокімі. Люблю 90-я за шчырасьць: ніхто тады не карыстаўся маскамі — ні паэты, ні журналісты, ні выкладчыкі. Нават чыноўнікі, чыя праца ў сілу розных абставінаў не суадносіцца са шчырасьцю, не хаваліся ад людзей. Максымум, маглі нацягнуць на галаву панчоху цялеснага колеру, альбо празрысты поліэтыленавы пакет, што, зрэшты, не перашкаджала зазіраць ім у вочы. Сёньня ў слугак народу замест твараў драўляныя фізіяноміі. А паэты, журналісты і выкладчыкі насунулі маскі талерантнасьці, апантанасьці і альтруізму: хаваюць разгубленасьць, эгаізм і бяздарнасьць.

*Анатоль Брусевіч*

*П'етра Лёнгі, «Азартны дом у Вэнэцыі»*



# Лазьня

Лазьня працавала ў нашым мястэчку два дні на тыдзень. Адзін дзень быў жаночы, а другі — мужчынскі. Зьбіраліся ў яе, як на сьвята. Бацька доўга выбіраў венік з тузіна венікаў, якія віселі ў кладоўцы, быццам бы астатнія меліся пайсьці на мяцёлкі. Маці рыхтавала нам чыстае адзеньне. Мы бралі тазікі, адзеньне і ішлі ў лазьню. У лазьні заўсёды была чарга. Але ніхто не сьпяшаўся. Бо дзе паразмаўляць, як ня ў лазьні. Выходзілі з лазьні нейкімі прасьветленымі. Але ж заўжды, кажучы пра горад, зайздросьцілі:

— У іх жа ванна ёсьць!

Цяпер, мыючыся у гарадзкой ваньне, такога прасьвятленьня не адчуваеш.

*Марат Баскін*

*Віталій Ціхаў, «У рускай лазьні»*



# Прыстойнасьць

Едзем ў перапоўненым аўтобусе. Каля мяне стаіць спадар інтэлігентнага выгляду ў паліто і з ладна зачасанымі сівымі валасамі.

На адным з прыпынкаў у бліжэйшыя да нас дзьверы ўціскаецца жанчына з двума клункамі. Мужчына паварочваецца ў бок маладзёна, што сядзіць ля акна, і кляцае яго па плячы.

Той узьнімае вочы, у якіх яшчэ працяг гульні і ўсьмешка на вуснах.

І гэты прыстойны чалавек выцягвае навушнік з вуха зьбянтэжанага хлопца і выдае:

— Сука, сколька ты будзеш в экран таращіцца? Цебя хто учіл? Женщінам неабхадзіма ўступаць места!

Маладзён без пярэчаньняў высьлізнуў у натоўп. Тады спадар вельмі ветліва да жанчыны:

— Сядайце, калі ласка.

*Ігар Кузьмініч*

*Герард Тэрборх,*
*«Ветлівая размова»*



# Постмадэрнізм

Я ніяк ня мог зразумець, што ж такое постмадэрнізм.

Здарылася, што летась доўга шукаў выставу Варлама Шаламава ў Менску. Выстава была заяўлена на адрасе бару «Хуліган». Але ў бары пра яе ніхто нічога ня чуў. Ні бармэн, ні наведнікі.

У змроку залі я разгледзеў праём, за якім аказалася крутая вузкая лесьвіца. Яна вяла ў клюб аэробікі, пра што сьведчыў надпіс, а таксама рэклямныя партрэты жанчын у купальніках. Я ўжо хацеў вярнуцца, але на другім паверсе ўбачыў калымскую экспазыцыю. Яе разглядала адзінокая жанчына. І я зразумеў, што такое постмадэрнізм. Культура без герархій.

І ўспомніў простыя словы Варлама Шаламава: «Лагерь мироподобен».

*Аляксандар Брыт*

*Жуль-Аляксандр Грун,*
*«Пятніца ў Салёне французскіх мастакоў»*



# Рай

З фарысэйскай пагардай, гайдаючыся ў гамаку, стрыгу вушамі. Маўчу. Я паляўнічы. Каб здабыць зьвера, трэба яго заманіць ў пастку. Вось гэты... Цяльпук. Ёлупень...

«Я праваслаўны, хоць рэдка хаджу ў царкву (брэша! Хадзіў адзін раз на вясельле сястры ў 2002!). Чаму я павінен ісьці ў пекла?! Жыву праведна, зла не раблю! Чаму?!» — глядзіць з выклікам.

«Пойдзеш у рай, калі ўжо ня робіш кепскага, у рай для атэістаў» — дазваляю.

Праз паўгадзіны перакульвае кілішак каньяку, выцірае вусны і выпальвае (ня мне):

«Слухай, я такую трубу на працы сьпёр! Буду рабіць самагонны апарат!».

*Алена Германовіч*

*Эдвард Кілінгўарт Джонсан, «Гамак»*



## Бяз права на бязьдзейнасьць

Вучоба. Ноч. Балён. Клей. Улёткі.

Халодныя рукі шыюць сьцягі і расьцяжкі.

Праца. Акцыі. Затрыманьні. Арышты. Суды. Суткі.

Маленькая, глядзі, якая багоўка намаляваная. А вось гэта мураш-пажарнік! Ты пыталася, дзе ён хаваецца ў халады? А вось і хаваецца тут, пад зямлёй.

Замужжа. Дзеткі. Праца. Акцыі. Садок.

Ну дык паваюйма ў садку. На мове ж трэба.

Трэба тваім дзецям.

Паваюйма.

Пасталелыя актывісты пашыраюць беларушчыну гэтак аддана, як і ў юнацтве. Толькі мэтады іншыя, кошт вышэйшы і права на бязьдзейнасьць няма.

*Наста Дашкевіч*

*Франц Людвіг Катэль, «Молі Пічэр у бітве пад Монмутам»*



# Усе — патрыёты

«Купляйце беларускае!» Цешыць, што гэта на цяперашні час — рэклямны заклік, а ня сутнасьць дэкрэту, дзе па пункціках расьпісана, хто, калі і колькі павінен... Чаму — «на цяперашні час»? А з магчымасьці ўводу забароны на спакойнае «тунеядзтва» таксама спачатку кпілі ды пасьмейваліся...

Хоць месцамі сам заклік ужо набыў моц закону. Нават заможная і строгая «Карона» мусіла парагледзець свае прынцыпы, і цяпер у адпаведным аддзеле побач з добрым віном красуе дзясятак найменьняў «электаральнага напою». А як жа?! У цяжкія для краіны часы ўсе — патрыёты...

*Ігар Кананові́ч*

*Яахім Бэйкелар, «Добра забясьпечаная кухня»*



# Электрычнасьць

Паўгадзіны не было электрычнасьці. Не працаваў ні інтэрнэт, ні тэлефон, не было гарачай вады (у нас электракалёнка). У дзяцінстве ў вёсцы электрычнасьць прападала ў навальніцу і ў моцныя мяцеліцы. Летам сьвятло падключалі праз паўдня, а зімой часам і праз тыдзень. Бацькі рана клаліся спаць, а я пры лямпе чытаў. Чытаў, але мне вельмі хацелася паглядзець тэлевізар. І я прасіў у Бога, каб зьявілася электрычнасьць. Часам яна тут жа зьяўлялася, і я верыў, што мне дапамог Бог. Цяпер, калі зьнікла электрычнасьць, я не зьвяртаўся да Бога. Я проста чакаў, калі загарацца лямпачкі.

*Віктар Шніп*

*Васілі Максімаў, «Бабуліны казкі»*



# Новыя грошы

Апошнім часам, калі ў нас зьявіліся свае манэты, людзі сталі больш уважлівымі да сваіх грошай. Як толькі ў краме ці на вуліцы пачуецца звон манэт, дык амаль усе, хто знаходзіцца ў радыюсе пачутага звону, пачынаюць вельмі пільна ўзірацца сабе пад ногі...

«А раптам МАЁ!»

Часьцей за ўсё суседа! Але ж...

А якім скарбам падаецца знойдзеная манэта!

Дакладна, я так ня радаваўся, калі раней знаходзіў папяровыя грошы. Усё ж «цьвёрдыя» грошы неяк больш надзейныя і грунтоўныя. Ці гэта проста вельмі далёкі адгалосак продкаў зь іх талерамі ды солідамі...

*Яўген Мартыновіч*

*Квэнтын Масэйс, «Мяняла і ягоная жонка»*



# Самагонка

Бацька гоніць самагонку. Час ад часу зазіраю да яго з пытаньнем: «Колькі ўжо там нацякло?» І недзе апоўначы бацька сам ужо кліча мяне, каб дапамог спарадкаваць апарат. На стале поўнае вядро. Бацька каштуе і мне дазваляе памачыць палец і аблізаць. Самагонка цёплая і пахне хлебам. «Нясі паперу. Паглядзім, як гарыць», — гаворыць бацька і дастае запалкі. Я мачу паперу і падношу да агню. Самагонка капае і гарыць сінім агнём. Бацька ўсьміхаецца: «Вось так будуць вантробы гарэць...»

*Віктар Шніп*

*Васілі Максімаў, «За прыкладам старэйшых»*



# Мода — наша ўсё...

Мама казала — гулялі вясельле. Мы — гулялі на вясельлі.

Яны — ладзілі Купальле. Мы глядзім тое, што ладзяць.

Адчужэньне абрадаў. Пазбаўленьне сакральнасьці сьвятаў.

Мне тыцкаюць фатаздымкамі: ёлка ў нацыянальным стылі! Стужачкі раздаём!

Стужка, мова, сьцяг, «Пагоня» — модна, кайфуюць тысячы.

Раздавайце стужачкі. Танцуйце ля ёлкі ў нацыянальных сымбалях.

Зьбірайцеся на моўных курсах.

Але мода — мінае. У моды ня дух — душок.

Мама не была супраць маіх клёшаў на 32. Мама ведала — мінецца.

Але мама ведала, калі гуляла вясельле, што рабіць з кавалкам вясельнага караваю.

Мы гуляем на вясельлі — ня ведаем.

Што рабіць са стужкай — ня ведаем.

Наступнае пакаленьне будзе ведаць, нашто яму мова?

*Валеры Гапееў*

*Ян Стэн, «Вясковае вясельле»*



# Пра майго Дзеда Мароза

Майго дзядулю ўсе звалі Дзед Мароз, проста прозьвішча ў яго было такое. Таму пытаньня «Дзед Мароз — сапраўдны?» для мяне не існавала. Ён быў самы сапраўдны, самы добры і самы вясёлы. Нават нарадзіўся, як і належыць Дзеду Марозу, пад Новы Год, у сьнежні.

Жаданьне і ўменьне жартаваць — адна зь ягоных неспасьціжных таямніцаў.

Рэпрэсіі, страта бацькі, брата, Сыбір, падлетак на вайне, цяжкія раненьні... Такім было ягонае жыцьцё.

Усьмешкі, жарты-прымаўкі, любімы трафэйны гармонік... Такім запомніўся.

Аднойчы яго ня стала. Ён сышоў у студзені, пасьля Новага Году. Як і належыць самаму сапраўднаму Дзеду Марозу.

*Лі. К.*

*Робэрт Ўолтэр Ўір,*
*«Сьвяты Мікалай»*



# Абярог нацыі

Нас ня ведае Сьвет. Зьнікнем — не заўважаць! Што зрабіць? На дэманстрацыю! Але апынесься за кратамі, паб'юць, звольняць. Старыя ногі баляць.

Эўрапейцы прыдумалі дыктоўку. Мы на 90-годзьдзе БНР напісалі першую агульнанацыянальную дыктоўку — «Дудку беларускую» Багушэвіча. Пісалі ў ЗША, Эўропе, Беларусі. Пішам штогод. Зладзілі інтэрнэт-дыктоўку «Ліста з-пад шыбеніцы» Каліноўскага. Але нас мала. Нас пачнуць паважаць, убачыўшы агульнанацыянальную інтэрнэт-дэманстрацыю — дыктоўку мільёнамі рук і душ. Вядомыя дзеячы прадыктуюць, а мы разам напішам. Прасьпяваем. Тэкст агульнанацыянальнай дыктоўкі трэба напісаць. Супольна абмеркаваць. Уключыць тэстаманты нашых продкаў.

Агульнанацыянальная дыктоўка можа стаць гімнам Мове, абярогам нацыі на стагодзьдзі, «каб ня ўмёрлі».

*Уладзімер Падгол*

*Альбэрт Анкер, «Вясковая школа 1848 году»*



# Уладарніца Кроснаў

Дзедаў дом — сьвет бязьмежнага, магічнага і Боскага! Бабуля шэптам слоў-чараў продкаў бярэ маю душу ў палон...

Гіганцкія Кросны ператвараюць дом у палац драўлянага чараўніка. Бабуля, уладарніца Кроснаў, распавядае значэньне кожнага малюнку-арнамэнту, кожнага колеру ніткі! Пачынаецца мудрая праца рук і душы!

Ніткі фарбавалі разам, стары і малы! Іх чароўным водарам прасякнута наваколле. Ператвараюся! Я, арнамэнт і будучыня!.. Ніткі, запраўленыя ў чоўніках, як радкі аповедаў, якія ў сваім чароўным танцы перапляценьня саткуць новы твор! Рыпеньне, ляскатаньне, прыглушаныя словы песьні... Кросны ажылі і засьпявалі. Гамоняць разам, жывое зь нежывым.

У Храм сутворчасьці, з малітвай аб Беларусі, увялі мяне бабуля і Бог!

*Аляксандар Таўстыка*

*Люі Лё Нэн,*
*«Сялянскі інтэр'ер са старым флейтыстам»*



## Не настраляліся?

Па вуліцы не прайсьці: пад нагамі — гільзы, парэшткі пэтардаў (некаторыя нагадваюць сыстэму «Град» у маштабе 1:30), на слупах абвесткі «Зьнік сабачка!» (уцёк, напужаўшыся навагодняй страляніны). У паветры — устойлівы пах пораху. І так — штогод. Незразумелая гэтая прага да фэервэркаў у дарослых мужыкоў. Мне дык хапіла на ўсё жыцьцё страляніны ў савецкім войску — і з «макарава», і з «калашнікава», і па-пластунскі ў сьнезе, ці, яшчэ горш, па вясновай мокрай зямлі. Пасьля службы прайшло амаль тры дзесяцігодзьдзі, але прашу родных і блізкіх: калі раптам мне захочацца ўзяць у рукі пэтарду, адвядзіце мяне да псыхіятра.

*Сяргей Навумчык*

*Франсіска Гоя,*
*«Манах Пэдра страляе ў бандыта Эль-Марагата»*



## чаканьне

гэта як быццам ты доўга клеіў мадэль самалёціка, і засталася адна дэталь да завяршэньня.

гэта калі ты сядзіш перад экранам камputара, і праз сэкунду пачнецца фільм любімага рэжысэра, які ты чакаў два гады.

гэта калі ты бяжыш зь мячом і разумееш, што ня толькі пас быў трапным, але ёсьць усе шанцы забіць вырашальны гол, і яшчэ сэкунда, галкіпэр пасьлізнуўся, а наперадзе пустая брама.

гэта калі ты атрымліваеш доўгачаканы ліст і пачынаеш ірваць капэрту, ведаючы, што ўнутры цябе чакае прыемнасьць.

так я сяджу аголены ўвечары на ложку і чакаю, калі яна выйдзе з ваннага пакою, бо шуму вады больш не чуваць.

*а. і. бацкель*

*Іпаліт Фляндрэн, «Голы юнак каля мора»*



# На Казюк — па настрой

Сёлета зноў хадзіла на Казюк. Не кажыце, што дорага і ня так, як раней!

Ну, камэрцыя. Гэта ж Казюк, а не Каляды. Традыцыя, сэнс якой і ў прыбытку. Усё жывое, цёплае і сапраўднае. Краўчыха прадае ільняных зайцаў не таму, што любіць цацкі. Так і кажа: «Зайцоў разьбіраюць, а куплялі б сланоў, я б сланоў нарабіла».

Каштую шакоціс і хвалю: «Дымам пахне...» Гаспадар напружваецца. «Не саступім, тут адных вяршкоў колькі! На адкрытым агні, бярозавыя дровы! Печыва дымам павінна пахнуць!»

Мне нібыта не патрэбныя ні зайцы, ні шакоціс на вяршках і бярозе. Толькі настрой. Але з Казюка з пустымі рукамі не вяртаюцца.

*Тацяна Поклад*

*Зыгмунт Фогель, «Вуліца ў Вільні»*



# Хаўтуры

«Як жа ты ўсох, Іванка!»

«Чулі, у старшыні за студзень васямнаццаць мільёнаў. Мне год трэба рабіць на гэтулькі».

«А які будзе бацюшка? Нясьвіскага паклічце — харошы, мала бярэ».

«У майго работа лёгкая — толькі падграбай камбікорм цялятам і ўсё».

«А мой дык нічога ня есьць, толькі п'е карвалол. Аўталаўка прывозіць. Купіць сем па 0,7, і на тыдзень хапае».

Ён ляжаў, слухаў і думаў пра свае пчолы і сад. Ягоны рай на зямлі. Ня ведаў яшчэ, якім будзе ягоны рай на небе.

*Валянціна Аксак*

*Мікалай Багатаў, «Пчаляр»*



# Рэцэпт унівэрсальны

Каб сьпячы з малым дзіцём аладкі, вам спатрэбіцца:

Бутэлька плястыкавая — 1 шт., рондаль — 1 шт., лыжка дэсэртная — 1 шт., магніты — 2 шт., імбрык — 1 шт., котка (жывая) — 1 шт.

Бярэм імбрык, ставім на кафлю і пачынаем грымець аб яго лыжкай. Пакуль малое зацікавіцца, ёсьць шанец замясіць цеста. Калі цеста гатовае, а малое ўжо падпаўзае да коткі па чарговую партыю драпінаў, бярэм рондаль і магніты. Калі магніты лепяцца на рондаль, вам пашанцавала — сьпечаце аладкі з чатыры. А як заўважыце, што малое ўжо падпаўзае да вазонаў, каб пасмакаваць зямлі, то плястыкавая бутэлька дапаможа яму на тыя чвэрць гадзіны, каб яшчэ з чатыры аладкі дадаліся ў місу. Паўтараем рэцэптуру зноў, і — смачна есьці!

*Наста Дашкевіч*

*Пітэр Артсэн, «Пякарня бліноў»*



# Каб і ў труне можна было сьпяваць

У калегі памерла цётка, пахавалі яе на Чыжоўскіх могілках. А помнік ставіць ёй і ня трэба — ён даўно стаяў. Цётка сама яго замовіла, дату нараджэньня выбіла і працяжнік. Засталося дадаць дату скону.

Абмяркоўваючы падрыхтаванасьць беларусаў да сьмерці, другая каляжанка апавяла пра бабулю мужа, якая жыла ў Гатаве і сама сабе замовіла труну, бо не хацела, каб у труне цесна было, а ёй жа яшчэ і сьпяваць трэба. Труну зрабілі, прынесьлі. Бабуля і кажа майстрам: «Я лягу, а вы вечка зачыніце, мне ж трэба праўдзіць». Майстры не хацелі, але за дадатковую пляшку пагадзіліся. Труна выявілася прасторнаю, і сьпявалася ў ёй добра.

*Аксана Спрынчан*

*Поль Дэлярош, «Кромуэл адчыняе труну караля Чарлза I»*



# Сорак дзён

Няма як пазваніць і спытацца, як справы.

Ці была ў лекара.

Ці хадзіла ў тэатар.

Ці стаяць яшчэ кветкі з дня народзінаў.

Ці прыходзілі ў адведкі бацькі з адзінай у горадзе беларускай клясы.

Ці дайшлі лісты ў турму да палітвязьняў.

Ці хапіла асобнікаў маёй новай кнігі для ўсіх сяброў.

Ці бура не сарвала сьцяг з балькона.

Ці працягнула падпіску на «Наша слова», «Народную Волю» і «Дзеяслоў».

Ці раздрукавала фота з падарожжаў у Варшаву, Вэнэцыю, Прагу.

Ці трэба грошы.

Ці што перадаць.

Ці што прывезьці.

Ці што зрабіць.

Мама памерла сорак дзён таму.

Толькі сорак?

Ужо сорак?

*Аляксандар Лукашук*

*Арнольд Бёклін, «Востраў памерлых»*



## сьмерць

у бальніцы пачалі паміраць пацыенты пасьля апэрацый. і менавіта ў пятніцу, увечары.

доўгі час ніхто ня мог разабрацца.

субота, раніца — у блёку рэабілітацыі пасьля апэрацыі зноў хтосьці адышоў у лепшы сьвет.

прааналізавалі, прасачылі, даведаліся.

вечар пятніцы, у адзін з пакояў заходзіць жанчына сталага ўзросту, крыху поўная, перад сабою завозіць прылады прыбіральшчыцы.

ходзіць акуратна па пакоі, працірае і так стэрыльны пакой, стараецца не пабудзіць пацыента.

потым дастае з разэткі вілку, устаўляе бязгучны партатыўны пыласмок, і хуценька вакол зьбірае пылінкі.

а ў гэты час пацыент сыходзіць у іншы сьвет, бо апарат падтрымкі жыцьцядзейнасьці і вэнтыляцыі лёгкіх адключаны — прыбіральшчыца працуе.

*а. і. бацкель*

*Яцэк Малчэўскі, «Танатас»*



# Партал

У дзяцінстве, бывала, пабойваўся засынаць. Стомленая сьвядомасьць рапартавала, што праваліваюся ня ў сон, а паміраю. Праз чвэрць стагодзьдзя аказалася, што мае дочкі пэўны пэрыяд ставіліся зь недаверам і некаторай боязьзю да чараў Марфэя.

Гэта распаўсюджаны дзіцячы страх. Можа таму ў фальклёры столькі калыханак?

Не заўважыў моманту, калі пачаў трактаваць засынаньне як партал да свайго альтэрнатыўнага жыцьця: там дзе сустракаюся з колішнімі сябрамі, куру цыгары і выступаю за баскетбольную зборную Літвы.

Не скажу, што менавіта гэтага мне не хапае пад час чуйнаваньня. Ад тытуню, некаторых сяброў і спартовых амбіцыяў адмовіўся даўно і сам. Мне проста надзвычай прыемна бяскарна весьці падвойнае жыцьцё.

*Андранік Антанян*

*Гюстаў Курбэ, «Сон»*



# рост

добра, прыгадайце, калі ласка, сваю школьную спартовую залю і тое, як фізрукі строілі нас паводле росту.

больш прыніжальнага нават уявіць немагчыма... Ната, самая высокая ў нашай клясе, заўсёды ішла першаю і станавілася пад вясёлае ўлюлюканьне хлопцаў, пад абразьлівае «дылда». Ната ішла і валачыла ногі, ёй было зусім не да сьмеху...

альбо апошнія аднаклясьнікі і аднаклясьніцы... малыя ростам, тумбачкі... якіх ня бралі граць у валейбол і баскетбол.

і гэта ўжо ў школе нам прышчаплялі парасткі сэксізму, расізму і эўгенікі... а вы кажаце, што ўсё ідзе зь сям'і...

я быў самым шчасьлівым у пастраеньні, бо, як большасьць, заставаўся стаяць сярод сярэдняроставых.

*а. і. бацкель*

*Ралф Гэдлі, «Турнір»*



## Варыянты сьвяточнай традыцыі

Усё-ткі выходжу на прыпынак раней — надвор'е спакушае прайсьціся дадому пахкім, сонечным хвойнікам. Іду, неўзабаве сустракаецца карціна: над маёй сьцежкай на вышыні блізу трох мэтраў небясьпечна навісла немаладая, сьвежазламаная на ўзроўні чалавечай галавы елка — толькі галіны суседніх дрэваў і трымаюць.

Спрабую прыгадаць, калі на тыдні быў такі вятруга. І раптам цюкае ў галаву: нядаўні Дзень памежніка, кампаніі мужчын у зялёных бэрэтах — з узьнятымі кілішкамі, у гэтым самым невялікім бары... Ня вецер прычына. «Дэсантура» напрыканцы свайго сьвята зухавата б'е аб уласныя галовы спустошаныя пляшкі, а ў памежнікаў, значыць, болей суровы варыянт...

*Ігар Кананович*

*Іван Шышкін, «Буралом»*



# Заўтрашняя газэта

Калі бачу даваенны Дом друку, мімаволі кідаю позірк на акно на трэцім паверсе — амаль 15 гадоў жыцьця...

Самае дзівоснае ад тых гадоў — нараджэньне газэты. Ад ранішняй, у спрэчках, планёркі; дзённай, у тэлефонных трэлях ды грукатаньні друкарак і ляскатаньні тэлетайпу, мітусьні; начнога, да сьвітаньня, дбаньня над палосамі ды пасьпешлівай бегатні ў тыпаграфію да таго шчасьлівага моманту, калі, стомлена ўладкаваўшыся на сядзеньні, працягваеш таксісту пахнучую друкарскай фарбай газэту:

— Вось, заўтрашняя...

— Заўтрашняя?!..

...Сьцьвярджаюць, што папяровыя газэты зьнікнуць. Але нават калі людзі будуць чытаць навіны проста ў паветры, усё роўна гэта будзе Газэта.

Бо Слова і Друк ня выжывуць паасобку.

*Сяргей Ваганаў*

*Ўільям Кэкстан, ангельскі першадрукар (гравюра XIX ст.)*



# Мама

Ня стала матулі. Узьнікла спрэчка адносна пахаваньня: я хацела нармальнае разьвітаньне і пахаваньне, сястра з татам — крэмацыю без цырымоніі, без сваякоў, попел разьвеяць. Нібыта ім не патрэбны мэмарыял, маўляў, маму маюць у сэрцы. Вынік дзіўнага кампрамісу — дваццаціхвіліннае разьвітаньне сярод найбліжэйшых, высыпаньне попелу ў яміну на лужку на могілках.

Прайшоў амаль год. Бацька, якому непатрэбны мэмарыял, штотыдзень носіць кветкі да ўяўнай магілы з попелам, сястра, якая мае маму ў сэрцы, пачціва перасьцілае мамін ложак і не дае дазволу аднесьці яе вопратку на дабрачыннасьць.

А мяне турбуе, дзе мама цяпер; ці яна, хоць у апошні момант, аддала сваё жыцьцё ў Божыя рукі?

*Světlana Vránová*

*Анна Анкер, «Пахаваньне»*



# У чаканьні Дзядоў

На зашарэлым небе нясьмела праяўляюцца табункі трымцьлівых зорак. Яны зазіраюць у нашы вокны, лашчаць сваім прыцьмелым сьвятлом нашы стомленыя пустою мітусьнёю душы, уздрыгваюць ад гучнай гаманы бяседнікаў за вячэрнім сталом і зьнікаюць, не сустрэўшыся ні з чыім поглядам.

Я адыходжуся ў кут, цісну на плюскаўкі кампа, і з глыбіняў сеціўнага космасу выплываюць родныя абліччы. Размытая графіка твараў, на якіх ня бачна вачэй. Дзьве пары блакітных зорак падміргваюць мне з-за вершаліны клёна, які паскідваў усё золата сваёй лістоты на стары ганак чужой мне ўжо хаты.

*Валянціна Аксак*

*Каспар Давід Фрыдрых,*
*«Мужчына і жанчына сузіраюць месяц»*



# Дзяды ў Вільні

У другой палове кастрычніка, напярэдадні восеньскіх Дзядоў, Вільня фарбуецца найбольш яркімі колерамі.

На вулічках і ў супэрмаркетах немагчыма пазьбегчы візуальнага кантакту зь яркімі, стракатымі вяргінямі, астрамі ды штучнымі імітацыямі кветак, якія прадаюцца для ўпрыгожаньня могілак.

Звычайна сьціплыя ў праяўленьні эмоцыяў літоўскія ўдовы (менавіта яны асноўныя пакупнікі падобнай прадукцыі) праз шалёную, неўтаймаваную палітру відавочна спрабуюць выказаць бязьмежны, невымоўны смутак.

Спачуваю кабетам, якіх лёс жорстка пакінуў старэць у самоце, але мяне гэтыя флюарэсцэнтныя кветкі раздражняюць. І ня толькі таму, што іранічна стаўлюся да тутэйшай паўсюднай танатафіліі. Нічога асабістага: на кантрасьце з палымянымі суквецьцямі, восеньскае неба выглядае неяк зусім безнадзейна пахмурным.

*Андранік Антанян*

*Люі Мары дэ Шрывэр, «Прадавачка кветак»*



# Пра коцікаў, сабачак
# і іншых

# Сымулянт

Наш сабака раптам пачаў прыпадаць на пярэднюю лапу і скуголіць. Ой, як баліць!

Жонка агледзела лапу і нічога ня ўбачыла. Завезла сабаку да вэтэрынара, але ён таксама нічагуткі не знайшоў.

Я сказаў жонцы, што сабака — сымулюе. Яна з дачкою зашмат лашчаць нашага ката, і сабака пачаў раўнаваць. Захацелася і яму больш увагі...

Тры дні сабака-хітрун кульгаў, акружаны агульнай увагай, спагадай і пяшчотай.

Наш кот не пускаецца на такія хітрыкі. Яго любяць проста так, хоць ніякай карысьці зь яго няма. Сабака — хоць брэша.

Жыцьцё — моцна несправядлівае. Любяць у ім не за тое, што робіш, а так — ні за што.

*Ян Максімюк*

*Чарлз Бэртан Барбэр, «Напружанасьць»*



## Самі па сабе

Не сьпяшаючыся іду па вузкай дарожцы старажытнага парку. Побач з гэтымі магутнымі, велічнымі дрэвамі я заўсёды адчуваю спакой і нейкую ціхую радасьць.

Раніца дыхае зімовым марозікам. Часам пад нагамі храбусьцяць тонкім шклом учорашнія лужынкі, парыпвае пашэрхлая за ноч трава. «І лісьце жоўтае, апалае на сьцежку, заслала покрывам замёрзлую траву...» — міжволі складваецца у галаве.

Наперадзе на дарожцы зьявілася суседзкая котка. Ідзе насустрач. Таксама не сьпяшаючыся. Зь відавочнай годнасьцю. Як гаспадыня парку, азірае наваколье.

Сустрэліся.

— Прывітаньне, суседка!

— М-р-р...

Дазволіла сябе пагладзіць. Потым кожная з нас пайшла сваёй дарогай, бо мы гуляем самі па сабе. Так нам абедзьвюм падабаецца.

*Вікторыя Грыніна*



*Маргерыт Жэрар, «Падмацунак ката»*

## Каб падбадзёрыць сяброў у хваробе

У сучасным сьвеце шмат гаворыцца пра правы чалавека, меншасьцяў, народаў, нацыяў і, вядома ж, жывёлаў, асабліва тых, якія браты нашы меншыя. Але ці памятаем мы заўсёды пра тое, што нашы любімцы, якіх мы прыручылі і якія палюбілі нас з усяго свайго шчырага жывёльнага сэрца, маюць права быць з намі як сапраўдныя сябры, нават у тыя хвіліны, калі паводле чалавечых парадкаў і ўстаноўленых правілаў ім гэта не дазволена? Напрыклад, у шпіталі? Пра гэта вядзецца ў адной цікавай ініцыятыве ў італьянскай Таскане, дзе хатнім жывёлам, паводле папярэдняга ўзгадненьня са шпітальным пэрсаналам, дазволілі наведваць хворых гаспадароў у палаце.

*Ната Куліцкая*

*Луіс Ўэйн, «Кавалерская вечарынка»*



# Барсік

Барсік жыў на ледзяным бальконе, на старым халадзільніку. Раніцай бег да акна насупраць, дзе часам лавіў з форткі галаву селядца.

У той марозны вечар сядзеў ля тыну крамы.

Ад вулічнага натоўпу рэзка аддзяліўся «круты». І з усяго размаху садануў цяжкім чаравікам у ката. Той бразнуўся аб сьценку агароджы.

«Круты» рвануў міма натоўпу, бо я з крыкам кінулася за ім — пазнаць. Не дагнала.

Я доўга шукала коціка ў сьнезе. Знайшла, узяла і прытуліла маленькае жывое сэрца да свайго. Пад раніцу Барсік асьцярожна драпаўся ў мае дзьверы — прасіўся на вуліцу.

Паехала разьвітацца з братам.

Барсік паміраў мужна. Як і брат.

*Марыя Баравік*

*Джон Генры Долф, «Сьмеласьць — палова перамогі»*



## Мурашкаед

Паводка ў Тбілісі, адстрэльваюць ашалелых ад страху жывёл-уцекачоў з заапарку.

У 2002 у праскім заапарку гэтак жа застрэлілі слана, льва, мядзьведзя. Дырэктар публічна плакаў ад гора.

Пасьля паводкі заапарк расквітнеў. Над жывёламі чэхі ўзялі індывідуальную апеку. Напісана на шыльдачцы: «Гэты жыраф усыноўлены панам Коваржам». Грашыма дапамагае нехта канкрэтны.

Мне карціць таксама ўзяць апеку. Прыглядаюся да мурашкаеда. Зь дзяцінства помню верш Барадуліна:

*Сказаў мурашкаед-няўклюда:*
*Чапаць мурашынкаў ня буду!*
*Хаваецца мурашка –*
*Яму паверыць цяжка!*

Памятаю крыўду за мурашкаеда: абяцае, што ня будзе, а яму ня вераць! Я дагэтуль веру абяцаньням. Але, магчыма, Барадулін больш ведаў жыцьцё зь ягонымі мурашкаедамі.

*Алена Радкевіч*

*Мурашкаед*



## Работа над памылкамі

Месяц таму яна раўла, ня могучы сказаць, што коціка ейнага нехта моцна зьбіў. Есьці сам ня мог — дапамагалі выжыць кропельніцамі.

— Жывёлінку заўжды шкада больш... Не пушчай на двор. Ён жа кастраваны, слабейшы!

— Справа не ў зьвярах! Жывадзёраў шмат пад Менскам. Свайго ката ці сабаку яны любяць. Чужога, калі ў агарод улезе — чакае камень ці, як у тым мультфільме, «нагою пад жывот».

Тыдзень таму яна раўла, ня могучы сказаць, што коцік зьнік і, мусіць, ня вернецца.

А сёньня — паказала сябрам фота з новым коцікам, прыціснутым да шчакі.

— Гэтага не каструем, — сказала.

*Юлія Цяльпук*

*Фэлікс Шлезінгер, «У бабулі»*



# Як кот з сабакам

Ранішні рытуал: выходзім утраіх — я, дачка і сабака. Мы з сабакам праводзім вучаніцу сёмай клясы на аўтобусны прыпынак. Потым блукаем нашай вёскай, пакуль сабака ня знойдзе месца, каб справіць большую патрэбу. Вяртаемся дахаты, я рыхтую сьняданак — сабаку пакрышанае печыва з малаком, кату — мясное рагу з супэрмаркету. Кот ня стане есьці свайго, пакуль ня сьцягне хоць кавалак ад сабакі. Сабака, замест скруціць карак нахабніку, цярпліва чакае.

Апошнім часам я заўважыў, што сабака потайкам выядае тое, што кот пакіне ў сваёй місачцы.

Жонка кажа, што кот чамусьці перастаў набіраць вагу. Хоча звазіць яго да вэтэрынара. Я раблю заклапочаны выгляд.

*Ян Максімюк*

*Генрыета Ронэр-Кніп, «Піяніна»*



# Важнасьць ліцэнзаванага вэтэрынара

Села падразаць кіпцюры нашаму Рамзэсу. І занепакоілася: каціныя кіпцюры лёгка ламаліся і крышыліся. Напісала па скайпе сыну, які ў Беластоку гадуе пару катоў: можа, нешта параіш? Сын адказаў:

«Зь беглага прагляду інтэрнэту па гэтай тэме вынікае, што тут відавочна маем дачыненьне з нармальнай зьявай — кіпцюры катам нарастаюць “зь сярэдзіны”, то бок вонкавы пласт рагавога рэчыва часта аддзяляецца і ломіцца, і гэта некаму можа падацца дзіўным. Табе адназначна няма чым турбавацца. Але я схадзіў бы з катом да вэтэрынара на ўсялякі выпадак, бо інтэрнэт ёсьць інтэрнэтам, а ліцэнзаваны вэтэрынар — вэтэрынарам».

*Галіна Максімюк*

*Карл Райхерт, «Кацяняты на кухні»*



# Сабакі і прагрэс

Прыгарадная вёска пры шашы Магілёў-Менск. Пасьля рэканструкцыі дарогі некалькі год таму тут зьявіўся падземны пераход. Апошнім часам заўважаю, што ім стала карыстаюцца... мясцовыя сабакі. Упэўнена і днём, і ноччу ходзяць туды-сюды па сваіх сабачых справах на абодва бакі.

У катоў, пэўна, сваё меркаваньне пра бясьпеку і дэфіцыт часу, таму калі-нікалі яны трапляюць пад колы машын.

А людзі? Некаторыя вяскоўцы, як і каты, таксама лезуць праз дарожныя бар'еры, мяркуючы, што эканомяць час і сілу.

Вось і думай цяпер, хто больш успрымальны да прагрэсу — тутэйшыя дварнякі ці выбарцы-абарыгены, што больш за 20 год не мяняюць свае палітычныя і жыцьцёвыя пуцявіны.

*Васіль Аўраменка*



*Артур Элсьлі, «Дабранач»*

# Каты на балоце

З другой да пятай клясы мы хадзілі ў школу ў другую зьмену. Гэта дазваляла, пакуль бацькі на працы, яшчэ да ўрокаў сваволіць. Гулялі ў прыстаўку, хадзілі «на лёд» на сажалку, а таксама... насілі катоў у госьці.

Першай да нас ката Барсіка проста на руках прынесла мая аднаклясьніца Наста. Кот добра перанёс дарогу праз «балота» (пясчаны насып паміж сажалкамі), зарыентаваўся ў новай хаце і знайшоў міску зь ежай. Ніякай магіі: пляніроўка кватэр не адрозьнівалася.

Вось прыйшла чарга майго Ваські і яго зваротнага візыту да Барсіка. Наш кот аказаўся ганарлівым: ён вырваўся з рук на «балоце» і ўцёк дадому.

*Марына Весялуха*

*Абрагам Тэнірс, «Цырульня з малпамі і катамі»*



# Выратаваньне

Мы з жонкай і дачкой у жончыных бацькоў. Рыжы, увішны хатні кот, прыносіць у зубах напаўжывога вераб'я. Дачка з плачам адбірае птушачку ад драпежніка і просіць:

— Тата, ратуй!

Я паказваю дачцэ, як напаіць птушачку. Верабейка ажывае. Дачка выпускае яго, але ён адразу падае ў траву. Я ледзь пасьпяваю схапіць Рыжага, які ўвесь час цікаваў за абставінамі.

Дзед бярэ птушачку і нясе выпускаць за хлявок, каб Рыжы ня бачыў.

— Усё, верабей паляцеў, — вярнуўшыся, кажа дзед унучцы.

Я сумняваюся. Калі дачка, задаволеная выратавальнай акцыяй, аддаляецца, я перапытваю цесьця — праўда, паляцеў?

Праўда.

— Гэта быў часовы стрэс псыхаматорнай сыстэмы, — тлумачыць мне жонка.

*Ян Максімюк*

*Джозэф Райт, «Экспэрымэнт з птушкай у паветраным насосе»*



# Муха

Сёлета зіма рана даслала сваё прывітаньне. Сярэдзіна кастрычніка. Рэзка пахаладала. Зьнянацку шэрае імглістае воблака рассыпала празрысты калючы сьняжок. Нібы найдрабнейшае, зіхоткае шкло закруцілася у паветры. Дзіўны танец скончыўся гэтак жа раптоўна, як і ўзьнік, пакінуўшы вестку, што зіма ужо ў дарозе.

Па шыбе, ледзьве перасоўваючы лапкі, паўзе муха. Сонная. Нечакана на падваконьнік прыляцела сінічка. Зь яўнай цікавасьцю глядзіць на муху. Потым дзяўбе па шыбе. Муха ўпала лапкамі ўгору, нібы зь перапуду страціўшы прытомнасьць. Прыстукнуць яе? Ладна ўжо, ляжачых ня б'ем. Я аднесла кузурку ў калідор. Няхай тамака да вясны ў якім-небудзь кутку сустракае царства Гіпноса.

*Вікторыя Грыніна*



*Ўінслаў Гомэр, «Каля акна»*

## У цырку пасьля вайны

Сланоў вядуць з Таварнай станцыі па Маскоўскай. Яны плывуць паміж крушняў нібы аэрастаты. Палахліва спыняюцца перад Заходнім мостам, уздымаюць хобаты, трывожна трубяць...

Сланоў вядуць у цырк шапіто, у парк, дзе ўжо нацягнуты цёмна-шэры купал.

...— Дзядзечка, правядзіце...

I вось ужо сядзіш побач з «татам» і забываесься на ўсё.

...Аркестар грае вальсы, сланы танчаць, круцяць хобатамі і раскланьваюцца. Паміж імі лётае чалавечак, ляскае па хобатах, частуе цукрам... Раптам цішыня, нарастае барабанны дробат... Чалавечак кладзецца пад самага вялікага слана, каб усе думалі, што слон вось-вось яго расплюшчыць. Слон павольна апускаецца ўсё ніжэй і ніжэй...

Але чамусьці шкада слана, а не таго чалавечка...

*Сяргей Ваганаў*

*Фрыдрых Мэергайм, «У зьвярыным намёце»*



# Памідоры

Бацька мне расказваў, што калі яны беглі ад немца зь мястэчка, то заначавалі на бульбяным полі. Яно было ля дарогі. На другім баку былі бачны хаты, але яны палохалі — а раптам там ужо немцы. І таму спалі пасярод поля, у баразнах, каб з дарогі не было відаць. Бульба квітнела і пах яе кветак кружыў галаву. Бацька казаў, што да гэтага ніколі ня ведаў такога паху. Яму не было з чым яго параўнаць.

— А цяпер ведаю, — сказаў ён. — Кветкі пахлі памідорамі!

І дадаў:

— Да вайны ў мястэчку не было памідораў. Вырошчваць іх пачалі толькі пасьля вайны.

*Марат Баскін*

*Уладзімір Арлоўскі, «Жыта сьпее»*



# Самасеі

Самыя моцныя, трывалыя з усіх расьлінаў. Не чакаюць іх, ня ведаюць нат, што зьявяцца дзесьці. А яны дазволу не пытаюць. Самі да сонца працярэбліваюцца, месца пад ім знаходзяць.

Гэтым разам гаспадыня мае незвычайнага самасейца — сланечнік. Што ж тут незвычайнага? Хоць адзін штогоду сам выбірае сабе месца. Але гэты ведаў, што гаспадыня сее іх дзеля кветак. І выпусьціў ажно дваццаць сем. Цэлы сланечнікавы куст. Ніколі ня ўздымецца рука высекчы, хоць астры вакол самасеем-прыстасаванцам прыгнечаныя.

Палея, што да ўсяго прымярае літаратурныя вобразы, перастаўляючы сюжэты розных эпохаў, назвала яго Самасуем. Размаўляе зь ім:

Ну што, Самсон, квітнееш? Знойдзецца і на цябе Даліла.

*Альжбета Кеда*

*Вінцэнт ван Гог, «Сланечнікі»*



# Кветкі фэрмэра Матусевіча

Капуста, цыбуля, кроп ды ўсё іншае дзеля карысьці — недзе за даляглядам ягонай сядзібы. А перад ёю — стомэтровы шнурок стакротак, тры тысячы туліпанаў, столькі ж першацьветаў, пралесак, гіяцынтаў, канваліяў, півоняў, баданаў, крокусаў, касачоў, незабудак, братак, эхінацэяў, нарцысаў, касацікаў, макаў, яскарак, ліхнісаў, лілеяў, лябэліяў, міртаў, рамонкаў, валошак, геленіюмаў, дэльфініюмаў, касьмеяў, асьцільбаў, дзівасілаў, лянкоў, хостаў, пэтуньняў, цыніяў, бузульнікаў, гайлярдзіяў, фізастэгіяў, аксамітак, астраў, мальваў, львінага зеву, клемацісаў, флёксаў, мацеек, мятліцаў, лятраў, шольцыяў, настурак, пірэтрумаў, рыцынаў, рудбэкіяў, сальвіяў, цынэрарыяў, цэлёзіяў, гейхэраў, гіпсафілаў, сланечнікаў, гартэнзіяў, глядыёлюсаў, канаў, расходнікаў, хрызантэмаў, вяргіняў, ружаў — паўтара гектара красы.

Чыстай. Бескарысьлівай. Неабгароджанай.

Для сябе і для сьвету.

*Валянціна Аксак*

*Клёд Манэ, «Сад з касачамі ў Жывэрні»*



# Фаташоп і памідоры

Іду з фотаапаратам паўз пісьменьніцкія лецішчы, што пад Менскам каля Лысай Гары. І, вядома ж, сустракаю пісьменьніка.

— Аксана, а ці валодаеш ты фаташопам?

— Ды мне сапраўдныя здымкі даспадобы...

— А я... — і пісьменьнік апавядае, да якой ступені авалодаў фаташопам. — Нядаўна зялёныя памідоры сфатаграфаваў і зрабіў чырвонымі.

— Навошта?

— Каб зайздросьцілі!

Пераказваю фаташопную гісторыю мужу, і ён ня можа ўцяміць «навошта». А я разумею, бо пісьменьнік зь вёскі, а ў беларускай вёсцы зайздрасьць — гэта традыцыя, мо і някепская, бо змушае намагацца нешта рабіць.

Але сама зялёныя памідоры не фатаграфую, а кладу іх на белае падвоканьне і высьпельваю беларускасьць.

*Аксана Спрынчан*

*Луіс Мэлендэс, «Натурморт з памідорамі і цыбуляй»*



## Высакароднае рэтра

Я іх не сустракаў гадоў 20, а тут выходжу з мэтро і заўважаю непадалёк пажылую кабету зь невялікім мехам семачак на табурэце. Ну як прамінуць?! Падыходжу, каштую. Так — акуратна прасмажаныя, з драбочкамі солі, гранёная шклянка, газэтны кулёк. Высакароднае рэтра!

Прыблізна ў сярэдзіне дзевяностых пакетаваныя крамныя семачкі, здалося, канчаткова перамаглі прадпрымальных пэнсіянэрак. А бачыш ты, не!

За дзесяць тысяч зьмесьціва шклянкі апынаецца ў трывалым кульку (ужо маім!). Дзіцячая радасьць — тая самая!.. Крызіс выгнаў жанчынку «рабіць бізнэс», і я неспадзявана акунуўся ў сьветлую пару свайго жыцьця...

*Ігар Канановіч*

*Вінсэнт ван Гог, «Чатыры зрэзаныя сланечнікі»*



# Ці расьце ў Амэрыцы бульба?

Чытаючы ўспаміны пра Марка Шагала, нечакана даведаўся, што, рыхтуючыся да выратавальнага ад'езду ў Амэрыку — немцы ўжо увайшлі ў Парыж — мастак амаль у кожнага пытаўся:

— А ці ёсьць у Амэрыцы каровы?

Гэтае пытаньне ўсіх дзівіла.

А мне ўспомніўся габрэй зь вядомай мішпохі балаголаў, першы, які выехаў у Амэрыку з нашага мястэчка. Ён ва ўсіх цікавіўся:

— А ці ёсьць у Амэрыцы коні?

І яшчэ дзядуля мне расказваў, як да рэвалюцыі падаўся ў Амэрыку па заробак яго сусед, просты беларускі хлопец. То ён пытаў у дзядулі, які лічыўся грамацеем у мястэчку:

— Ці расьце ў Амэрыцы бульба?

*Марат Баскін*

*Жуль Баст'ен-Лепаж, «Кастрычнік»*



# Рай на Бацькаўшчыне

Ён і яна ўпрыгожваюць дома ялінку: на прысыпаныя «сьнегам» лапкі-галінкі чапляюць адмысловыя чырванабокія яблычкі з бацькоўскага саду.

Яна: «глянь, як ірдзяцца, лепш за цацкі!»
Ён: «гэта таму, што ты рвала»
Яна: «а ты падстаўляў мне кошык»
Ён: «о, ты падавала іх... зь неба»
Яна: «а ты... за пятку мяне трымаў»
Ён: «дык гэта ж быў рай...»

*Натальля Плакса*

*Джэймс Гатры, «У садзе»*



## Знакі вясны

Учора вечарам пайшоў спорны дождж. Пагрымела. Першы вясеньні гром, які я пачуў сёлета.

Сёньня раніцай я выйшаў пагуляць з сабакам у сваім паліто, у якім звычайна хаджу ўзімку. І зразумеў, што на дварэ ўжо зацёпла на паліто. Несумненна, другі выразны знак, што ўжо вясна.

Сказаў пра гэтыя знакі жонцы.

Яна пахітала галавой і паказала на наш садочак:

— А мне ўжо тры тыдні, як вясна паказвае свае знакі.

У нашым садочку цьвітуць цюльпаны, нарцысы, мышыныя гіяцынты, фіялкі, сон, стакроткі... Жонка пасадзіла і паакучвала іх тры тыдні таму.

Яна сказала мне назвы кветак — спачатку панашаму, потым па-чэску, а ўрэшце па-лацінску...

*Ян Максімюк*

*Альфрэд Іст, «Вясна»*



# Пасолька

Час выбіраць пасольку. Гэта слова мае́ антанёўскае бабулі Мані. Сьцьвярджала тым самым, што няма ў беларускай мове гуку «ф». Любіла гэтую расьлінку: не патрабавала клопату шмат, на пясочках расла. Смачная, карысная. І ўнучка любіць. Бо любуецца прадаўгаватымі белымі зярняткамі, што далікатна кладуцца на далоні, сьлізгаюць. Іх можна перасыпаць, як пацеркі.

Апошнім часам у згадкі дамешваецца самотнае. З аповеду Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча часоў вайны. У іхнім мястэчку было гета. У хату прыходзіла габрэйская дзяўчынка. Апранутая прыгожа: белая кашулька з карункавым каўнерыкам, чорная спаднічка ў складачкі. І сама вельмі прыгожая. Прасіла есьці. Аднойчы мама насыпала ў мяшэчак пасолі. Тая пачала есьці сырую...

*Альжбета Кеда*

*Жан Жафруа, «Галодныя»*



# Дэпутат

Старшаклясьнікаў зьнялі з апошніх урокаў — абтрасаць і зьбіраць яблыкі ў школьным садзе. Я адзін зь дзяжурных настаўнікаў. Ідучы «тушыць» чарговую сварку, ледзьве пасьпяваю «прытармазіць» — град жоўта-зялёных антонавак з грукатам абрушваецца на дол проста перада мной. Вучань з дрэва выбачаецца: не заўважыў.

А Кіруха — недалёкі, грубаваты бэйбус — зазначае з ухмылкай:

— От шкада, што астанавіліся! Хабы ж ішлі, Ігар Васілявіч!

Кляса падтрымлівае нахабніка сьмехам.

— Ты, Кіруха, — адказваю хлопцу, — сапраўдны дэпутат...

— Пачэму? — робіцца сур'ёзным апанэнт.

— Бо ізноў выказаў тое, чаго твае аднаклясьнікі жадалі моўчкі...

Падміргваю прысутным і працягваю шлях.

«Дэпутатам» Кіруха праходзіць да выпускнога...

*Ігар Кананові̇ч*

*Ян Стэн, «Школа для хлопцаў і дзяўчат»*



## Вы такая прыгожая!

У навуковую экспэдыцыю ўзялі мяне з дачкою. Адвячоркам дачка прыснула на маім плечуку, і мне ніяк не выпадае выйсьці разам з усімі з машыны. Урэшце прачынаецца, я хапаю фотаапарат і бягу на падворак да прыгожай кабеты за восемдзесят.

Мяне хуценька папярэджваюць:

— Фатаграфаваць нельга! Гаспадыня супраць. Яна толькі з гароду.

Вядома, ніводная гаспадыня не чакае навукоўцаў і таму амаль заўжды «з гароду».

— А вы сказалі ёй, што яна прыгожая?

— Не.

А я кажу. І кабета забываецца, што «з гароду», і я фатаграфую дасхочу.

І яшчэ ніводная прыгожая кабета мне не адмовіла, бо заўжды кажу праўду і сама ў гэты час прыгажэю.

*Аксана Спрынчан*



*Дэніэл Рыджўэй Найт, «Мальвы»*

# Плён і памяць

Урадзілі яблыкі. Дзень і ноч падае стары «штрыфэль» — мякка ў траву, гулка — на шыфэрны дах. Яблыкі дробныя, карэлыя, шмат гнілых. Дзясятак буйнейшых адбіраю на спажыў, а тры мяхі вывожу ў ямку. Яшчэ гадоў 20 таму ўсё б прыдалося — сьвіньням ці карове. Але няма ўжо ні сьвінароў, ні сьвінства. Ёсьць інтэрнэт, газыфікацыя, каналізацыя ды... старасьвецкі «штрыфэль» і «антонаўка», якая родзіць свае кіслыя плады ў надзеі, што камусь яны яшчэ патрэбныя. Варта было б зрэзаць гэтыя «карчы», але штосьці трымае... Хоць плёну ад іх — кошык яблыкаў ды кучы гнільля.

Але — памяць. Дакладней — жывы помнік былому гаспадару саду, прапрадзеду маіх унукаў.

*Васіль Аўраменка*

*Дэніэл Рыджўэй Найт, «Момант задуменьня»*



# Ружа

Ружа памерла. Ня выпусьціла вясною ніводнага парастка. Усе думалі, што не перажыла зіму. Гаспадыня ведала чаму. Ружа надакучыла ёй, патрабавала ўвагі, калола рукі. Падумала неяк: ня буду сумаваць, калі ружы ня стане. Кветкі разумеюць, пра што людзі думаюць. Яны не напрошваюцца. Проста сыходзяць.

Калі гаспадыні было вельмі адзінока, балюча, яна глянула на кветнік, на тое месца, дзе была ружа. Месца зеўрала пустэчай. Раней менавіта гэтая ружа магла адвесьці яе самоту.

Назаўтра палола кветнік і ўгледзела, што ружа ажыла, выпусьціла некалькі маладых парасткаў. У сярэдзіне лета. Ці ж ня цуд? А праз два тыдні зацьвіла.

Кветкі ўмеюць дараваць.

*Альжбета Кеда*

*Лоўрэнс Альма-Тадэма, «Ружы Геліягабала»*



# Эфэкт Гаўсмана

Зоф'я Кавалеўская ў кнізе ўспамінаў «Obrazki mińskie» (1912), прысьвечанай жыцьцю гораду перад паўстаньнем 1863-1864 гг., сьведчыць пра выбітнага менскага краязнаўца і археоляга М. Гаўсмана:

«Апавядаюць, што пасьля вялікага пажару ў горадзе, які зьнішчыў частку Высокага і Нізкага рынкаў, адкрываючы від на дольныя раёны, дзе колісь над Нямігай узвышаўся замак, Гаўсман з радасьцю выгукнуў:

— Вось! Вось ён, мой стары Менск!»

Акурат тое самае адчуваў я, пpаглядаючы ў 2010 праспэкт у бок цырку з набярэжнай у парку Горкага, і адчуваю цяпер, у 2015, назіраючы з Кастрычніцкай сталінскі будынак 24-й гімназіі. Настальгія па незасьпетым і надзея на лепшае разьвіцьцё падзеяў і лёсаў.

*Антон Рудак*

*Катэдральны пляц*



# Сіняя хмара

Яна ўздымаецца над маім хутарам. Я не хапаюся за фотаапарат, каб зафіксаваць прыгожы краявід. Я сачу, назіраю, намагаючыся запомніць вачыма, напоўніць сябе фарбай нябеснага ўлоньня. Абавязкова — з удзячнай увагай да Сыракомлі: «А лясы, краса ўся ў далях — нібы ў залі той карціны».

Сіняя хмара набліжаецца. Яе колер зачароўвае. Зьлёгку пагрымлівае.

Дзея зрушэньня і неспакою. Маленькі спэктакль, дэкарацыі... Вось праляцеў матылёк на тле набрынялай сінечы. Выразна жоўты і трапяткі. Вось белы. Блiснуў шэрымі пёркамі лугавы шулячок. Перакулілася ластаўка, яе белы фартушок мігціць уваччу...

Калі табе за шэсьцьдзесят, сіняя хмара — гэта ўжо частка цябе, твой скарб, арт-галерэя, філярманічная заля, мэмарыяльны музэй.

*Валер Дранчук*

*Чарлз Кортні Каран, «Лета»*



# Жнівень. Вечар

А на дварэ ўжо вечарэе,
І ночка блізка, змрок гусьцее...
*(Якуб Колас)*

Сад ахінуты летнім цяплом і цішынёй. Лёгкі подых ветрыку даносіць пах начных фіялак. Дзівосныя маленькія кветачкі! Удзень сьпяць, згарнуўшы найдалікатнейшыя бэзавыя пялёсткі. Іх час — ноч, калі яны цудоўным, дурманлівым водарам запаўняюць усю навакольную прастору.

На траўніку сподачак з малаком. Для Яшкі. Вожык. Жыве недзе ў садзе. Часта сустракаемся. Абавязкова прыйдзе і сёньня. Мы пасябравалі. Ужо ня згортваецца ў клубок. Ня чмыхае. Шастае паўсюль як гаспадар.

У бяздоньні неба зорны россып. Начныя матылі танчаць у сьвятле ліхтара. Арэлі, зьлёгку пагойдваючыся, закалыхваюць... Чытаць усё цяжэй... Ноч паціху атуляе сваёй посьцілкай...

*Вікторыя Грыніна*

*Джон Эткінсан Грымшаў, «Апошні праменьчык»*



# Валашковая сукенка

Неаднойчы чула ад мамы: «Як цяпер бачу: залатая восень, па алеі ідзе незвычайна прыгожая дзяўчына. Сьветла-русыя, завітыя валасы, сінія вочы... Не памятаю, хто яна — у валашковай сукенцы, самай прыгожай, якую калі бачыла. Пашый сабе такую».

У маміным Антанёве пытаюся ў цёткі Веркі, якая ў яе настаўніца была? І ў адказ чую: «Прыгожая-прыгожая. Русыя валасы, андуляцыя. А вочы — сінія-сінія. З убораў памятаю валашковую сукенку».

Амаль праз дваццаць гадоў пасьля мамінага сыходу даведваюся, чый вобраз неаднойчы малявала яна. Антанёўскай настаўніцы, якая трагічна загінула, застрэленая чалавекам, які кахаў яе.

І яшчэ больш цяпер люблю валашковыя строі.

*Альжбета Кеда*

*Эдуар Манэ, «Чыгунка»*



# Беларускія вулканы

Верасень! Найлепшая пара. Асабліва сёлета, калі сухое надвор’е не сьпяшае саступаць восеньскай слоце. Ужо закурэлі на апусьцелых гародах «верасьнёўскія вулканы» — копы падсохлага бульбоўніку, запахла гаркавым дымам і пераараной зямлёй, змоўклі бэнзакосы — неўгамаваныя парушальнікі дачна-вясковай ідыліі, а чаканых дажджоў няма. Да нашых нястачаў дадалася новая, небывалая — дэфіцыт вады.

Недахоп відавочны пакуль у рэках. Водаправодныя спажыўцы перамен не адчулі. Аднак водны дэфіцыт можа стаць большай неспадзяванкай, чым вулкан у цэнтры Менску. Высахнуць беларускія балоты ды краны — і нашы «вулканы» перастануць быць ціхамірнымі, як сёлетнія «выбары». Перамены клімату і грамадзкія ўзрушэньні — не такія ўжо далёкія зьявы, а вулкан на высахлым балоце — рэч увогуле непрадказальная...

*Васіль Аўраменка*

*Томас Коўл, «Гара Этна»*



# Тыквы, гарбузы і надзеі

Калі ў кастрычніку едзеш ранішнім дызэлем з Рагачова ў Жлобін, адзінае, што парушае сумную шэрасьць краявідаў за вакном — маячкі памаранчавых гарбузоў, якія, як апошнія, засталіся непрыбранымі з палёў.

Помню, у дзяцінстве я была перакананая, што «тыква» — якаясьці экзатычная заморская гародніна, бо слова я сустракала адно ў кнігах. І толькі падлеткам даведалася, што, аказваецца, расейская «тыква» — наш звычайны гарбуз, які на маёй малой радзіме інакш як гарбузом ніхто не заве. Яшчэ пазьней я засвоіла іншае слова — «тыквА», што на іўрыце значыць «надзея».

І вось яны праносяцца за маім вакном, зыркія гарбузы-магікане. Як узоры стойкасьці, як надзеі, што паміраюць апошнімі.

*Наста Кудасава*

*Ўінслаў Гомэр, «Гарбузовы палетак»*



# Сам-насам з павучком

На гэта ішло. Не варушыўся на дрэве лісток. Панавала глыбокая цішыня. Выгравала няяркае сонца. Няўжо бабіна лета?

Папаўдні ў сінім небе ўбачыў павуціну. Адна, другая! Плылі і ляцелі. Цэлымі клубкамі, шматкамі белай кудзелі. Ляцелі ў вышыні, як ляцяць жураўлі або гусі. Усьлед адной хацелася крыкнуць: «Глядзіце, белая чапля!» Бо ляцела высока, над поплавам, зваблівай аблачынкай, велічна і нават грацыёзна...

А наастатак, зусім незнарок, апынуўся сам-насам з павучком, які на маіх вачах выкрасаў да зіхоткасьці белыя кросны, стоячы ўніз галавой — у фантастычнай позе, на мшаным лётнішчы драўлянага шула, тэмпэрамэнтна і азартна перабіраючы заднімі лапкамі.

І я гэта бачыў!

*Валер Дранчук*

*Юзэф Хэлмоньскі, «Бабіна лета»*



# Просты беларускі здымак

Ты едзеш дарогамі сваёй краіны, а цябе з распасьцёртымі рукамі сустракаюць пудзілы. Ты — ня злодзей, табе нічога ня трэба скрасьці, таму ты можаш спакойна ўсьміхацца і фатаграфаваць іх, яны ня супраць. Нават заклікаюць гэта зрабіць, бо хоць і самотныя, ня робяць сэлфі.

І як файна ў глухой палескай вёсачцы Ліпск сфатаграфаваць грамаду пудзілаў. Гэтыя не такія самотныя, бо ахоўваюць не ўраджай, а сонечных куранят. І ты цешысься за куранят, за пудзілаў, за гаспадыню, за тое, што яшчэ цёпла, а на зіму табе застанецца просты беларускі здымак.

*Аксана Спрынчан*

*Карл Шпіцбэрг, «Пляскаты краявід з пудзілам»*



# Водар лісьця

Над бацькоўскай хатай у Пінску расьце вялізны арэх, лісьце якога штовосень шчыльным дываном пакрывае падворак. Ад непаўторнага водару гэтага лісьця шмат гадоў пачыналіся для мяне восеньскія дні — восень, зрэшты, дагэтуль люблю найбольш. І дзе б ні давялося жыць, дык восеньскімі, крыху марознымі ўжо ранкамі, выходзячы з хаты, шукаў падобнага водару і калі знаходзіў, адчуваў яго — жыцьцё адразу падавалася неяк весялейшым, нават быў сьпяваў часам нешта пад нос сабе. З часам водар лісьця, водар восені, пачаў зьнікаць. Сёлета восень ужо канчаецца, а я яго так ані разу і не адчуў.

*Аляксей Дзікавіцкі*

*Інак Вуд Пэры, «Збор асеньняга лісьця»*



# Зноў вясна

У небе чуецца жураўлінае «прывітаньне, прывітаньне, прывітаньне...» Выходжу на двор. Махаю ім рукою, адказваючы: «Я таксама рада бачыць вас ізноў!»

На вінаградніку ўладкаваліся дзьве незвычайныя птушачкі. Апярэньне яркае, прыгожае. Дзелавіта дзяўбуць леташні вінаград, натуральным шляхам ператвораны ў разынкі. Частка вінаграду наўмысна пакінутая на галінках для птушак. Ім падабаецца гэты ласунак, а мне падабаецца за імі назіраць.

З асалодай глыбока ўдыхаю сьвежы вясновы водар прыроды... Як жа добра!!!

*Вікторыя Грыніна*

*Генры Джон Кінг, «Зьбіраньне кветак»*



# Менская машына часу

Сьцюдзёным восеньскім вечарам блукаю па мякка асьветленых вулачках старога Менску. Са стыльных вінарняў, запоўненых стыльнымі маладымі людзьмі, прабіваецца сучасная музыка. Гудуць піўныя пабы. Сучасны эўрапейскі горад.

Раптам... Кабета ў доўгім паліто з футравым каўняром і дзьвюма торбамі ў руках шэптам прапануе: «Мальбара. Парлямэнт... Дзёшава...»

Я анямеў. Гэта ж пачатак другой дзеі Купалавай трагікамэдыі «Тутэйшыя»! На тым самым месцы, толькі ў годзе 1918-ым:

«Позьняя восень. Сьцюдзёна. Пад вечар. Месца дзеі — кусок Катэдральнага пляца, называнага іначай мянчанамі „Брахалка"...

*Аўгуст Эдўін Малрэдзі, «Прадавачка кветак на вуліцы»*



ГАНУЛЯ (да праходзячай грамадзянкі): Панечка, купеце ў мяне пацеркі, а можа, дамскі нэсэсар, а можа, во гэта? — усё за паўцаны аддам, усё за паўцаны».

*Вячаслаў Ракіцкі*

# Аварыйны мост

На мастку праз рачулку майго дзяцінства стаялі моцныя драўляныя парэнчы. Рабілі пераправу сапёры, даючы напрамак бронетэхніцы падчас вучэньняў.

У рэчцы я купаўся, лавіў рукамі печкуроў і вудзіў на глыбокім. «Мірныя» дні хутка скончыліся — прыйшла мэліярацыя. Каналізавалі рачулку. Як скрозь зямлю праваліўся і палевы мост. Паўстала дамба з бэтону й жалеза. І старыя брусовыя парэнчы мне пачалі сьніцца, бо я дужа незалюбіў новыя. Старчакі з мэталёвага вугалка ранілі душу.

Пераяжджаючы днямі рэчку Вусу, перад мастком з бэтонных плітаў я прачытаў таблічку «Аварыйны мост». На ім страхотліва зеўралі дзіркі, з бакоў тырчалі канцамі пакручанага жалеза так званыя парэнчы.

*Валер Дранчук*

*Клёд Манэ, «Водныя лілії і японскі мост»*



# Платы

Вакол дому над лугамі растуць катэджы. Напачатку радавалася: новыя шляхі для вячорных прамэнадаў. Але мусіла ад шляхоў тых адмовіцца: не відаць ні траўнікаў, ні кветнікаў, ні гаспадароў. Дый дамоў таксама. Адны дахі, быццам грыбы, вытыркаюцца з-за высачэзных платоў, суцэльных, без аднае шчылінкі.

Нішто не зьмянілася з тае пары, калі нашаніўскі клясык пісаў пра вольныя прасторы і чалавека, які «мяжы, ірвы, тыны рабіў за векам век, хаваўся ў іх, як ліс у норы...»

Што яны імкнуцца схаваць за высокімі платамі, ад каго адгарадзіцца?

Страх, зласьлівасьць, бессардэчнасьць, хцівасьць, здрадлівасьць — усё тое самае. Якім вырасьце дзіця, калі «вакол яго — платы, мяжы»?..

*Альжбета Кеда*

*Александэр Гелвіг Ваент, «Развалены плот»*



# Сэксізм

— Чаму твой калега з жонкай чытаюць Маркеса па-гішпанску, а ты са мною ня хочаш пачытаць Джойса нават па-беларуску? — на днях агаломшыла мяне прэтэнзіяй жонка. — Ні хвіліны, каб інтэлектуальна паразьвівацца...

— Ні хвіліны? — зьдзівіўся я. — Разьвівайся сабе зранку да вечара, што замінае?

— А хто згатуе есьці? Памые ўсе вышымайкі? Папрыбірае ў хаце? Хто падрэжа вінаград? Ты хоць ведаеш, што гэта за заняткі?

— А я ўжо не хачу інтэлектуальна разьвівацца. Абрыдла. Калі мне яшчэ і хочацца разьвінуцца, то як таму вінаграду — павіснуць на плоце, пусьціць парасткі, няхай падразаюць...

Не паверыла.

Я ёй — таксама не. Жонка патаемна піша якуюсьці кнігу.

*Ян Максімюк*

*Вэйбранд Гендрыкс,*
*«Інтэр’ер з заснулым мужчынам»*



# Выхаваньне

Пасьля двух хлопцаў нарадзілася ў нас дачка. Наша кветачка, наша зорачка, наша золатка — надзвычайная дзяўчынка! А як яна туліцца і абдымае! Ніхто ня ўмее так чула і так лагодна...

Ладнае мае гадавацца ў ладным, і мы клапоцімся, каб наша малянё было аточана прыгожым і стылёвым. Жонка дбае пра гардэроб, шукаем цікавыя, разьвіваючыя, абавязкова прывабныя і густоўныя цацкі.

Дарынка патрабуе асаблівага стаўленьня да сябе. Ад нас яна чакае нечага асаблівага, нечага ўзьнёслага.

Пакуль прыбіралі ў хаце — пакінулі нашу каралеўну на братоў. Сядаем праз якія дзьве гадзіны есьці, а наша ласачка ўжо ўмее класьці ногі на стол і плюе ў кубак...

*Ігар Кузьмініч*

*Эўджэніё Дзампігі, «Час кармленьня»*



# Анёл на службе

Малая доўга й настойліва дапытваецца, кім працуюць тата й мама, а таксама бабуля. Чатырохгадовая, яна яшчэ ня ведае панятку «прафэсія» і падступаецца з розных бакоў: а што вы робіце? а куды вы ходзіце на працу? а навошта гэта рабіць?

Урэшце ўсе разам неяк датлумачваем, што мама падказвае людзям, якія тавары лепш купляць, бабуля апавядае гісторыі даўніх часоў, тата абараняе ўсіх пакрыўджаных, бо ён — адвакат.

Выснова агаломшвае: «Мама падКАЗАлка? А дзе сямёра казьлянят?»

Бабуля абвяшчаецца гаварылкай, а тата... анёлам.

І чаму раптам тата — анёл?

Дык ён жа заўжды аберагае людзей — вы самі сказалі. А гэтак умеюць толькі анёлы.

*Антаніна Хатэнка*

*Шарль-Агюст Сэльe, «Два анёлы»*



# Як мае быць

Сын агаломшыў:

— Вось у цябе правільны мамін твар, такі, як мае быць!

Сьмяюся:

— А ў іншых мамаў хіба няправільныя? І што ўвогуле гэта значыць — правільны мамін твар?

Ён сур'ёзна тлумачыць:

— Я бачыў многіх мамаў, і ва ўсіх твары вельмі розныя... А ў цябе менавіта такі, які заўсёды малююць мамам у кніжках. І ў мульціках усе мамы з такім — правільным, як у цябе, тварам.

Я хацела спачатку яму давесьці, што проста ў кожнай кніжнай маме ён бачыць сваю маму, гэта заканамерна... А потым адчула, што, бадай, упершыню мне так прыемна ня быць асаблівай і незвычайнай, а менавіта такой, як мае быць.

*Наста Кудасава*

*Джэймс Тысо, «Лаўка ў садзе»*



# Цішыня

Мы з жонкай зь дзяцінства жывем у тлумных месцах. Усюды за вакном нешта грукоча. У маім Краснапольлі я жыў на вуліцы, па якой з раньняй раніцы пачыналі рухацца малочнікі на машынах і калёсах, везучы малако на малочны завод. А ў Бабруйску, дзе нарадзілася жонка, іх хата была ля чыгункі, і цягнікі гудзелі і скрыгаталі, робячы паварот да станцыі. У Нью-Ёрку мы жывем у будынку, міма вокнаў якога пралятае цягнік мэтро, выскачыўшы на паверхню гораду. Грукат яго колаў не спыняецца ні на хвілінку. Але, як гэта ні дзіўна, мы звыкліся. Мы ня чуем грукату. Мы чуем вясковую цішыню.

*Марат Баскін*

*Артур Страхан, «Сцэна каля вясковай хаты»*



# Гадуецца тэрарыст

Маладая менская сям'я з малым хлопчыкам пераехала ў новую кватэру. Дом стары, сусед па пляцоўцы ў паважным веку, але на шум не зважае, вітаецца, прыязны, трымае дзьверы, дапамагае з каляскай у ліфце. Потым чуе, як мама з малым гуляюць у двары і размаўляюць па-беларуску.

Дзядзька ў шоку:

— Вы з сынам па-беларуску гаворыце?!

— У нас жа білінгвізм, — кажа маці.

Наступны раз сустракаюцца ў ліфце.

— Добры дзень, — кажа малы.

Сусед не вытрымлівае і выдае плён доўгіх роздумаў:

— Тэрарыста расьціце.

— Суседзяў чапаць ня будзем, праўда, Ясік? — пытаецца маці.

Дзядзька выскоквае на лесьвіцу.

Сёмы паверх...

*Аляксандар Лукашук*

*Станіслаў Высьпянскі, «Мацярынства».*



# Niemen і бацька мой

— Ты песьню хоць адну памятаеш?

— Прычым тут песьні? Ён абставіў усю сцэну апаратурай, зьлева й справа віселі чорныя зьвязкі калёнак з кажановымі крыламі й цмачынымі пашчамі. Ён стаяў на сцэне адзін: пачаўшы сьпяваць, кідаўся з боку ў бок, ад аднаго аргана да другога.

— Квіткі дарагія былі?

— Квіткі былі па тры рублі, але паважаныя людзі праходзілі ў гарадзкі дом культуры бясплатна...

Усьміхаецца бацька: адстаўны фарцоўшчык плытамі EMI, сьлесар пятага разраду на заслужаным адпачынку.

Адным вокам, праз шчыліну для ключа, пабываў і я на пінскім канцэрце Чэслава Немэна ў семдзесят шостым годзе.

*Ціхан Чарнякевіч*

*Чэслаў Немэн на канцэрце*



# Mein Kampf

Калі мама выказвае надзею на маё вяртаньне да прафэсіі настаўніка, мне хапае дзьвюх сэкундаў, каб «разагнацца да 100 км за гадзіну»... Але, на шчасьце, амаль кожны раз у пікавы момант згадваю ўратавальны заклён: «Мам! Давай ня будзем! Бо пасварымся!» Чую ў адказ: «Добра, добра! Не крычы на маці!» — і гутарка працягваецца ўжо ў мірным ключы на тэму далёкую ад прафэсіі, якой скарміў пяць гадоў маладосьці...

Адзін прыяцель, вярнуўшыся з вайсковай службы, адзначыў: «Схадзіў у армію, каб зразумець, што туды ня варта было хадзіць». Вось і ў мяне так. А можа, з раёнам не пашанцавала...

*Ігар Канановіч*

*Франчэска Бэргаміні, «Урок»*



# Здрадніца

Улетку 1937 году камандзір авіяпалка, дзе служыў мой дзед, засьпеў жонку з каханкам. Каханак скочыў у акно, а здрадніца пабегла ў НКВД. Дзе і напісала на мужа данос — маўляў, бачыла ў мужа здымак чалавека, падобнага да Троцкага.

Праз гадзіну допыту кампалка прызнаўся ў трацкізме і паказаў на саўдзельнікаў. Тыя таксама прызналіся і паказалі на саўдзельнікаў. У выніку чвэрць лётчыкаў былі расстраляныя ці зьняволеныя, а іх сем'і пайшлі ў «лягеры ЧСВР».

— Тая здрадніца першай ў лягер пайшла як «член семьи врага народа», — расказвала мне бабуля. — З мужам, якога расстралялі, яна так разьвесьціся і не пасьпела... А не пішы даносы!..

*Уладзіслаў Ахроменка*

*Джордж Генры Боўтан, «Канчаецца мядовы месяц»*



## Дзяржаўны бацька

ЗАГС. Чакаю даведку пра бацькаў сыход у іншы сьвет. У мажной дагледжанай кабеце пазнаю аднаклясьніцу.

Яна сарамяжліва пераказвае дзіваватую гісторыю: дачка нарадзіла дзіцятка не ў замужжы. У графе «бацька» папрасіла не пазначаць нікога. Чыноўнікі ўсё-ткі дапыталіся імя ды імя па бацьку адмаўленца ад сына. І ў пасьведчаньні бацьку спраўна запісалі — пад спадчынным прозьвішчам маладой маці. Так у дакумэнце гладзенька паўстала нібыта поўная сям'я — усе з адным прозьвішчам.

— Ён хлопчыка не прызнаў за свайго. А яму прысвоілі наша прозьвішча. Нікога нават не папыталіся, — абураецца знаёмка.

І дадае разгублена: «У нашай краіне бязбацькавічаў не бывае. Дзяржава бацьку вызначае».

*Антаніна Хатэнка*

*Рычард Рэдгрэйв, «Выгнаньніца»*



# Псыхоляг

Наша суседка працавала псыхолягам у школе. У яе быў муж і дачка студэнтка. Мы разам некалькі разоў на сьвяты пілі гарбату. Пры сустрэчы суседка як псыхоляг вучыла нас, як трэба жыць, каб усё было добра ў сямейным жыцьці, як у яе. І толькі мы пачалі верыць у псыхалягічныя парады, як адным восеньскім вечарам псыхоляг прыбегла да нас у кватэру са сьлязамі на вачах і крыкам: «Ратуйце! Мяне муж хоча застрэліць з паляўнічага ружжа!» Суседку мы ўратавалі, і яна недзе праз паўгода разьвялася з мужам, а яшчэ праз паўгода ад яе сышла дачка, каб жыць без парад маці-псыхоляга...

*Віктар Шніп*

*Гюстаў Курбэ, «Адчайны чалавек»*



# Суцяшэньне

Плача дачка... Так плача, што ў самога падкочвае камяк да горла.

«Маленькая мая, ну што ты, ну ня плач. Мой ты маленькі чалавечак»...

Гляджу на яе вялікія, мокрыя ад сьлёз вочы, кажу нешта... Суцяшаецца, прыслухоўваецца да маіх словаў. Я гладжу яе па галаве, адчуваю, як яна мяне абдымае.

Праз пяць хвілін дачка ўжо бегае па дзіцячай пляцоўцы, лепіць кулічыкі зь пяску, жыве ў сваім Дзіцячым сьвеце.

А ў мяне не праходзіць той камяк у горле. Пры адной толькі думцы, што гэтыя сьлёзы далёка не апошнія.

*Яўген Мартыновіч*

*Чарлз Бэртан Барбэр, «Адмысловы заступнік»*



## Што абараняе казку

Так хочацца стварыць казку сваёй малюпашцы, а Каляды — найлепшая нагода. Цудоўна назіраць за чаканьнем цуду і падарункаў. Але ня ўсе вераць у казку. Яшчэ менш — дораць казку іншым.

У гасьцях разгаварыліся пра Каляды, а тут малое суседзкае дзяўчо, у прысутнасьці нашай малюпашкі заяўляе:

— Нікакіх дедов марозов нет! Это радзіцелі падаркі падкладывают і ешчё обманывают! Мне папа расказывал!

Гляджу на малюпашку, а яна ўсё чула, але рэакцыя — нуль.

Праз некаторы час далікатна пытаюся пра тое, што яна пачула, а малая мне:

— А я гэта даўно ведала! Але мне ж падарункі прыносіць Сьвяты Мікалай, а ня дзед мароз.

*Ігар Кузьмініч*

*Ўільям Голбрук Бэрд, «Сьвяты Мікалай»*



## каханьне

спачатку я зьеў сьцірку на алоўку, потым сам аловак, а потым сшытак і закладку.

зьеў кардонкавую пяцёрку, матузкі і гузікі з кашулі.

зьеў палову шкарпэткі і стос фанцікаў ад жуек.

зьеў плястыкавую лінейку, якая давяла мяне да бальніцы.

я акрыяў і зьеў тузін дажджавых чарвякоў і стос казявак з носа.

зьеў формачку з пяском, і працьму травы.

я ня мог ня есьці, бо адносіны патрабавалі ад мяне быць мужным. бо яна глядзела на мяне ў дзіцячым садочку такімі прыўкраснымі вачыма і так прыгожа прамаўляла:

Ромка, калі ты мяне кахаеш, то ты зьясі гэтую асадку. — і я еў, бо кахаў.

*а. і. бацкель*

*Эўджэніё Дзампігі, «Любасьць»*



# Час чаканьня

Неверагодным па прыгажосьці чэрвеньскім днём мы бавілі час на вольным паветры, што, на жаль, апошнім часам бывае ня вельмі часта. Узьбярэжжа ракі, сьпевы птушак і ўласнаручна прыгатаваная ежа стваралі добры настрой і дазвалялі атрымліваць асалоду ад моманту. Вядома, адпачываць разам заўсёды прыемна, але нашмат больш утульна абмяркоўваць сумесныя пляны.

Апошнія навіны надаюць нам аптымізму і ўпэўненасьці ў будучыні.

Я глядзеў на свайго каханага і марыў пра тое, што аднойчы мы таксама зможам пабрацца шлюбам у нашай сінявокай краіне. Час чаканьня толькі ўмацуе нашае каханьне і сумесныя гады будуць і далей множыцца.

Я кахаю цябе, Андрэй.

*Зьміцер Прыгодзкі*

*Пая Яванавіч, «Упрыгожваньне маладой»*



# Клявэсын

Раяль — гэта 88 клявішаў, 3 пэдалі, 10 пальцаў і 2 нагі. Бо... бяз пальцаў і ног — ня будзе аніякай музыкі.

Белыя клявішы на раялі — галоўныя. Яны даўжэйшыя, і іх больш. Чорныя — крыху выступаюць над белымі. Яны карацейшыя, іх менш. Але... у адных без другіх ня будзе ніякай гармоніі.

Калі на раялі клявішы афарбаваныя наадварот — гэта клявэсын. Калі ўсе чорныя — трэба папросту падняць крышку.

...Так і я — без твайго дотыку — не жанчына. Адно прымае больш рашэньняў, але з другога — пачынаецца патрэба іх прымаць. Ролі ў нас паблытаныя, але музыка гучыць наўсьцяж. З клявэсыну — асабліва кранальная.

*Юлія Цяльпук*



*Франсуа-Юбэр Друэ, «Партрэт жанчыны»*

# Вецер

Надоечы ішлі мы з сынам са школы, як раптоўна наляцеў шалёны парыў ветру ды пачаў па-сапраўднаму зьдзімаць дзіця з дарогі. Той спалохана паклікаў мяне, а калі я падбегла ды прыціснула яго да сябе, зрабіў мне вымову: «Ты ж трымай мяне моцна, дзеткі — гэта такое багацьце! Бо калі мяне аднойчы зьдзьме вецер, іншага такога ўжо ніколі ня будзе, разумееш?»

Я нічога не адказала, толькі яшчэ мацней прыгарнула яго.

І раптам захацелася вось так абняць кожнага, каго, магчыма, зараз зьдзімае халодны вецер адзіноты, і сказаць: «Трымайся! Ты патрэбны, ты — багацьце, трымайся! Бо калі аднойчы цябе зьдзьме, іншага такога ўжо ніколі ня будзе».

*Наста Кудасава*

*Жан Батыст Каміль Каро, «Ветранае надвор'е»*



## «Рыцарскі раман»

Ён закахаўся ў яе ў першы дзень адпачынку і ўсяляк гэта дэманстраваў. Яна зрабіла выгляд, што нічога ня бачыць.

Ён надраў ёй букет з бліжэйшае клюмбы. Яна назвала яго гопнікам і цітушкам.

Ён запрасіў яе на танец на дыскатэцы. Яна сказала, што ён адтаптаў ёй усе ногі.

Ён у роспачы стаў пасярод двара і голасна, каб усе чулі, выгукнуў: «Ды я дзеля цябе... што хочаш зраблю! Хочаш — паліць кіну?!.. А хочаш — запішуся ў Нацыянальную Гвардыю і паеду страляць сэпараў на Данбасе?!..»

...Чарнігаў, летнік. Чатырнаццацігадовы хлопец безнадзейна закахаўся ў маю дачку, якой толькі трынаццаць.

Праўдзівы рыцарскі раман у сучасных украінскіх рэаліях.

*Уладзіслаў Ахроменка*

*Фрэнк Дыксі, «Бязьлітасная прыгажуня»*



# Любоў

Крама зачыняецца. Трэба пасьпець. Цёмна. У тарцы майго дому сьвеціцца акно, зь якога лятуць гукі гульбы. На акно глядзіць маладая кабета. Вяртаюся. У двор заяжджае міліцэйскі легкавік. Спыняюся, запальваю цыгарэту, гляджу.

Міліцыянты дзелавіта дастаюць аўтаматы «калашы» і бронекамізэлькі. Экіпіруюцца. Падыходзяць да жанчыны.

— Там, — кіруе рукой на акно спадарыня.

Прыветлівая, добра апранутая. Крыху разгублена ўсьміхаецца.

— Мне сказалі, што ён там.

Міліцыянты кажуць штосьці нягучна. Ня чую.

— Не, я не пайду, а раптам на мяне кінуцца?!

Міліцыянты штосьці кажуць, па жэстыкуляцыі бачна, што задаюць пытаньне. Кабета адказвае так, што чутна ўсяму двару:

— Не магу яго забраць.

*Севярын Квяткоўскі*

*Хэйнз Кінг, «Рэўнасьць і заляцаньне»*



## Чужы дождж

Я люблю яго! Вельмі! Даўно. Ён заўсёды прыходзіць летам. Разам з сонцам. Цёплы. Моцны. І заўсёды жаданы.

Я аддаю яму свае рукі. Твар. Цела. Растаю ў ім. Купаюся. Зь ім хораша сьмяяцца — ніхто ня чуе. Зь ім можна плакаць — сьлёз не відаць. Яго прыход нараджае катарсіс. І ён зусім не «сьляпы».

Мой любімы летні дождж!

Сёньня таксама ідзе дождж... Ідзе ўжо некалькі дзён. Здаецца, што вечна. Халодны. Нудны. Шэры. Сустрэча зь ім непазьбежная. Надзяваю гумовыя боты, бяру вялікі парасон і выходжу з хаты. Я пазьбягаю яго дотыку.

Гэты дождж ня мой!

*Вікторыя Грыніна*

*Чайлд Гасам, «Дажджлівы дзень, Бостан»*



# Пляма

Надвячоркам, вяртаючыся дахаты па вуліцы Каржа, здалёку ўбачыў пад балконам чатырохпавярховіка міліцэйскі УАЗік, некалькі дзясяткаў усхваляваных людзей і чырвона-белую стужку, якой было штосьці адгароджана. Падумаў: «Нехта скончыў жыццё самагубствам...» Падышоў бліжэй. На асфальце вялікая чорная пляма. Міліцыянэр складае пратакол. І раптам бачу, што ўсё гэта здымаецца на кінакамэру. І не на адну. «Што за фільм?» — пытаюся ў мужчыны, які трымае ў руках кіпу папер, і чую: «Пра любоў!»

Які ўжо дзень на тратуары, дзе здымалі фільм пра любоў, вялікая чорная пляма, што выконвала ролю крыві самагубцы. Які ўжо дзень я спыняюся непадалёку і назіраю: старыя, людзі майго ўзросту і маладзейшыя за мяне на гадоў дзесяць пляму абыходзяць, а ўсе маладыя ідуць, нягледзячы, што ў іх пад нагамі...

*Віктар Шніп*

*Аляксандр Кабанэль, «Афэлія»*



## танец

былі ў клюбе. кактэйлі на шнапсе. моцны тытунь. музыка. шматлюдна, цёпла і вільготна… нават горача.

назіраў, як танчыла мая сяброўка. танчыла з хлопцам, якога я ня ведаю, але ўжо ненавіджу.

я заўважыў, як падчас таго, як яе кружылі, нахілялі назад, моцна і адначасова далікатна трымалі за талію... гэты мужчынскі позірк, гэты бляск у яе вачах...

а яна ў сваю чаргу, расчырванелая, з раскудлачанымі даўгімі валасамі, уся адданая рытму, балянсу цела, блізкасьці подыху... назіраць за гэтым было адначасова зачараваньнем і болем, бо я разумеў, што часам лепей, калі табе здрадзяць у ложку.

*а. і. бацкель*

*Віктор Жыльбэр, «Баль»*



# Прэлюдыя

— Лінабда, — сьпявае Хусэйн і пачынае перакладаць залаціста-падсмажаныя баклажаны ў рондаль. Апечаныя сонцам і часам рукі са знарочыстай абыякавасьцю, за якой стаяць тоны падсмажанага і нарэзанага, імправізуюць.

Ёсьць, ёсьць у арабаў асаблівы талент — уменьне падкрэсьліць выключнасьць моманту! Баклажаны пласт за пластом перасыпаюцца куркумой і дробна нарэзанымі часнаком і пятрушкай... Крыху вады і нешта (пакуль невядома што) спакусьліва пачынае ўздыхаць на пліце.

— Паўгадзіны — і можам сядаць.

— Яшчэ паўгадзіны? Мы б ужо даўно ўсё зьелі. Падсмажылі б і зьелі, як дранікі. Паўтары гадзіны чакаць!

Водар павольна напаўняе пакой, думкі, размовы... Ты перажываеш пакутлівую асалоду чаканьня.

Прадчуваньне асалоды — гэта і ёсьць сапраўдная асалода.

*Хэльга Краўчанка*

*Адольф фон Мэнцэль, «Канцэрт для флейты з Фрыдрыхам Вялікім у Сан-Сусі»*



## Хутарская гасьціннасьць

1986 год, блізка Гальшанаў. Фальклёрная экспэдыцыя.

— Ды родненькія, ды калі ласачка!.. Франачак!.. — гаспадыня хутара совае грошы ўнуку. — Ходзь да крамы, а я засьпяваю!..

Неўзабаве мы, шчасьлівыя і падпітыя, слухаем аўтэнтыку:

*Агні гарацьь ціхенькія*
*А дымяць галубенькія!..*
*А цэдзяць у нас празь сітачка,*
*А гоняць акавітачку!..*

На стале — відавочна не «акавітачка», а паскудная «Московская водка» і «Столичная колбаса», прынесеныя Франачкам. Але зь сенцаў чароўна тхне беларускай кулінарнай казкай: настоянкі, паляндвіцы, кумпякі...

Нас гэтым чамусь не частуюць.

— Свойскае ніц не каштуе, — тлумачыць Франачак. — Госьцям тутай падаюць толькі «крамнае», за што грошы вытрачаюць... Каб ня думалі, што нам грошай шкода!..

*Уладзіслаў Ахроменка*



*Пэдэр Сэвэрын Крэер, «Сьвята мастакоў у Скагене»*

## Здаровае харчаваньне

Ідзем зь сябрам па Дрэздэне. Хочам штось зьесьці. Прапаную KFC.

— Не! — кажа. — Ні ў якім разе! Мы зараз у сям'і перайшлі на здаровую ежу. А гэтае хуткае харчаваньне — чыстая страта здароўя! Гэта шайзэ — есьці немагчыма. Лепш да мяне дахаты прыйдзем — жонка штось хуценька і смачна прыгатуе.

Хоць зь вялікай неахвотай, але пагаджаюся. Па дарозе доўга спрачаемся, што можна, а што ня варта есьці. Пра страшныя перадачы на тэлебачаньні аб тым, як дадаюць усялякае гаўно ў выглядзе хімічных дадаткаў, асабліва ў перапрацаваныя мясныя вырабы...

Прыходзім да яго дахаты. Жонка накрыла на стол.

Галоўная страва: сасіскі з макаронамі!

*Ігар Кузьмініч*

*Анібале Карачы, «Ядок фасолі»*



# Аладкі

На яе разьвітальнай вечарыне ва ўнівэрсытэце, якую сама і зладзіла для калегаў шаноўных, для студэнтаў, Паэтка прадказала:

Яна знойдзе справу, ня будзе аладкі пячы.

Сапраўды, справаў тых у яе — хоць адбаўляй. Здараецца, ужо і адбаўляе, бо не пасьпявае ўсюды. Але аладкі часам пячэ. Для сваіх дзетак, унука адзінага. Сустракала яго ў аэрапорце па прылёце з далёкае краіны, першае, што спытаў:

Аладкі для мяне сьпячэш?

Два гады мінула, як адляцеў ад яе, на многае забыўся, а пра аладкі памятаў.

Любіць пачаставаць мілых гасьцей, што ў яе кветкавы рай завітваюць. Смачныя аладкі, бо рэцэпт мае ад мамы, адмысловы, дасканалы: усё — на вока.

*Альжбета Кеда*

*Адрыян дэ Лелі, «Выпяканьне аладак»*



# Посуд

Посуд пасьля вайны ў хаце быў у асноўным з гліны ды дрэва. Разнастайны быў посуд: талеркі ды лыжкі, місы ды збаны, гаршкі ды таўкачы, гарлачы ды кубачкі. На кірмаш прывозілі самаробны посуд з усяго раёну: аж вочы разьбягаліся, гледзячы на гэткую прыгажосьць. На вазах стаіць, вока лашчыць! А як прыдбаеш што, падарунак ад майстра атрымаеш для дзіцяці: хлопчыку — сьвістульку, дзяўчынцы — ляльку.

А паглядзіш сучасны посуд, дык дзівісься: чаго толькі не панавыдумлялі! І хутка ў новым посудзе ежа гатуецца, і вітаміны зьберагаюцца, і сам посуд бязь печкі варыць...

Ды ў старым гліняным посудзе смачнейшая ежа была!

*Марат Баскін*

*Флорыс ван Схотэн, «Кухонная сцэна»*



# Доля там, дзе воля

Нешта добрае зрабіць, глянуць збоку, сказаць самому сабе: «І хапіла ж табе волі на гэта!» З ваколічнае глыбіні прыцягнуў днямі камень, які было не зварушыць, не пасунуць — кіло пад 100 ці мо болей. Ня друзачка на далоні! І даў жа рады: знайсьці-вывалачы старую каляску, агледзець яе тэхнічны стан, падпампаваць колы, пакласьці пад шурпатыя цяжкія бакі добрую посьцілку, не забыцца пра лом і рыдлёўку, падужацца з долам, нарэшце, пакласьці-ўскаціць на вазок і прывезьці да прыбранага месца.

А часам, едучы па дарозе, бесклапотна аб'едзеш-мінеш, не парупіўшыся прыбраць, старчак на шляху, ці, праходзячы міма, ня вырвеш з клюмбы благую травінку — не стае волі!

*Валер Дранчук*

*Жан-Франсуа Міле, «Селянін з тачкай»*



# Каб дабро не прападала

За нашай вёскай растуць грэцкія арэхі. Некалі гэтая дзялянка была ўскраінай вялізнага калгаснага саду. Цяпер яе вярнулі спадкаемцу колішняга ўласьніка, якога арэхі зусім не цікавяць. Ходзяць чуткі, што ён хоча прадаць зямлю будаўнічай фірме.

Дрэвы якраз пачынаюць плоданасіць. Летась я нацягаў у хату пад 10 кіляграмаў арэхаў, якіх ніхто не зьбіраў — запасу хопіць яшчэ на некалькі гадоў. Але жонка ўжо пачынае мяне цьвяліць: калі ж гэта я прынясу ёй болей?..

Яна — з гораду. А я — з хутару, на якім пасьля жніва хадзілі па пожні і падграбалі каласкі, а пасьля капаньня бульбы яшчэ раз пераворвалі загоны, «каб дабро не прападала».

*Ян Максімюк*

*Луіс Мэлендэс, «Натурморт»*



## Зямля: парадак і памяць

Не люблю корпацца ў зямлі. Брудна, нудна, цяжка. Але тут на дачы давялося капаць траншэю. Натыкаючыся на старыя боты, капронавыя панчохі, пляшачкі з-пад пэніцыліну, падумаў: а на якую халеру гэта закопвалася? Навошта хаваць рэчы, нібы нябожчыкаў? Парадак на зямлі па-беларуску? Каб зьверху чыста, а ў нетрах — праблема самой зямлі? Хай «ператраўлівае» гуму, капрон, плястмасу...

Сьвятая наіўнасьць — вера ў зямельку-маці, якая ўсё вытрывае. Мо лепш па-індыйску: пакінуць сьмецьце сонцу, ветру, вадзе? Яны зробяць гэтую справу хутчэй? Не! Мы шкадуем свае рэчы, бо аддаючы іх зямлі, спадзяемся на памяць. Самую надзейную ў прыродзе — памяць зямлі.

*Васіль Аўраменка*

*Леон Камэр, «Патоп»*



# Коні

Мы назвалі яго Адольфам. У той час па тэлевізары паказвалі сэрыял «Дзяжурная аптэка», і каню наўмысна падбіралі імёны герояў зь любімага шоў. На ўсе прапановы ён адмоўна хітаў галавой, і толькі імя Адольф упадабаў — нібы пагадзіўся адгукацца на яго.

Дзядуля ўпарта клікаў каня проста Шэрым, а пасьля, як і ўнукі, пачаў ласкава называць яго Адольфікам.

Адольф састарэў, і дзед набыў мужнага Буяна, вялікага і моцнага. Ледзь не на другі дзень у хату завіталі цыганы ды прапанавалі памяняцца коньмі. Дзядуля пагадзіўся: усё роўна скралі б упадабанага жарабца. А так хоць нейкі каняка застанецца.

Так і прыжыўся ў гаспадарцы Буян-другі.

*Марына Весялуха*

*Джон Фрэдэрык Гэрынг (малодшы), «Коні на панадворку»*



# Бацькі і дзецi

Пасучы кароў, загналі статак напрасткі праз адкаласавалае жыта на сярэдзіну поля, дзе на месцы панскае сядзібы захавалася непрыдатная для ворыва лапіна з добрай травою. Кароў жыта не цікавіць, яны нікуды ня лезуць, скубуць траву, ляжаць на ёй. Мы дасыпаем недаспанае, ямо і гуляем. Наша баба з-пад рукі пільна сочыць за падзеямі з хутара на пагорку. «Столькі збожжа спляжылі!» — дакарае па нашым вяртаньні. Яе дачка — маці маіх стрыечных калег па пашы — удакладняе: «Ды халера зь ім, з гэтым калхозным жытам. Добра што старшыня не наехаў. От даў бы штрафу!» Гора-пастухі толькі пасьмейваюцца. Ані сорам, ані страх сялянскі іх ужо не кранае.

*Яўген Чапко*

*Франц фон Ленбах, «Пастушок»*



# Медны таз

У кожнай хаце ёсьць рэч, якая перадаецца ў спадчыну. Звычайная рэч — напамінак аб мінулым. У нас гэта быў бліскучы медны тазік, у якім бабуля, а потым мая маці гатавалі варэньне. У двары ставілі трохкутнік, бацька наразаў тонкія бярозавыя лучынкі, і маленькае вогнішча лашчыла тазік пад салодкае вуркатаньне ягадаў. У эвакуацыю бабуля яго не ўзяла, не да таго было. Лічыла, што згубіла яго назаўсёды. Але калі вярнулася ў мястэчка, таз прынесла вясковая жанчына, якая забрала яго, калі у мястэчку былі немцы:

— Мне чужога ня трэба. Дзякуй Богу, вярнуліся, і я вам тазік вяртаю!

*Марат Баскін*

*Жан Батыст Шардэн, «Натурморт са ступай, тазам, медным катлом, цыбулінамі і нажом»*



# Самае смачнае ў сьвеце піва

Аднагрупнік набыў у краме смачнае піва.

— Беларусы такога варыць ня ўмеюць — у нас адна газіроўка са сьпіртам.

Я пагаджаюся, толькі за беларусаў мне крыўдна.

— Што за піва? — пытаюся.

— «Dinaburg» называецца, нямецкае, напэўна.

Насамрэч латыскае. Дынабург — нямецкая назва цяперашняга Даўгаўпілсу, колішняга Дзьвінску. Гэта Латгалія — край, заселены пераважна беларусамі, працяг Полацкай зямлі. Цяпер беларусы там папераапісваліся рускімі, палякамі, латышамі... Але гледзячы па крыві, атрымліваецца, што якраз беларусы вараць смачнае піва «Dinaburg».

З гісторыяй і геаграфіяй у нас бяда. Лаюць (заслужана) беларускае, хваляць самае лепшае «нямецкае» і ня маюць зялёнага ўяўленьня, наколькі ў гэтым сьвеце ўсё ня так.

*Сяргей Дубавец*

*Вільгельм Цымэр, «Піўны рэстаран з аркестрам»*



# Пан вялікі

Пакідаючы родны куток сярод белай бязьмежнай прасторы, выношу з хаты рассоўнае летняе крэсла, стаўлю яго на сьнег, захінаюся ў кажушок, усаджваюся, прымаючы найлепшую ўтульную позу, і працягваю жонцы фотаапарат — прашу зрабіць мне партрэт з выглядам на Поўнач, дзе поле, пойма рачулкі і туманны асьнежаны гарызонт за гарою... Гэта ад маёй, ужо пажыцьцёвай нязьменнай радасьці — бачыць менавіта гэты паўночны бок зімовага краявіду на спадчынным хутары як самы цёплы для вока...

Вярнуўшыся ў горад, разьмяшчаю партрэт у фэйсбуку. Першы камэнтар не прымусіў доўга чакаць. «Пан вялікі!» — напісала сталая сяброўка. А праз колькі гадзінаў вынікі статусу перасягнулі «чаканую» колькасьць упадабанак.

*Валер Дранчук*

*Клёд Манэ, «Павозка. Засьнежаная дарога каля Анфлёр»*



# Пакінутая хата

Каму належыць хата, у якой перасталі жыць?

Фармальна яна, канешне, камусьці належыць — калі гаспадары зьяжджаюць назаўсёды або паміраюць, хата застаецца юрыдычнаму спадкаемцу. Але ў «людзкім» сэнсе — чыю долю яна захінае ад чужых вачэй? чый сон ахоўвае? каму ў ёй радасна на Каляды?

Дваццаць гадоў таму, пасьля сьмерці бацькі, мы з братам забіралі маму з нашай хутаранскай хаты ў горад. Мама паглядзела на два клункі са сваімі рэчамі і сказала:

— Усё, што я нажыла за сорак гадоў. Нічога больш мне тут не належыць.

Юрыдычна хата засталася нам з братам. Але наша доля таксама пакінула роднае гняздо.

Хата бяз долі — нічыйная.

*Ян Максімюк*

*Джордж Морланд, «Зімовы краявід»*



# Дзьве душы. Год 2016

Красавік! Дзень адолеў ноч, сонца набрыняла цяплом, паглыбелі выбоіны асфальту, паднялася расада на падвоканьнях кватэр. Ачуняла другая душа: пацягнулася да зямлі, ад зімовага, віртуальна-бюракратычнага існаваньня сярод чужых сэнсацый — да сваіх, будзённых рытуалаў-клопатаў пра будучы ўраджай. І чым далей адплываеш ад сярэдзіны жыцьця, тым ясьней разумееш — зямля ніколі не адрыне цябе, але прыме і зразумее любым, якім бы ты ні быў.

Тое, што ў беларуса ёсьць дзьве душы — сучасна-ўрбаністычная і старая, вясковая — не загана, а наканаваньне. Бо як ніколі мы цалкам не аддамося ўсходняму ці заходняму Цмоку, так ніколі не зрачомся адвечнага шляху зямлі дзеля ракавых новаўтварэньняў гарадоў.

*Васіль Аўраменка*

*Уінслаў Гомэр, «Хлопцы на выгане»*



# Пазычаны розум

Два браты прыехалі ў госьці да старога бацькі. Старэйшы працуе на заводзе мэханікам, а ня простым рабочым, як малодшы, да таго ж машыну купіў. Таму, відаць, адчувае сябе сярод родзічаў маральным аўтарытэтам.

— Кожны чалавек павінен у сваім жыцьці пабудаваць дом, нарадзіць сына і пасадзіць дрэва, — узяўшы чарку, павучальна прамаўляе ён шматкроць чутае, быццам нейкую неверагодную мудрасьць.

Зірнуў на малодшага, пасьміхнуўся, скрывіўшы рот:

— Ну а ты, Андрэй, ці пасадзіў за сваё жыцьцё хаця адно дрэва?

— Так, на школьным васкрэсьніку, — упэўнена адказаў малодшы. — Я ўжо трыццаць гадоў бацьку гарод саджаю, а ты ці пасадзіў хаця раз?

*Тацяна Барысік*

*Каміль Пісаро, «У агародзе»*



# Час касьбы

Ляжу на скошанай траве. Непадалёку бацька на купіне курыць. Нам няма куды сьпяшацца. Дзялка скошана, а да заходу сонца яшчэ далёка. Па мне поўзаюць рудыя мурашкі. Адна ўкусіла за нагу. Балюча. Укушанае месца пачынаю драпаць і, пабачыўшы кроў, думаю: «Убачыла б мама, накрычала б, каб так болей не рабіў». Але мамы побач няма. Няма і бацькі, і я ляжу на зялёнай канапе, як на скошанай траве. І мне няма куды сьпяшацца. У мяне баліць горла, і мне трэба папраўіцца. Наперадзе выхадныя, і я, магчыма, паеду касіць траву каля роднай хаты, дзе, відаць, насьценны гадзіньнік, заведзены два тыдні таму, спыніўся. І ў хаце ціха-ціха, як у закінутым вульлі, што стаяў каля дзялкі, калі мы з бацькам былі касцамі...

*Віктар Шніп*

*Леон Агюстэн Лерміт, «Касьба»*



# Галоўнае ў жыцьці

У бабулі — «сельгасработы». Безь мяне як асноўнай «цяглавай сілы» — ніяк. Адпрацаваўшы пару гадзін, прыселі ў цяню — перадыхнуць і пачакаць, пакуль вялізнае, паважнае воблака напаўзе на сонца.

Заўважыўшы маю лёгкую стому, бабуля падбадзёрвае:

— Нічога, унучак, справімся! Глянь, асталася менш, чым зрабілі!

І рэзюмуе ўлюбёнай фразай:

— Глаўнае ў жызьні — гэта цярпеньне!

— Галоўнае ў жыцьці — гэта шчасьце, — не вытрымліваю я.

— А-а... ну да-да-да! — пасьпешліва згаджаецца бабуля і адварочваецца, нібы кагосьці вызіраючы на дарозе...

*Ігар Канановіч*

*Жан Франсуа Міле, «Зьбіральніцы каласкоў»*



# Прыгажосьць

Што толькі не рабілі, каб упрыгожыць жыцьцё ў пасьляваенныя бедныя гады. Анічога не выкідвалі ў сьметнік. Усе ішло ў справу. Розныя часопісы друкавалі парады, як рабіць самаробкі амаль зь нічога. Памятаю, як маці рабіла маленькія круглыя дыванкі з падраных панчохаў. Яны зьзяючымі лапікамі ўпрыгожвалі падлогу. Цётка Адэля старыя боты, якія ўжо ня браўся рамантаваць ніводзін шавец, рэзала на невялічкія кавалачкі скуры і рабіла рыдыкюлі, ад якіх не адмовілася б ніводная сучасная модніца. Сусед насупроць з пачкаў ад запалак майстраваў шуфлядкі для рознай дробязі... Што ні хата, то свая прылада!

А што робяць цяпер?

*Марат Баскін*

*Аляксей Багалюбаў, «Старызьнік»*



# Певень

Кожнага ранку а шостай на вёсцы мяне будзіў певень. Яго кукарэканьне мяне раздражняла, і хацелася адкруціць яму галаву.

Пасьля прыезду ў горад мне не хапае яго сьпеву і паху вёскі. Нам, гарадзкім жыхарам, пахі вёскі запомніліся па-рознаму: камусьці вёска пахне яблыкамі ды сенам, а камусьці — сьмярдзіць гноем.

Для мяне вёска — гэта ранак, певень і пах яек. Гарадзкія яйкі я ня надта люблю, а ў вёсцы яны пахнуць па-асабліваму.

А певень — спытаеце вы? Певень у горадзе — гэта назва крамы і цукеркі, а таксама ранішняя мэлёдыя будзільніка ў тэлефоне.

*Андрэй Мялешка*

*Карл Юц, «Пад пільным вокам»*



## Бацька і праца

Чым далей жыву, тым больш разумею, як мне далёка да свайго бацькі!

Здаецца, што я раблю? Спрабую нешта ствараць, вучыць дзяцей, спрабую быць добрым бацькам і мужам...

Але калі я бачу, як «гарыць» у бацькавых руках праца, як ён разважліва, з упэўненасьцю майстра бярэцца за справу (будуе дом, рамантуе розныя рэчы, якія ў яго руках «ажываюць», зьбірае з разнастайнага «сьмецьця» трактар...), то ўсе мае «дасягненьні» блякнуць на яго тле.

І я адчуваю, як жа мне да яго далёка!

І радуюся, што ў мяне ёсьць чалавек, ад якога так шмат чаму можна навучыцца...

Пакуль яшчэ ня позна!

*Яўген Мартыновіч*

*Жан-Франсуа Міле, «Сейбіт»*



# Паказьнік аўтараў

# Пра ўкладальніка



Ян Максімюк нарадзіўся ў 1958 годзе на Беласточчыне, у вёсцы Ляхí. Закончыў фізычны факультэт Варшаўскага ўнівэрсытэту.
Да журналісцкага занятку прымерваўся ўжо ў студэнцкія гады — у пачатку 1980-х гадоў заснаваў і рэдагаваў у Варшаве часопіс студэнтаў беларускай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы «Сустрэчы».
У 1989–1993 гадах працаваў журналістам у беларускамоўным тыднёвіку «Ніва» ў Беластоку.
Ад 1998 году — на Радыё Свабода ў Празе.
Выдаў дзясятак кніг зь перакладамі беларускай літаратуры на польскую і сусьветнай літаратуры на беларускую мовы.
Выпрацаваў пісьмовы стандарт гаворак беларусаў Падляшша пад назвай *падляскай мовы*.
Жанаты. Мае двух сыноў і дачку.

## Summary

This book is an anthology of 300 texts by one hundred authors culled from the "100 Words" column of RFE/RL's Belarus Service website. The column, which debuted in November 2014 and appears six times a week, offers a unique opportunity for professional and amateur writers in Belarus to express themselves freely on a variety of personal as well as public topics. The published texts are limited to 100 words, and are illustrated by European or American paintings from the 19th century and earlier epochs. The column's curator Jan Maksymiuk describes the project as "an ambitious attempt to create a spiritual portrait of cultured Belarusians in the early 21st century."

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03–25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў передачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.










**Жыццё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.

*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.

*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.







**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.

*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.